# ПЛЯТОН

З С Э Р Ы І

# ВЫБРАНЫЯ ДЫЯЛЁГІ

З ДАДАТКАМ

ГРЭЦКА-БЕЛАРУСКАГА СЛОЎНІКА

# PLATO

# *Gorgias*

In Byelorussian

Translation from Greek text

Preface

and

Commentary

by

John Piatroŭski

WITH A VOCABULARY

1973

# ПЛЯТОН

Выбраны дыялёг

# Ґ О Р Ґ І Я С

З грэцкага тэксту на беларускую мову пераклаў,
папярэдзіў уводзінамі і агледзіў камэнтарамі
ЯН ПЯТРОЎСКІ

З ДАДАТКАМ

ГРЭЦКА-БЕЛАРУСКАГА СЛОЎНІКА

1973

Маёй жонцы, Аліцыі, у выражэньні глыбокае
ўдзячнасьці за аказаную ўсебаковую
прыхільнасьць і супрацу ў прадпрыняцьці
высілку выпуску ў сьвет на беларускай
мове выбраных дыялёгаў вялікага Плятона

– прысьвячаецца

# УВОДЗІНЫ

Калі праўдаю ёсьць, што "наша эўрапэйская цывілізацыя бярэ свой пачатак у Грэцыі" /I/, тады ніякая натуга ня можа быць за вялікаю, каб пазнаць і зглыбіць той першапачатак, які спрычыніўся да фармацыі новых паглядаў у сьвеце чалавека, да ступені разьвіцьця палітычна-грамадзкага, духовае як і матэрыяльнае культуры, да няўхільнага разьвіцьця зь меней да болей заавансаваных этапаў цывілізацыі, у тым глыбокім пераканаНьні, што пазнанае спрычыніцца да цясьнейшага злучва паміж нашымі духовымі прашчурамі і намі, каторыя сягоньня змагаюцца за тыя самыя ідэалы, якія былі пуцьцяводным сьвятлом старажытным грэкам учора.

=

Кажны з нас, хто чытае дыялёгі Плятона, ставіць сабе пытаньне: Што́ ёсьць у Плятона, што гэтак захоплівае чытача? - І на гэтае пытаньне атрымліваецца гэтулькі адказаў, колькі ёсьць тых, што ставяць яго сабе.Неўта з англамоўных камэнтатараў адказвае тут адным кароткім словам - "magic". Можа ня ўся, але нейкая доля праўды ў гэтым ёсьць. З творчасьці Плятона, запраўды, дыша нейкая чароўнасьць, якая вабіць да сябе чытача і напаўняе яго нейкаю інтэлектуальнаю асалодаю, якую не заўсёды можна выразіць словам чалавека.

К. Гарольд Кінґ /2/ ставіць гэткае пытаньне: "Чаму грэкі, ня жывучы ў мадэрных часох,былі гэтак "мадэрнымі"?" Пытаньне гэтае прыводзіць на ўспамін нашае першае чытаньне дыялёгаў. Чытаючы дыялёгі,мы не маглі дастаткова надзівіцца і сьцяміць зьявішча: У прадмове да дыялёгаў звычайна гаварылася,што дыялёгі былі напісаныя Плятонам некалькі стагодзьдзяў да нараджэньня Хрыста, а тое, што́ мы чыталі ў дыялёгах, тварыла ўражаньне, што дыялёгі былі пісаныя быццам толькі ўчора, што зьмест іх нейкі наш, сучасны нам, што Плятон якраз гаворыць пра тое самае, чым мы займаліся ўжо па-свойму перад гэтым.

Паміж тым, што́ мы дазнаём у штодзенным жыцьці і тым, чым займаецца Плятон з Сакратасам, існуе нейкая еднасьць, нешта блізкае, нешта непадзельнае і

праўдзівае. На помач тут прыходзіць ведамы ангельскі гісторык, Арнольд Джозэф Тойнбі, які сьцьвярджае, "што існуе выразнае падабенства паміж гэльленістычнаю цывілізацыяю і нашаю ўласнаю, і, што пытаньні, якія ўзьнікаюць перад намі сягоньня, зьяўляюцца аналягічнымі да тых, якімі займаліся старажытныя грэкі"/3/. Гэта і будзе, якраз, тое ў Плятона, дзе людзі, месца і час спатыкаюцца.

У аспэкце гаворанага трудна паўстрымацца,каб ня ўспомніць з таго, што гаворыць рэдактар А.Ф. Лосев у сваіх "Уступных заўвагах" да расейскага выданьня "Плятон - творы ў трох томах" /4/, якое ў гэтым часе выдаецца ў Маскве.

Лосев адразу на ўступе сьцьвярджае: "Імя Плятона зьяўляецца ня проста ведамым, значным або вялікім. Тонкімі і моцнымі ніцьцямі філязофія Плятона пранізвае ня толькі сусьветную філязофію,але і сусьветную культуру. Ня было яшчэ ў эўрапэйскай гісторыі пасьля Плятона ані воднага стагодзьдзя, калі-б не вяліся спрэчкі адносна Плятона, непамерна выхваляючы яго або на ўсе спосабы паніжаючы ў якім-небудзь дачыненьні... Сусьветныя рэлігіі,якія ўзьніклі пасьля Плятона, стараліся перацягнуць яго на сваю сторану, каб пры ягонай дапамозе абасноўваць свае навукі і, часта асягваючы ў гэтым свае мэты..."

У далейшым абзацу, пералічыўшы бадай-што ўсе гістарычныя напрамкі людзкае думкі, пачынаючы ад гэльленізму і канчаючы ўжо ў нашых часох ангельскімі эмпірыкамі, пачынаючы ад "грэкаў пэрыяду клясыкі і гэльленізму" і, пералічыўшы амаль усе ведамыя гісторыі ў гэтым дачыненьні імёны, "уключна да Гайзэнбэрґа і Шрэдынґэра", - Лосев катагарычна сьцьвярджае: "... - уся гэтая неабсяжная веліч розумаў вось ужо трэйцяе тысячалецьце спрачаецца, хвалюецца, несупакоіцца з прычыны Плятона, пяе яму дытырамбы або паніжаючы яго да ўзроўню мяшчанскае мярноты. Можна сказаць, што Плятон стаўся нейкаю вечнаю праблемаю гісторыі людзкае культуры, і пакуль-што не магчыма сабе ўявіць, калі, як,пры якіх абставінах і кім гэтая праблема будзе аканчальна вырашана".

Дачытаўшы да канца падобныя выказваньні расейскага камэнтатара, чытач ня можа абараніцца ад зьдзіўленьня. Зьдзіўленьне гэтае яшчэ болей узмацняецца, калі возьмецца пад увагу, што Лосев не адзін зьяўляецца адказным за падобнага роду выказваньні, што, без апрабаты чыньнікаў пастаўленых на

расейскім узьверсе ўрадавае піраміды, творы Плятона сягоньня ніколі не маглі-б пабачыць сьвету, нават праднaзначаныя на экспорт.

Як гэта!? Да гэтае пары мы ведалі, кім, калі, як і пры якіх абставінах праблема філязофіі Плятона "будзе аканчальна выравшана"! А вось цяперака выходзіць, што ўжо ніхто ня ведае?

Дый сама спроба расейскага выданьня, напэўна ня мае на ўвазе ўзлажэньня ляўровага вянка на галаву вялікага думаньніка.

Нам толькі прыпамінаюцца з "Сымпозыён" словы Сакратаса з канвэрсацыі з Аґатонам:

- Сакратас, - сказаў Аґатон, - запраўды, я не магу спрачацца з табою. Няхай будзе гэтак, як ты кажаш.

- Не, мой паважаны Аґатон, - адказаў Сакратас,- ты ня можаш спрачацца з праўдаю, бо з Сакратасам спрачацца ня ёсьць рэчаю труднаю /5/.

Яшчэ чатыры кніжкі расейскія ў рамах успомненых трох тысячалецьцяў, з адумыснаю задачаю,нічога новага не ўнясуць. Плятон, у пошуках праўды, і надалей астанецца на пэдэстале сваё філязафічнае думкі. Бо, як трапна сьцьвярджае Гантінґтон Кэйрнэс, "У выражэньні людзкае думкі філязофія Плятона зьяўляецца адзінаю ў сваім родзе, бо тое, што ён сказаў, было сьцьверджана толькі раз. Ягоныя вялікія камэнтатары, ад Арыстотэлеса да Гэґэля, чынілі спробу палепшыць яго. Ён быў паэтам, думаньнікам, навукоўцам - усім у вадным, і ніколі не існавала гэтакае злучэньне сілы, выражанае кім-небудзь перад ім або пасьля яго"./6/.

=

Філязофія даслоўна значыць - любоў мудрасьці або досьлед у напрамку знойдзеньня мудрасьці. Чытаючы дыялёгі Плятона і ў іх частыя выказваньні Сакратаса, можна прыйсьці да выснаву, што філязофія можа быць разглядана як навука ўнівэрсальная, якая мае на мэце выясьненьне ўсіх своеасаблівых зьявішчаў, назіраных у сусьвеце, як рэзультат апошніх прычынаў.

Грэкі ня мелі нахілу да фармуляваньня праўдаў і не накідалі абмежаваньняў што да самое філязофіі. Сакратас, майстра філёзафаў, ня цьвердзіў, што ён асягнуў мудрасьць або веду, але, што ён шукаў гэтую мудрасьць як і веду. Ягоная філязофія заўсёды была шуканьнем і ніколі агорнутаю ўжо хвормаю веды

або дактрыны. - У духу сакратычнага разважаньня, "...валадарства прынцыпаў і нормаў зьяўляецца даступным толькі праўдзіваму сьвятлу розуму. Розум зьяўляецца дарогаю да веды; ён гэтаксама зьяўляецца спосабам паступаваньня. Розум зьяўляецца сілаю; цнота - ведаю; згэтуль - добрае жыцьцё зьяўляецца разумным жыцьцём. Найбольшым злом зьяўляецца іґнаранцыя; іґнаранцыя ўкарэньваецца ў пэўнасьць самога сябе. Чалавек ня ведае, але, у сваей гордасьці, верыць, што ён ведае. Першы крок у навуцы - гэта зьнішчэньне псэўда-навукі ў самым сабе" /7/.

Гэта, зноў, прыводзіць да таго, што аднойчы казаў нямецкі філёзаф, Кант:

"Мы спадзяемся, што вучыцель учыніць із свайго слухача перш разважнага чалавека, пасьля - разумнага, і, нарэшце, вучонага.

Гэтакі падход мае тую карысьць, што, калі вучань нават і не асягне апошняе ступені, як гэта і бывае звычайна ў запраўднасьці, усё-ж ён атрымлівае карысьць з навукі і стаецца болей дасьведчаным і разумным, калі і не для школы, дык прынамся для самога жыцьця.

Калі гэтае зьявішча ўзяць наадварот, тады вучань хапае нешта падобнае да розуму перад тым, чымся ў ім выкрышталізуецца рассудак, і выносіць з гэткае практыкі навуку, якая быццам толькі прыклеена, але не зраслася зь ім, пры чым ягоныя духовыя здольнасьці асталіся гэтакімі-ж бясплоднымі, як і раней, але адначасна моцна сапсутымі ўяўленаю вучонасьцю. Тут і ляжыць прычына, чаму мы гэтак рэдка сустракаем вучоных /ляпей сказаць, навучаных людзей/, якія праяўляюць вельмі мала рассудку, і чаму з акадэміяў выходзіць на сьвет большая колькасьць недарэчных галаваў, чымся зь якое-небудзь іншае групы людзей".

У вадным із дыялёгаў /8/ Сакратас выясьняе сваю дзейнасьць, параўноўваючы яе да бабкі-павітухі. Бабка-павітуха - гэта, звычайна, старая жанчына, няздольная ўжо радзіць дзяцей. Яна ня родзіць сваіх уласных дзяцей. Яна толькі памагае іншым радзіць дзяцей. Гэтаксама і Сакратас - ён толькі памагае радзіць душы, думкі людзей. Плятон у сваіх дыялёгах ня прыносіць чытачу афармленыя і гатовыя ідэі. Ён толькі памагае чытачу радзіць сваіх уласных інтэлектуальных дзяцей. Філязофія Плятона, у гэтым сэнсе, не выяўляецца як закрытае кола цэласьці. Наадварот, замест гатовае цэласьці, ён ставіць пытаньні, на якія шукаецца адказу. У гэтых

пошуках мы нігдзе не спатыкаем у Плятона закрытае дэфініцыі або сфармуляванае праўды. І ў гэтым шырокім дыяпазоне свабоды думкі ляжыць актуальнасьць і веліч з глыбінёю філязофіі Плятона.

=

Чытаючы Плятона, родзіцца думка духова-палітычнае прагнозы, якую можна выразіць наступна:

Дзяржаўнае жыцьцё дадзенага народу жыве і падтрымліваецца пры жыцьці ягонаю інтэлігэнцыяю.Увесь сакрэт, здаецца, гэтага жыцьця - гэта прадбачлівасьць інтэлігэнтных людзей, у якім напрамку будзе ўкладвацца агульна людзкае жыцьцё, якія мецімуць месца ў гэтым жыцьці тэндэнцыі, якія ідэалягічныя напрамкі будуць надаваць вартасьць гэтаму жыцьцю. Інакш кажучы, павінны быць наяўнымі здольнасьці ў адхіленьні, да пэўнае ступені, заслоны выдарэньняў прышлых стагодзьдзяў; як жыцьцё народу будзе ўсуадношвацца да іншых народаў. Калі прадбачаньне сягае некалькі стагодзьдзяў наперад - тады мы можам гаварыць пра жыцьцяздольнасьць дадзенага народу і ягонае інтэлігэнцыі.

Гісторыя чалавека пастарчае безьліч пацьверджаньняў гэтага.

Сам Плятон пакідае нам выняткавы прыклад. Ён ня толькі пераканаты, ён ведае, што тое, што ён апавяшчае, будзе неабходнасьцю для прышлых пакаленьняў, калі толькі пакаленьні гэтыя захочуць астацца на ўзроўню свае індывідуальнасьці, свае годнасьці, і свайго духовага і матэрыяльнага прагрэсу, а што згэтуль выцякае - свае свабоды. І гэта якраз і ёсьць тое, што чыніць Плятона і вялікім, і несьмяротным, і першым з паміж вялікае пляяды думаньнікаў.Пасьля Плятона, выражаючыся агульна, прыходзіць хрысьціянства. Эвангэлі закранаюць зьявішчы з жыцьця чалавека прынцыповага характару з галіны этыкі. Гэта значыць, гэтакія зьявішчы, якія трывацімуць, праўдападобна, гэтак доўга, як доўга будзе існаваць на нашай плянэце род людзкі.

У шаснаццатым стагодзьдзі на гарызонце культурнага сьвету паяўляецца манах, Марцін Лютар, які ў прадбачаньні, калі гэтак можна сказаць,спросу прадукту між народамі, імкнецца завярнуць людзей да тых жаролаў, успомнутых вышэй, зь якіх выцякае квінтансэнцыя самогы духовага жыцьця.

Людзі, якія, сярод іншага, дарогаю адслоны спадчыны клясычнага сьвету, запачаткавалі ў пэрыядзе

паміж чатырнаццатым і шаснаццатым стагодзьдзямі,былі далёказыркімі. Твор іхны, хоць і абмежаваны адрэзкам часу, фактычна трывае і жыве ў нашых днях. Бо асьвета і роўнасьць між людзьмі астануцца зь імі назаўсёды.

У гэтым пэрыядзе часу інтэлігэнцыя дадзенага народу станула перад гістарычнаю адказнасьцю.Тыя народы, інтэлігэнцыя якіх знайшлася на ўзроўню прадбачлівасьці, занялі ў сьвеце культурным сваеасаблівую пазыцыю. Зноў-жа там, дзе гэткае прадбачлівасьці не назіраем, спасьцярожнай стаецца лінія распадзелу народаў. На адной старане, ухапіўшы мамэнт духовага прагрэсу, знайшліся гэтакія народы як: Францыя, Нямеччына, Англія, Скандынаўскія краіны, а пазьней Паўночная Амэрыка... На іншай старане іхным супроцьлежным эквівалентам знаходзяцца такія, як Гішпанія, Польшча, Вялікае Княжства Літоўскае, пазьней Лацінская Амэрыка і рад іншых краінаў.

Калі ідзе гутарка пра Вялікае Княжства Літоўскае, характэрна тут адцеміць дзейнасьць прагрэсыўнага Доктара Францішка Скарыны з Полацку, якая кіруецца ў напрамку духовага падняцьця свайго народу. Вымоўным фактам тут зьяўляецца тое, што дзейнасьць Скарыны прыпадае на час рэнэсансу і рэфармацыі на Захадзе.

Усе існуючыя да нашых дзён выясьненьні што да самое дзейнасьці і асобы Скарыны, прадпрынятыя небеларусамі як і беларусамі, ня прывялі да аканчальнага выясьненьня характару асьветніцкае працы вучонага. Духовы Скарына ўсё яшчэ для нас астаецца неразгаданым Сфінксам. У працэсе аналізы гэтае дзейнасьці, стаецца ясным, што дзейнасьць Скарыны, якая сваім зьместам сягала будучыні /9/, не знайшла ўзнаньня са стараны свайго народу. Сягоньня мы яшчэ ня ведаем дакладна якога роду была апазыцыя да натугаў доктара, але яна была. Скарына памер насамоце і забытым, гэтаксама як і забытай сталася ягоная спадчына. І патрэбнымі сталіся яшчэ чатыры стагодзьдзі, стагодзьдзі поўныя заняпаду агульнае ў народзе асьветы, паніжэньня і амаль-што ліквідацыі нацыі, каб нарэшце ацаніць асьветніцкую працу суродзіча з Полацку. Але гэта толькі рэторыка. Усё паказвае на тое, што ў пэўных колах беларускае інтэлігэнцыі XX стагодзьдзя гістарычная лекцыя не займела амаль ніякага практычнага значэньня.

І слушна, як нехта з разумных людзей сьцьвярджае: немагчыма для нацыі быць адначасна і беспрась-

ветнаю, і свабоднаю палітычна. - "Перадгістарычныя зьверы", нехта іншы кажа, "затым сягоньня называюцца перадгістарычнымі, бо яны не распазналі або ня ўмелі датарнавацца да тых зьменаў, якія займелі месца ў іхным часе".

Сягоньня, як і раней, вымагаецца ад кажнае інтэлігэнцыі здольнасьць прадбачыць. Калі мы хочам стацца тым, чым стацца мы жадаем, мы павінны прадбачыць, які ідэялягічны напрамак знойдзе зацікаўленьне, скажам, дзьвесьце гадоў ад сягоньня. Гэта можа для каго-небудзь гучэць як жарт, але мы далёкія ад жартаў. Бо, у залежнасьці ад нашае праґнозы і ад нашае паставы, якая будзе выплываць з гэтае праґнозы, гэтак будзе ўкладвацца нашая будучыня, і гэтак будуць ацэньваць нас тыя, ад ацэны якіх мы будзем залежнымі яшчэ доўга.

Праґноза, пра якую ідзе гутарка - гэта ня ёсьць тое, што можна бачыць у картах варажбіткі ці выяўляць выліты ў ваду воск. Праґноза, у дадзеным выпадку - гэта веда, мудрасьць і этыка ў спосабе жыцьця і паступаваньня ўзятыя разам. Гэта яны вядуць да тае мудрае палітычнае праґнозы, якая абясьпечвае правільны пагляд на жыцьцё, радасьць і шчасьце гэтага жыцьця.

Пакаленьні за пакаленьнямі, і стагодзьдзі за стагодзьдзямі маніфэстуюць пераказваньне таго, што агульна з часам прынята называць прагрэсам. На працягу мінулых некалькі дэкадаў нашае пакаленьне сталася сьведкам нячуванага на сьвеце поступу ў галіне навукаў і асабліва ў галіне тэхналёгіі і, пасьлядоўна, займеньня новых шляхоў у галіне людзкога духа. Учарашнія праўды, якія выдаваліся для многіх з нас непахіснымі, сягоньня паддаюцца перагляду і пераацэне.

Поступ, які адбываецца на нашых вачох, не зьяўляецца зьявішчам эксклюзыўным для пераживанага намі часу. Ён адбываўся і ў пэрыядах мінулых пакаленьняў, з тою толькі розьніцаю, што раней, калі сьвет выдаваўся значна большым, чымся сягоньня, выклікалася ўражаньне неапраўданага супакою і агульнага дабрабыту ў краю.

Народ у дадзеным пэрыядзе часу павінен бачыць неспасьцярожнасьць у зьменах. Гэта ёсьць тая праґноза, якая праяўляецца ў тым, што народная інтэлігэнцыя бачыць гэтую неспасьцярожнасьць, і гэтым самым трымае народ у духовай і палітычнай роўнавазе. З другой стараны, калі вядучыя колы ў народзе не спасьцерагаюць ніякіх зьменаў, ані іхнага напрам-

ку - вядзе гэта да няўхільнае дзяржаўнае катастрофы.

Яскравасьць тут выдарэньняў стаецца асабліва назіральнаю, калі мы супроцьпаставім шматлікія выдарэньні з сумнае мінуўшчыны нашае бацькаўшчыны - Літвы жыцьцю і змаганьню яе нашчадкам сягоньня.

Гэта ёсьць высна̄ў з гістарычнае лекцыі, і гэтакія думкі родзіць у нас Плятон.

=

Дыялёгі Плятона - гэта, сярод іншага, падручнік п р ы н ц ы п у, і пад гэтым кутом гледжаньня дыялёгі павінны чытацца.

Заавансаваны чытач павінен мець на ўвазе тую асаблівасьць у Плятона, што апошні пераважна займаецца паняцьцем прынцыпу, гэта значыць, першапачаткам, асноваю або выходным пунктам разважаньня ў якой-небудзь тэорыі, навуцы, акцыі і асабліва ў галіне маралі. Для думаючага чалавка Плятон дае ключ да падходу да самога чалавека і пазнаньня яго, да вырашэньня ўсіх тых праблемаў першараднае важнасьці, якімі чалавек можа займацца: да гэтакіх пытаньняў, як пытаньне духовага прабуджэньня, свабоды, арганізацыі, сродкаў, накіраваных дзеля рэалізацыі пастаўленых мэтаў і г.д. і г.п.

Для прыкладу, у нашай дзейнасьці, усё, што мы чынім, можна назваць творчасьцю ці пабудоваю. Ведама, пабудаваць хату можна і бяз пляну. Але пабудаваць моцны і добры дом - бяз пляну не магчыма. Гэтаксама рэч маецца і ў галіне грамадзкае дзейнасьці. Грамадзкую дзейнасьць можна праводзіць, ня маючы ніякага паняцьця аб існаваньні нейкіх прынцыпаў. Але праводзіць канструкцыйную і карысную для грамады дзейнасьць - можна толькі пры наяўнасьці прынцыпу. У сувязку з гэтым, нехта з дасьледчыкаў Плятона кажа: "Чалавек, каторы ведае што́ ёсьць правільным, паводля Сакратаса, заўсёды будзе чыніць тое, што́ ёсьць правільным. Той, хто паступае правільна, аднак-жа бяз яснае веды гэтага, знаходзіцца ў небясьпецы кажнае хвіліны ўпасьці ў памылку, і Сакратас параўноўвае яго да сьляпога чалавека, які крочыць па правільнай сьцежцы".

Грамадзка-палітычная дзейнасьць кажнага народу можа быць прагрэсыўнай, пад умоваю, што людзі на адказных становішчах чыняць розьніцу паміж дзейнасьцю, абаснаванаю на прынцыпе і дзейнасьцю прыпадкавых матываў, аблічаных на коньюнктуру дадзенае хвіліны. Клясычным прыкладам гэтага зьяўляецца кароткі вынятак з прамовы сэнатара і адваката з Кэнтакі, тады яшчэ кандыдата на становішча прэзыдэнта Злучаных Штатаў Паўночнае Амэрыкі, Абрагама Лінкольна, які, будучы маладым чалавекам стаўся аднойчы на рынку сьведкам гандлю і прадажы чалавека чалавекам. У перадвыбарнай кампаніі, свайму палітычнаму апанэнту Лінкольн, сярод іншага, казаў: "Гэта зьяўляецца справаю, якая будзе і надалей існаваць у гэтай краіне нават тагды, калі бедныя языкі судзьдзі Даўгляса і мой замоўкнуць. Гэта адвечнае змаганьне паміж гэтымі двума прынцыпамі - справядлівасьці і несправядлівасьці - на ўсім сьвеце. Гэта яны, гэтыя два прынцыпы, якія сталі тварам у твар з першых дзён існаваньня чалавека;і назаўсёды астануцца ў змаганьні між сабою. Адзін зьяўляецца звычайным правам людзкасьці,а другі боскім правам каралёў. Гэта той самы прынцып, ня гледзячы на хворму, у якой ён можа праяўляцца. Гэта той саму дух, які кажа: "Ты гаруй і працуй, і здабывай хлеб, а я буду есьці яго". Гэта без значэньня, у якой хворме ён прыходзіць, ці будзе гэта з вуснаў караля, які імкнецца сесьці на людзей свае ўласнае нацыі, каб жыць самому пладамі іхнае працы, ці пэўнае расы людзей з замерам паняволеньня іншае расы; гэта заўсёды астаецца той самы прынцып тыраніі" /I0/.

Публічнае агалошваньне прынцыпу - часта вельмі небясьпечная рэч. За гэткія спробы шматлікія зь людзей мусілі заплаціць уласным жыцьцём, выпіваючы атруту, будучы спаленымі на вогнішчах або сьмяротна раненымі стрэлам аружжа.

- І што ён лезе сьляпіцаю ў вочы зь нейкімі сваімі прынцыпамі, - казалі адны. - Кажнае-ж бо і дзіця ведае, казалі іншыя, - што Бог стварыў адных чорнымі, а іншых белымі; і мэта гэтага ясная: чорны мусіць гараваць, а белы - панаваць. - Разумнейшыя і болей заавансаваныя ў штуцы чытаньня даводзілі гэтакі стан рэчы, пакліваючыся на найбольшы тады аўтарытэт, бо на самога Арыстотэлеса. Расло незадаволеньне, сыпаліся пагрозы публічнага зьневажэньня, пабіцьця, ато і забіцьця.

Апошняе сталася дня I4 красавіка I864 г. Заба-

бонны фанатык і цемнашал, Джон Ўвількэс Бут, сьмяротна стрэліў у прэзыдэнта ў часе тэатральнага прадстаўленьня.

Можна высьмейваць лепшых людзей, можна іх біць, нават забіваць. Але прынцыпаў імі апавешчаных, ня можна зьнішчыць - яны несьмяротныя.

## ҐОРҐІЯС

Тытул дыялёгу "Ґорґіяс" выводзіцца ад уласнага імя сафістага, Ґорґіяса з Леантыну ў Сыцылії. Год нараджэньня Ґорґіяса і сьмерці рознымі дасьледчыкамі розна падаюцца. Агульна прынята, што жыў ён прыблізна ў гадох 485-380 п.н.э. Уважаецца за аснавапаложніка сафістыкі і чаловаю фігураю з пасярод вядамых сафістых, як Протаґорас, Гіппіяс, Продікос і іншых. Паводля традыцыі жыў да глыбокае старасьці. Быў вучням Эмпэдоклеса - філёзафа, які належаў да г. зв. школы плюралістых /плюралізм/ як супроцьстаўленьне школе моністых /монізм/. Ґорґіясавая галоўная праца "Пра натуру" або "Ня-існуючы" захавалася толькі ў нязначных фраґмэнтах, але сутнасьць Ґорґіясавага пагляду пераказанаСэкстусам Эмпірыкусам - філёзафам скэптыкам і лекарам з III ст.н.э.Філязофія ягоная зводзілася да нігілізму, выражанага ў трох залажэньнях: I. нічога ня існуе; 2. калі нічога ня існуе, дык яно стаецца непазнавальным; 3. калі нічога ня існуе і ня можа быць пазнаным, дык яно ня можа быць пераказваным. З гэтае прычыны аб'ектыўная праўда ня можа быць пазнанай, і ўсё, што астаецца - гэта мастацтва сафістыкі - пераконваньне /у судох, зграмаджэньнях.../ пры помачы рэторыкі адносна кажнае рэчы, з накіраваньнем да кажнае мэты, што ў пазьнейшых часох знайшло сваё выражэньне ў словах: мэта апраўдвае сродкі. Сафістыя ў Атэнах, як і ў іншых местах, падтрымлівалі існуючы стан рэчаў. Былі вандроўнымі прасьветнікамі старажытнае Гэльляды паміж пятым і пачаткам шостага стагодзьдзяў п.н.э. У адрозьненьні ад філёзафаў узбагачваліся платаю за навуку. Галоўным прадметам навучаньня сафістых, апрача філязофіі /як выражэньне пагляду на сьвет/, палітыкі - была рэторыка або красамоўства, а з гэтым цесна вязалася дыялектыка, як навука вядзеньня дыскусыі.

Характэрным для сафістых здавендаўна падаецца наступны пераказ:

Былы вучань спатыкае свайго вучыцеля, Протаґораса:

- Мы згадзіліся, - кажа вучань, - што я не заплачу табе да тае пары, пакуль ня выграю першае справы ў судзе. Прымем цяперака, што ты падаеш на мяне ў суд за незаплату мною табе ганарару. Калі я выграю справу, дык, паводля вырашэньня суду, я ня маю павіннасьці плаціць табе; калі, зноў-жа, прайграю справу ў судзе, паводля нашае дамоўленасьці, гэтксама я не павінен плаціць табе.

Дзякуючы ўжываньню імі вострага і часта памылковага развважаньня, сьцягнулі на сябе агульную нянавісьць і пагарду людзей.

З другой стараны, распрацоўваючы штуку красамоўства, сафістыя ўнесьлі свой значны ўклад у прадмеце ўзьняцьця грэцкае мовы на адпаведны культурны ўзровень з выразнаю прыкметаю пругожасьці ў ёй.

Ґорґіясу прыпісваецца многа паняцьцяў з галіны красамоўства як: фігуры Ґорґіяса, рэторычныя фігуры, фраззолёгічныя структуры, сынтактычныя структуры, пэрыяды рытмікі, вобразнасьць мовы, эмоцыянальны фактар у прамовах, экспрэсыя ў мове, мэтафорычныя выражэньні, параўнаньні ў мове, інвэрсыя ў пабудову сказу, якая адступае ад звычайнае /школьнае/ пабудову сказу, анафора - стылістычная фігура, якая выражаецца тым, што паступаючыя па сабе сказы або аднародныя часткі сказаў, пачынаюцца тым самым словам або выражэньнем.

У дыялёгу "Ґорґіяс" маем ілюстрацыю пагля́даў сафістых, якім супроцьставіцца тое, што́ сягоньня ведамым ёсьць як плятонізм.

=

На ўступе дыялёгу, у гутарцы паміж Ґорґіясам і Сакратасам, закладваюцца ўжо пэўныя асновы, наваколь якіх у далейшым ходзе канвэрсацыі будзе абяртацца сутнасьць думкі самога твору.

Тут сьцьвярджаецца, што "красамоўства... зьяўляецца... мастацтвам, якое апошнюю сваю мэту асягвае пры помачы слова", і пачынаюцца пошукі тае рэчы, "адносна якое накіроўваюцца словы, што належаць да мастацтва красамоўства". І гэтаю рэчаю, паводля Ґорґіяса, зьяўлаецца "тое дабро,... якое...зьяўляецца найбольшым і якое дае людзям свабоду і ў кажным паасобным чалавеку магутнасьць панаваньня над іншымі..."

Сакратас тут-жа сьцьвярджае, што мастацтва красамоўства "наагул не зьяўляецца мастацтвам".

Ґорґіяс зьяўляецца аўтарытэтам у прадмеце сафістыкі. Ён пераканаў, што пры помачы сілы слова, у дадзеным прадмеце, можна пераканаць кажнага чалавека і, асабліва, людзкую масу.

Вывязваецца дыскусыя. Сакратас, са своймаю яму гіроніяю, адказвае Ґорґіясу, што з выказваньняў апошняга многае астаецца няясным, бо існуюць іншыя мастацтвы, напраклад, якія, хоць і ня ўжываюць словаў або вельмі мала іх, гэтаксама пераконваюць людзей, і дамагаецца, каб Ґорґіяс болей паясьніў сваю думку. Пад націскам Ґорґіяс адказвае, "што красамоўства зьяўляецца мастацтвам пераконваньня ў судох і іншых зграмаджэньнях,... і распасьціраецца на справядлівае і несправядлівае". Дарогаю пытаньняў і адказаў Сакратас вядзе Ґорґіяса да пераканаьня, што "пазнаць" і "паверыць" або "веда" і "вера" - гэта ня ёсьць адно і тое самае, і, што калі маса людзкая пераконваецца пад узьдзеяньнем красамоўства, дык гэта толькі вера, але бяз веды. І што мае быць зь ведаю? Калі ідзе пра рэчы канкрэтныя ў дзяржаве, Сакратас утрымлівае, што патрэбна веда і рэчазнаўства, а ня тое, што чалавеку можа здавацца і ў што ён можа паверыць. Бо "красамоўца ня мае патрэбы ведаць праўды адносна дадзенага прадмету; усё,што ён патрабуе - гэта выкрыць нейкі сродак пераконваньня, што ён мае болей веды, чымся той, хто ведае". І далей Сакратас зводзіць сафістыку да ролі нейкага спрыцягі, які не патрабуе ведаць "з таго,што ёсьць добрае і што дрэннае, прыгожае і брыдкае, справядлівае і несправядлівае", але, выкарыстоўваючы красамоўства, можа чыніць зло, а той, хто вучыць гэтак пастурпаць, ня будзе несьці адказнасьці.

У гэтую крытычную хвіліну дыскусыі, калі Ґорґіяс ня можа абараніць свайго пункту гледжаньня, на помач яму выступае ягоны малады і парывісты вучань - Полёс. Што два супроцьлежныя пагляды сабою прадстаўляюць, найляпей выяўляецца з фраґмэнту дыялёгу паміж Полёсам і Сакратасам:

ПОЛЁС: Ці выдаецца табе, затым, што добрыя прамоўцы ў местах ня маюць большага значэньня, калі яны толькі ліслівымі хочуць быць перад людзьмі?...

САКРАТАС: Я думаю, што яны ня маюць ніякага значэньня.

ПОЛЁС: Як гэта ня маюць ніякага значэньня? Ці-ж ня маюць яны вялікае сілы ў местах?

САКРАТАС: Не, калі пад сілаю ты разумееш нешта добрае для таго, хто яе мае.

ПОЛЁС: Гэта якраз тое, што́ я разумею.
САКРАТАС: Калі гэтак, дык, я думаю, аратары ў месьце маюць найменшую сілу.
ПОЛЁС: Як гэта? Ці-ж не забіваюць яны як тыраны кажнага, каго толькі захочуць, не забіраюць маемасьці або не выганяюць зь места, каго ўважаюць патрэбным выгнаць?
САКРАТАС: Значыцца, дабро, па-твойму - гэта,калі безрасудны чыніць тое, што́ яму выдасца за найлепшае? І гэта ты называеш вялікаю сілаю?
Далей разьвіваюцца два супроцьлежныя сабе пагляды: Полёс выражае пагляд агульна прыняты сярод усякага асартымэнту дыктатараў, беспрынцыповых людзей і інтэлектуальна неразгорнутых.
Пагляд гэты аддае належную пашану сіле, нажыве, забойству і ў кажным выглядзе грабежніцтву. Пагляд гэты ня лічыцца з думкаю трэйцяе асобы і не зьвяртае ўвагі на цярпеньне іншага чалавека. Гэтаму пагляду, падтрымліванаму аграмаднаю большасьцю людзей, Сакратас супроцьставіць прынцып, выражаны ім словамі: "Найгоршае на сьвеце зло - гэта тварыць несправядлівасьць". "І, што несправядлівыя няшчаснымі зьяўляюцца". Прынцып гэты падтрымліваюць не шматлікія людзі, якія часта плоцяць за яго найбольшую цаны - бо цану свайго жыцьця. Але гэта тая квінтэнсэнцыя нашага быцьця, якая трымае ў роўнавазе гэтае быцьцё - гэта справядлівасьць,соль,любоў. У рэалізацыі гэтага прынцыпу стаяць дзьве альтэрнатывы: "чыніць несправядлівасьць або несправядлівасьць цярпець". Што́ з гэтых двух ёсьць лепшае - рашае сам чалавек.
Кульмінацыйны пункт у дыскусыі з Полёсам выступае ў мамэнце, калі Полёс прыводзіць на ўспамін тырана Архэляоса і ўсе тыя абставіны, якія таварышылі тырану ў здабыцьці абсалютнае ўлады.
Калі пасьля ўсіх выкладаных довадаў Сакратасам Полёс схіляецца на сторану лягічных вывадаў у галіне этыкі, у гутарку ўключаецца Кальлiклес.

=

Кальлiклес зьяўляецца вытраўным і дасьведчаным сафістым. Да гэтае пары ён прыслухоўваўся дыялёгу і дзівіўся зь нячуваных дагэтуль вывадаў Сакратаса адносна нормаў этычнага паступаваньня. І нарэшце, у поўабураным тоне ён адзываецца:
- Скажы мне, Хайрэфон, Сакратас паважна тут думае, ці проста жарты строіць?

ХАЙРЭФОН: Я думаю, Кальліклес, што ён вельмі паважна думае. Але найляпей запытаць яго самога.

КАЛЬЛІКЛЕС: На нябёсы, гэта і ўчыню я. Скажы мне, Сакратас, маем-жа мы думаць, што ты паважна цяпер гаворыш, ці жартуеш? Бо, калі ты паважна гаворыш і ўсё гэта праўдаю ёсьць, тады ўсё нашае людзкае жыцьцё перавярнулася-б дагары нагамі, і выглядала-б, што ўсё, што мы чынім, мы ня чынім як трэба, але наадварот?

І цяперака дыскусыя вывязваецца нанова паміж Кальліклесам і Сакратасам. Паводля Кальліклеса,Сакратас бярэ філязофію за паважна. Трохі філязофіі-гэта годная рэч, але аддавацца суцэльна ёй і да гэтага яшчэ ў пажылым веку - гэта шаленства. І ён са свомым для яго тупатам, пакліквaючыся на аўтарытэты літаратуры, цьвердзіць: "Ты ўтрымліваеш, Сакратас, што шукаеш праўду, а праўда вось у чым знаходзіцца: - раскошша, непаўстрыманасьць, свабода - у іх - ведама, калі абставіны да гэтага спрыяюць - знаходзіцца і цнота, і шчасьце; а ўсё іншае - гэта дзіцячая перабольшанасьць, супроцьнатуральныя цьверджаньні, пустыя гутаркі людзей, ня маючыя ніякае вартасьці". У прадмеце палітыкі, этыкі і справядлівасьці Кальліклес працягвае, што "сама... натура... даводзіць, што гэта справядлівым ёсьць - калі лепшы болей мае, чымся горшы, а сільны, чымся слабы. Паказвае яна гэта на чысьленых прыкладах сярод людзей як і сярод жывёлы, назіраем гэта паміж местамі, як і між расамі людзкімі, што сутнасьць справядлівасьці заключаецца ў тым, што: моцны пануе над слабым і мае болей". І далей: "...на аснове натуральнага права, як і павінна быць: валы і іншая ўласнасьць слабога і горшага павінны належаць да лепшага і магутнага".

Чытаючы ў Плятона падобнага роду выказваньні, цяжка надзівіцца, што філёзаф закранае пытаньні,якія актуальнымі былі тады і якія актуальнымі астаюцца і ў нашых часох. Плятон - гэта ня толькі літаратура. Гэта натхненьне дрэннаму стацца лепшым, крыніца сілы для слабога, і сьведамасьці стацца свабодным для паняволенага.

На ўсе вывады Кальліклесавыя Сакратас ведае толькі заўсёдытрываючае, што ён ужо казаў Полёсу, што: "Найгоршае на сьвеце зло - гэта тварыць несправядлівасьць"."І што несправядлівыя няшчаснымі зьяўляюцца", што чалавек павінен імкнуцца да дабра,і чыніць усякае стараньне палепшыць самога сябе.

"Гэтыя праўды, - казаў Сакратас,- якія,як я цьвер-

джу, выясьніліся ў бегу нашае гутаркі і замацаваньня – хоць гэта можа гучэць празьмерна груба – жалезнымі і непахіснымі абаснаваньнямі. І пакуль ты ці хто-небудзь іншы ня зьбіў іх, няма ніякае магчымасьці запярэчаньня таго, што я кажу. Бо мой пагляд заўсёды быў, што я сам ня ведаю як гэтыя рэчы ўсуадношваюцца, але, як да гэтае пары, вось як і цяперака, я не спаткаў нікога, хто мог-бы сказаць нешта іншае, не асьмешыўшы самога сябе".

"Затым, павер мне, – канчае свае вывады Сакратас, – і сьледуй за мною да мэты, асягнуўшы якую, як гутарка нашая выказала, ты будзеш шчасьлівым, гэтак у часе жыцьця як і пасьля сьмерці. І няхай іншыя пагарджаюць табою, няхай уважаюць цябе за нямудрага, няхай крыўдзяць, калі яны хочуць, няхай б'юць цябе, на нябёсы, – усё цярпі спакойна – і сорам, і біцьцё, памятаючы, што з табою нічога ня здарыцца дрэннага, калі ты, запраўды, годны чалавек і аддадзены цноце".

Ґэйнсвільл, Флёрыда
12 чырвеня 1972 г.

Ян Пятроўскі

=

У тым-жа перакладзе на беларускую мову
дыялёгі Плятона

Кніга першая

Абарона Сакратаса
Крытон
Файдон

Кніга другая

Сымпозыён
Іён
з дадаткам кароткага Грэцка-беларускага слоўніка

Выпісваць:

Mr. John Piotrowski
1716 N.E. 7th Terrace
Gainesville, Fla. 32601

# ҐОРҐІЯС

Асобы дыялёгу

Кальлíклес, Сакратас, Хайрэфон,
Ґорґіяс, Полёс.

Месца нарацыі – дом Кальлíклеса

КАЛЬЛІКЛЕС: Разумны чалавек, як гэта кажацца, 447
Сакратас, позьніцца да спрэчкі, але не на ўрачыстасьць.

САКРАТАС: Ці-ж бы, як той казаў, прыбылі мы на ўрачыстасьць, і запозна?

КАЛЬЛІКЛЕС: Дый яшчэ на якую пышную ўрачыстасьць! Бо вось толькі-што Ґорґіяс выявіў нам многа прыгожых рэчаў.

САКРАТАС: Вінаватым за гэта, Кальлíклес, зьяўляецца Хайрэфон, з прычыны якога мы забавіліся на рынку.

ХАЙРЭФОН: Нічога, Сакратас, наступства, якога я стаўся прычынаю, я адраблю; Ґорґіяс зьяўляецца маім прыяцелям і ён пакажа нам сваё мастацтва цяперака, або, калі ты жадаеш, іншым разам.

КАЛЬЛІКЛЕС: Як гэта, Хайрэфон, – Сакратас хоча паслухаць Ґорґіяса?

ХАЙРЭФОН: Так, гэта якраз і было нашым жаданьнем прыбыцьця сюды.

КАЛЬЛІКЛЕС: Тады, калі ласка, прыходзьце ў мой дом; бо Ґорґіяс затрымаўся ў мяне, і вы мецімеце нагоду пачуць яго.

САКРАТАС: Вельмі добра, Кальлíклес. Але ці захоча ён з намі весьці гутарку? Бо я хацеў-бы даведацца ў чым, фактычна, сутнасьць ягонага мастацтва, і чым зьяўляецца тое, што ён выкладае і вучыць; ён можа, як ты /Хайрэфон/ прапануеш, адлажыць гэта на іншы раз.

КАЛЬЛІКЛЕС: Нічога няма лепшага, як запытацца яго самога, Сакратас. І запраўды, адказваць на пытаньні зьяўляецца часткаю ягонага выяўленьня, і ён толькі-што сказаў, што кажны прысутны можа паста-

віць яму любое пытаньне, і ён адкажа на яго.

САКРАТАС: Прыгожа сказана! Хайрэфон, запытай яго.

ХАЙРЭФОН: І пра што я ма́ю запытаць яго?

САКРАТАС: Запытай яго, хто ён.

ХАЙРЭФОН: Як ты разумееш гэта?

САКРАТАС: Я разумею, што, калі-б ён быў рамесьнікам, які вырабляе абутак, дык ён напэўна адказаўбы табе, што ён зьяўляецца шаўцом. Ці не разумееш ты, што́ я ма́ю на ўвазе?

ХАЙРЭФОН: Разумею і запытаю яго. Скажы мне, Ґорґіяс, ці праўдаю гэта ёсьць, што́ Кальліклес кажа, пайменна, што ты прырок адказаць на кажнае пытаньне, пастаўленае табе?

ҐОРҐІЯС: Гэта праўда, Хайрэфон. Якраз гэта я толь-
448 кі-што сказаў; і я магу дадаць, што мінула ўжо многа гадоў, як ніхто ня ставіў мне новага пытаньня.

ХАЙРЭФОН: Тады, пэўна, ты лёгка адкажаш мне, Ґорґіяс.

ҐОРҐІЯС: Што да гэтага, Хайрэфон, ты можаш спрабаваць.

ПОЛЁС: На Зэуса, калі ты жадаеш, Хайрэфон, ты можаш дасьледзіць мяне гэтаксама; бо я думаю, Ґорґіяс, які гаварыў даўжэйшы час, чуецца змучаным.

ХАЙРЭФОН: Як гэта, Полёс, ты думаеш, што ты можаш ляпей адказаць, чымся Ґорґіяс?

ПОЛЁС: І якая-ж табе розьніца, калі я здаволю цябе сваім адказам?

ХАЙРЭФОН: Ніякае розьніцы. Калі ты хочаш, калі ласка, адказвай.

ПОЛЁС: Тады, пытай: -

ХАЙРЭФОН: Вось маё пытаньне: Калі-б Ґорґіяс меў мастацтва свайго брата, Гэро́дікоса, я́к нам трэба было-б называць яго? Ці не павінен ён мець тое самае імя, якое дадзена ягонаму брату?

ПОЛЁС: Напэўна.

ХАЙРЭФОН: Калі-б мы сказалі, што ён лекар, мы не памыліліся-б.

ПОЛЁС: Не.

ХАЙРЭФОН: І, калі-б ён меў мастацтва Арыстофо́на, сына Аґляофо́на, або ягонага брата, я́к мы тады правільна назвалі-б яго?

ПОЛЁС: Напэўна, маляром-мастаком.

ХАЙРЭФОН: Цяпер, у якім мастацтве сьведамым Ґорґіяс зьяўляецца, і як нам назваць яго, каб нам не памыліцца?

ПОЛЁС: О Хайрэфон, сярод людзей існуе многа мастацтваў, якія праз дасьведчаньне здольнасьцю ста-

лісяя, бо здольнасьць чыніць дні людзей праводзіць паводля мастацтва, а недасьведчаньне – паводля прыпадкавасьці, і розныя людзі розным спосабам атрымліваюць посьпех у розных мастацтвах, але лепшыя людзі ў лепшых мастацтвах, да якіх належыць і наш прыяцель Ґорґіяс, які ўдзельнічае ў найпрыгажэйшым з мастацтваў.

САКРАТАС: Я бачу, Ґорґіяс, што Полёс адпаведна падрыхтаваны што да вядзеньня аснаўное мовы, але ён ня выконвае свайго прырачэньня, якое ён даў Хайрэфону.

ҐОРҐІЯС: Што ты маеш на ўвазе, Сакратас?

САКРАТАС: Я маю на ўвазе, што ён ня зусім адказаў на пастаўленае яму пытаньне.

ҐОРҐІЯС: Тады пытай ты яго сам, калі хочаш.

САКРАТАС: Не, я барждзэй хацеў-бы прасіць цябе, каб ты згадзіўся адказваць сам: бо ўжо на падставе таго, што́ Полёс сказаў, ясна бачу, што ён болей заавансаваным зьяўляецца ў штуцы, якая называецца рэторыкаю, чымся ў дыялектыцы.

ПОЛЁС: Як гэта, Сакратас?

САКРАТАС: Бачыш, Полёс, калі Хайрэфон запытаў цябе, у якім мастацтве сьведамы Ґорґіяс, ты пачаў хваліць гэтае мастацтва, быццам яго нехта ганіць, але на пытаньне, чым гэтае мастацтва зьяўляецца, гэтак ты і не адказаў.

ПОЛЁС: Як гэта, ці-ж я не адказаў, што яно найпрыгажэйшае з усіх мастацтваў?

Сакратас: Так, запраўды, але ніхто ня пытаў, якое вартасьці мастацтва Ґорґіяса, толькі, чым яно зьяўляецца і як трэба яго дзелягэтага называць.І я
ўсё-ж прашу цябе, коратка і ясна, гэтак як ты адказаў Хайрэфону, калі ён цябе спытаў, сказаць, я- 449
кое, што́ гэта за мастацтва і якім імем павінны мы
называць Ґорґіяса: Або ляпей будзе, Ґорґіяс, дазволь мне зьвярнуцца да цябе з гэтым самым пытаньнем – як мы маем цябе называць і што́ гэта за мастацтва, якое ты вызнае́ш?

ҐОРҐІЯС: Мастацтва красамоўства, Сакратас.

САКРАТАС: Тады, мусім мы цябе называць красамоўцам?

ҐОРҐІЯС: І добрым, Сакратас, калі хочаш называць мяне гэтым імем, якім, як гэта кажацца ў Гомэра: Я хвалюся.

САКРАТАС: Гэтак хачу, запраўды.

ҐОРҐІЯС: Тады называй мяне гэтак.

САКРАТАС: І ці ня скажам мы гэтаксама, што ты зьяўляешся здольным учыніць іншых красамоўцамі?

ҐОРҐІЯС: Гэта якраз я і апавяшчаю – і ня толькі

тут, але на кажным іншым месцы.
САКРАТАС: Ці не захацеў-бы ты, Ґорґіяс, працягваць нашую гутарку гэтак, як мы яе цяпераказ вядзем, ставячы пытаньні і адказваючы на іх, а доўгія прамовы, якія пачаў быў Полёс, заашчадзіць дзеля іншае нагоды? Гэтаксама, трымай тое, што ты прырок і, калі ласка, адказвай коратка.
ҐОРҐІЯС: Часамі, Сакратас, даўжэйшыя адказы неабходнымі зьяўляюцца; але я ўчыню ўсё, каб яны былі як найболей кароткімі; бо і гордым з прычыны гэтага зьяўляюся я, ніхто ня можа сказаць таго самага карацей ад мяне.
САКРАТАС: Гэта якраз і ёсьць тое, што нам патрэбна, Ґорґіяс; выяві цяперака мне сваю каротка—моўнасьць, а доўгамоўнасьць пакажаш іншым разам.
ҐОРҐІЯС: Гэта я ўчыню, і ты прызнацімеш, што нікога і ніколі ты ня чуў, хто быў-бы болей ашчадным у словах, чымся я.
САКРАТАС: Добра, тады пачнем; ты ўтрымліваеш, што ў красамоўстве ты майстрам зьяўляешся і іншага можаш учыніць аратарам, тады дазволь мне запытаць цябе, у чым сутнасьць гэтага мастацтва? Сутнасьць ткацтва, напрыклад, заключаецца ў вырабе вопраткі. Ці ня гэтак?
ҐОРҐІЯС: Так.
САКРАТАС: Або мўзыкі - у тварэньні мэлёдыяў?
ҐОРҐІЯС: Але.
САКРАТАС: На Гэру, Ґорґіяс, я цешуся з прычыны тваіх адказаў, бо, і запраўда, адказваеш ты як толькі магчыма найкарацей.
ҐОРҐІЯС: Я думаю, Сакратас, што ў мяне гэта ня дрэнна выходзіць.
САКРАТАС: Добра кажаш. А цяперака адкажы мне гэтаксама добра адносна красамоўства: у чым заключаецца красамоўства як веда?
ҐОРҐІЯС: У прамаўляньні.
САКРАТАС: У якім, паймення, Ґорґіяс? Ці ня ў тым, у якім паясьняе яно хворым, пры якім спосабе лячэньня яны могуць паздаравець?
ҐОРҐІЯС: Не.
САКРАТАС: Значыць, красамоўства не распасьціраецца на ўсе прамаўляньні?
ҐОРҐІЯС: Пэўна, што не.
САКРАТАС: Аднак яно дае веду прамаўляньня?
ҐОРҐІЯС: Але.
САКРАТАС: І ня толькі пра што гаварыць, але гэтаксама трапна разумець гаворанае?
ҐОРҐІЯС: І як-жаж інакш?

САКРАТАС: А мастацтва лячэньня, пра якое мы вось 450
успомнілі, ці яно ня вучыць разумець і гаварыць пра хворых?

ҐОРҐІЯС: Напэўна.

САКРАТАС: Гэтаксама лячэньне, як выглядае, займаецца мовамі?

ҐОРҐІЯС: Так.

САКРАТАС: Мовамі пра хваробы?

ҐОРҐІЯС: Бясспрэчна.

САКРАТАС: А ці гімнастыка не займаецца моваю пра добры і дрэнны стан цела?

ҐОРҐІЯС: Запраўды.

САКРАТАС: І напэўна іншыя мастацтвы, Ґорґіяс захоўваюцца гэтаксама: - усе яны займаюцца мовамі пра рэчы, якія твораць сабою прадмет дадзенага мастацтва.

ҐОРҐІЯС: Гэтак выдаецца.

САКРАТАС: Калі ты адцемліваеш словам "красамоўства" мастацтва, што займаецца мовамі, дык чаму-ж, тады, не называеш "красамоўствам" іншыя мастацтвы, якія гэтаксама займаюцца мовамі?

ҐОРҐІЯС: Таму, Сакратас, што ў іншых мастацтвах уся практыка выражаецца амаль што фізычнаю чыннасьцю, як, напрыклад, рукі, і іншаю падобнаю дзейнасьцю; але ў красамоўстве нічога няма з чыннасьці рукі; ягоная дзейнасьць і штука выражаецца толькі дарогаю мовы. Затым бо я і ўтрымліваю, што красамоўства - гэта мастацтва ў галіне моваў. Затым і чуюся я апраўданым, цьвердзячы, што красамоўства займаецца мовамі.

САКРАТАС: Я не зьяўляюся пэўным ці я зразумеў цябе належна, але я спадзяюся хутка пазнаць ляпей. Адкажы мне толькі: ці прызнаём мы, што існуюць мастацтвы, так?

ҐОРҐІЯС: Так.

САКРАТАС: Наагул, усе мастацтвы, я думаю, у сваей бальшыні занятыя працаю і вымагаюць мала што або і зусім ніякае гутаркі; у мастацтве малярства, напрыклад, у скульптуры і ў іншых мастацтвах, працу можна выконваць у цішыні. Магчыма пра гэтакія мастацтвы ты скажаш, што яны не ўваходзяць у галіну красамоўства. Ці ня гэтак?

ҐОРҐІЯС: Ты вельмі добра агарнуў маю думку, Сакратас.

САКРАТАС: Зноў-жа, існуюць іншыя мастацтвы, якія асягваюць сваю мэту пры дапамозе слова, а руху, - калі гэтак можна сказаць, - фізычнага, зусім ня вымагаюць або вельмі мала, як, напрыклад, арытмэты-

ка, калькуляцыя, ґэомэтрыя ці гульня ў шашкі і лічныя іншыя, сярод якіх адны карыстаюцца словам і чынам бадай што ў роўнай меры, у іншых - і гэтых ёсьць болей - слоўны элемэнт праяўляецца ў большай ступені - яны суцэльна залежаць ад сутнасьці і сілы слова: і я здагадваюся, што ты, мусіць, усуаднощваеш красамоўства да гэтага праяву слова.

ҐОРҐІЯС: Ты праўду кажаш.

САКРАТАС: Усё-ж я ня думаю, каб ты, фактычна, назваў пералічаныя мною мастацтвы красамоўствам, хоць дакладнае выражэньне для гэтага, якое ты ўжыў, было, што красамоўства зьяўляецца мастацтвам, якога дзейнасьць і штука праяўляецца толькі дарогаю красамоўства; з гэтага, калі-б хто-небудзь хацеў прычапіцца да тваіх словаў, мог-бы сказаць: "Значыць, арытмэтыку, Ґорґіяс, ты называеш красамоўствам?" Але фактычна, я ня думаю, каб ты назваў арытмэтыку гэтаксама як і ґэомэтрыю красамоўствам.

451 ҐОРҐІЯС: Ты зусім трапна разважаеш, Сакратас, і разумееш мяне дакладна.

САКРАТАС: Ну і добра, тады, калі ласка, адказвай мне на пытаньне да канца. Калі красамоўства зьяўляецца адным із гэтых мастацтваў, якія пераважна карыстаюцца моваю і, калі аказваецца, што існуюць іншыя мастацтвы падобнага роду: папробуй, тады, паясьніць: на што павінна быць скіравана сіла, якая крыецца ў мовах, каб мастацтва сталася красамоўствам? Прымем, што нехта пытаецца мяне пра нейкае з успомнутых мастацтваў: "Сакратас, што гэта такое арытмэтыка?" і я адказаў-бы яму гэтак, як ты адказаў мне, што гэта адно із мастацтваў, якое выкрыла сваю сілу ў мове. І, калі-б далей запытаў: "На што скіравана гэтая сіла?" - я адказаў-бы, што на пазнаньне цотных і няцотных лікаў і на іх вялічыню. Або, калі-б запытаў зноў: "Чым зьяўляецца мастацтва калькуляцыі?" - я адказаў-бы, што і яно зьяўляецца адным з тых, якое мэту сваю асягвае пры помачы слова. І, калі-б яшчэ запытаў: "На што яна скіравана?" - я адказаў-бы гэтак, як урадоўцы ў Народным зграмаджэньні кажуць, "усё іншае, як раней", што ўва ўсім іншым мастацтва калькуляцыі аднолькавым зьяўляецца з арытмэтыкаю, бо-ж і яно накіроўваецца на тое самае, на цотныя і няцотныя лікі, і розьніцца толькі тым, што ў цотным і няцотным імкнецца абазначыць вялічыню як гэткую і яе суадносіны да іншых вялічыняў. І, калі-б хто-небудзь запытаў адносна астраноміі, я адказаў-бы, што і яна асягваецца пры помачы мовы і, мяне зноў запытаў:

"Але мова астраноміі накіравана на што́, Сакратас?" – я адказаў-бы, што на рух зор, Сонца, Месяца і на тое, як усуадношваецца хуткасьць між імі.

ҐОРҐІЯС: Ты трапна адказаў-бы, Сакратас.

САКРАТАС: А цяперака, кажы ты, Ґорґіяс. Значыць, красамоўства ўсё-ж зьяўляецца адным із тых мастацтваў, якое апошнюю сваю мэту асягвае пры помачы словаў. Ці ня гэтак?

ҐОРҐІЯС: Гэтак рэч маецца.

САКРАТАС: Скажы, калі ласка, на што́ гэтыя словы накіраваныя? Што́ гэта за рэч, адносна якое накіроўваюцца словы, што належаць да мастацтва красамоўства?

ҐОРҐІЯС: Гэта найбольшая, Сакратас, і найпрыгажэйшая з усіх людзкіх дзеяньняў.

САКРАТАС: Але і тут, Ґорґіяс, ты зноў адказваеш сумліўна і зусім няясна. Я думаю, што табе даводзілася чуць песьню падпітых на зборышчах людзей, у якой кажацца, што, першае – найлепшым за ўсё ёсьць здароўе, другое – прыгожасьць, і трэйцяе, паводля словаў паэты, які ўклаў песьню – чэсна нажытае багацьце.

ҐОРҐІЯС: Так, я чуў гэтую песьню. Але куды ты вядзеш?

САКРАТАС: Я манюся сказаць, што ствральнікі да- 452
бра, якое аўтар песьні выхваляе, гэта значыць, лекар, інструктар гімнастыкі і прадпрыемца, зараз зьявяцца перад табою і першы зь іх, лекар, скажа: "Сакратас, – скажа ён, – Ґорґіяс ашуквае цябе. Бо не ягонае мастацтва накіравана на найбольшае дабро для людзей, а маё". І, калі-б я запытаў яго: "А ты – хто? Скуль ты сьведамы ў гэтых рэчах?" – і ён, напэўна, адказаў-бы: "Я – лекар". – "Як я ма́ю разумець цябе? – я запытаў-бы яго. – Ці думаеш ты, што тваё мастацтва творыць найбольшае дабро?" – "І чаму-ж не, Сакратас, – адказаў-бы, мусіць, ён, – ці-ж здароўе не зьяўляецца найбольшым дабром? І якое-ж большае дабро могуць людзі міець, Сакратас?". Пасьля яго пачаў гаварыць інструктар гімнастыкі: "Я гэтаксама, Сакратас, зьдзіўленым быў-бы, калі-б Ґорґіяс паказаў табе, што сваім мастацтвам болей дабра творыць, чымся я – сваім". Гэтаксама і яго я запытаў-бы: "Хто ты, мой добры чалавеча, і што ты робіш?" – "Я зьяўляюся інструктарам гімнастыкі, – адказаў-бы ён, – а мой занятак – гэта чыніць людзей прыгожымі і сільнымі целам". Пасьля гэтага загаварыў прадпрыемца, і як мне здаецца, з пагардаю для ўсіх іншых: "Глядзі, Сакратас, ці знойдзеш ты ў

Ґорґіяса або ў каго-небудзь іншага большае дабро, чымся багацьце?" Тады-б мы сказалі яму: "Ты гэта той, каторы творыць багацьце?" – "Але", – пацьвердзіў ён. – "І хто ты?" – "Я – прадпрыемца". – "Ці ты ўважаеш, што багацьце мае быць найбольшым дабром для чалавека?" – запыталі-б мы. "Ведама",– адказаў-бы ён. – "Але, вось, Ґорґіяс тут цьвердзіць, што ягонае мастацтва ў параўнаньні з тваім, – зьяўляецца крыніцаю яшчэ большага дабра, чымся тваё", – адказалі-б мы. І тады ён напэўна запытаў-бы: "І што гэта за дабро? Няхай Ґорґіяс вытлумачыць". Цяпер уявем сабе, Ґорґіяс, што гэтае пытаньне ставяць табе яны і я, і адкажы, чым ёсьць тое, што, як ты цьвердзіш, зьяўляецца найбольшым дабром для чалавека і ты ўважаеш сябе за стварыцеля яго? Адкажы нам.

ҐОРҐІЯС: Тое дабро, Сакратас, якое, запраўды зьяўляецца найбольшым і якое дае людзям свабоду і ў кажным паасобным чалавеку магутнасьць панаваньня над іншымі, кажнаму у сваім месьце.

САКРАТАС: І чым, па-твойму, гэта зьяўляецца?

ҐОРҐІЯС: Здольнасьць пераконваць словам судзьдзяў у судзе, радных у Радзе і народ у Народным зграмаджэньні, як і людзей у кажным іншым палітычным зграмаджэньні. І, калі ты маеш гэтакую сілу пераконваньня ў слове, дык ты і лекара будзеш трымаць у паняволеньні, і інструктара гімнастыкі, а што да гэтага прадпрыемцы, дык і тут выявіцца, што ён не для самога сябе нажывае багацьце, але для іншых, для прыкладу – і для цябе, калі толькі ведаеш як гаварыць і пераконваць людзкую масу.

САКРАТАС: Цяперака, Ґорґіяс, я думаю, што ты зу-
453 сім акуратна высказаўся як ты разумееш мастацтва
красамоўства; і, калі я не памыляюся, ты ўтрымліваеш, што яно зьяўляецца здольнасьцю пераканаць іншага і, што ў гэтым уся ягоная сутнасьць і мэта. А мо' ты ведаеш што-небудзь іншае сказаць адносна красамоўства, апрача таго, што яно мае здольнасьць накідаць пераканаPньне ў душы сваіх слухачоў?

ҐОРҐІЯС: Не, Сакратас, я думаю, што твая дэфініцыя выпала зусім трапна: у гэтым галоўна і крыецца ягоная сутнасьць.

САКРАТАС: Тады паслухай мяне, Ґорґіяс. Я зусім перакананы, што, калі існавалі калі-небудзь людзі, кіраваныя ў дыскусыі чыстаю любоўю пазнаньня праўды адносна людзкога слова, дык я зьяўляюся адным зь іх, і думаю, што ты гэтаксама.

ҐОРҐІЯС: І што далей з гэтага, Сакратас?

САКРАТАС: Я зараз скажу. Гэтая, дарогаю мастац-

тва красамоўства ўзьнікаючая здольнасьць пераконваньня, пра якую ты гаворыш, усё яшчэ астаецца для мяне няведамай, гэтаксама, як ня ведаю я на якія рэчы яна распасьціраецца. Я адно здагадваюся пра што ты гаворыш і што ты маеш на ўвазе; ня гледзячы, аднак, на гэта, я хачу далей запытаць цябе, як ты разумееш гэтае пераконваньне, якое ўзьнікае з мастацтва красамоўства і да чаго яно тасуецца. Але, калі я ўжо здагадваюся, дзеля чаго я маю пытаць цябе, а не адказваць самому? Не дзеля цябе, але дзеля працягу нашае дыскусыі, каб прадмет яе магчыма найболей ясным стаўся. Тады разваж, ці ня выдасцца табе, што я зьяўляюся апраўданым запытаць цябе далей. Калі-б я, напрыклад, запытаў цябе: Якога роду артыстым-маляром зьяўляецца Зэўксіс? а ты-б мне адказаў, што ён малюе вобразы, ці тады ня быў-бы я апраўданым паставіць табе пытаньні: якія вобразы малюе ён і дзе іх можна знайсьці?

ҐОРҐІЯС: Вельмі нават апраўданым.

САКРАТАС: Дзеля таго, што існуюць яшчэ іншыя маляры, якія малююць шмат іншых вобразаў?

ҐОРҐІЯС: Але.

САКРАТАС: Але, калі-б апрача Зэўксіса, ніхто іншы не маляваў, твой адказ быў-бы правільным?

ҐОРҐІЯС: Дый як-жаж магло-б быць інакш?

САКРАТАС: А цяпераka, ідучы па лініі нашага разважаньня, скажы мне адносна мастацтва красамоўства; - ці думаеш ты, што толькі красамоўства выклікае пераконаньне, ці гэтаксама іншыя мастацтвы? Я думаю - калі хто вучыць што-небудзь, ён пераконвае людзей у тым, што ён вучыць, ці не?

ҐОРҐІЯС: Ён пераконвае, Сакратас, і ў гэтым ня можа быць сумліву.

САКРАТАС: Зноў-жа, калі мы вернемся да тых мастацтваў, пра якія мы толькі што гаварылі, ці мастацтва арытмэтыкі і вучыцелі ў гэтым мастацтве ня вучаць нас пра свомасьці і вялічыню лікаў?

ҐОРҐІЯС: Напэўна.

САКРАТАС: І пераконваюць нас у гэтым?

ҐОРҐІЯС: Так.

САКРАТАС: Значыцца, арытмэтыка гэтаксама зьяўляецца майстрам пераконваньня?

ҐОРҐІЯС: Выглядае гэтак.

САКРАТАС: І калі хто-небудзь запытае нас, што за пераконваньне і ў чым? - тады мы адкажам - пераконваньне, якое вучыць пра вартасьць цотных і няцот- 454
ных лікаў. І мы пазначымем пры гэтым, што ўсе іншыя, успомненыя вышэй мастацтвы, зьяўляюцца май-

страмі пераконваньня, і зьвернем увагу на тое, якога роду гэтае пераконваньне і якая ягоная мэта. Ці ня гэтак?

ҐОРҐІЯС: Так.

САКРАТАС: Тады, красамоўства не зьяўляецца адзіным майстрам пераконваньня.

ҐОРҐІЯС: Праўду кажаш.

САКРАТАС: Калі яно не адно гэтак узьдзейвае і, што іншыя мастацтвы гэтаксама праяўляюць падобнае дзеяньне, як у выпадку нашага мастака маляра, тады ўзьнікае вельмі апраўданае пытаньне: красамоўства, - зьяўляецца мастацтвам пераконваньня, але якога пераконваньня, і ў чым? Ці ня думаеш ты, што гэткае пытаньне абаснаваным зьяўляецца?

ҐОРҐІЯС: Я думаю, што так.

САКРАТАС: Тады адказвай, Ґорґіяс, калі ты згадзіўся з пытаньнем.

ҐОРҐІЯС: І я адказваю, Сакратас, што красамоўства зьяўляецца мастацтвам пераконваньня у судох і зграмаджэньнях, як я ўжо сказаў, і распасьціраецца на справядлівае як і на несправядлівае.

САКРАТАС: Я ўжо здагадваюся, Ґорґіяс, што гэткае пераконваньне ты маеш на ўвазе зь ягонымі мэтамі. Ня дзівіся толькі тады, калі я цябе зноў пра нешта запытаю, што́, здавалася-б зусім ясным ёсьць, а я ўсё-ж запытаю. І гэтак, як я ўжо казаў, дзеля пасьлядоўнага разьвіцьця нашае дыскусыі, а не, каб цябе зьбянтэжыць, але з тою толькі мэтаю, каб мы ў прывычку ня ўпалі, у напалавіне зразуметым выражэньні перапыняць адзін другога. Затым я жадаю, каб ты выказаў сваё разважаньне да канца і гэтак, як сам уважаеш за найлепшае паводля ўласнага твайго пагляду.

ҐОРҐІЯС: Я думаю, ты правільна разважаеш, Сакратас.

САКРАТАС: Тады дазволь мне паставіць іншае пытаньне: Існуе гэткае слова як "пазнаць"?

ҐОРҐІЯС: Але́.

САКРАТАС: І існуе гэтаксама "паверыць"?

ҐОРҐІЯС: Напэўна.

САКРАТАС: Ці здаецца табе, што "пазнаць" і "паверыць", "веда" і "вера" - гэта адно і тое самае?

ҐОРҐІЯС: Я думаю, Сакратас, што яны розьняцца.

САКРАТАС: Ты правільна думаеш, бо ты можаш упэўніцца гэткім шляхам: - Калі-б цябе хто-небудзь запытаў: "Ці існуе, Ґорґіяс, запраўдная вера гэтаксама як хвальшывая?" - і ты-б напэўна адказаў, калі я не памыляюся, - існуе.

ҐОРҐІЯС: Так.

САКРАТАС: А што да веды? Ці існуе хвальшывая веда і праўдзівая?

ҐОРҐІЯС: У ніякім выпадку.

САКРАТАС: Тады, гэта даводзіць, што веда і вера ня ёсьць адно і тое самае.

ҐОРҐІЯС: Праўду ты кажаш.

САКРАТАС: І вось, тыя, што пазналі, як і тыя, што паверылі, зьяўляюцца перакананымі?

ҐОРҐІЯС: Гэтак яно ёсьць.

САКРАТАС: Магчыма, тады, сьцьвердзім мы дзьве хвормы перакананьня: адна – гэта крыніца веры бяз веды, а другая, якая дае веду?

ҐОРҐІЯС: Гэтак і ёсьць.

САКРАТАС: І якая-ж хворма пераконваньня тасуецца красамоўствам у судох і іншых зграмаджэньнях адносна справядлівага і несправядлівага, ці тая, хворма пераконваньня, якая дае веру бяз веды, ці тая, якая дае веду?

ҐОРҐІЯС: Ясна, Сакратас, тая, зь якое вера.

САКРАТАС: Тады, красамоўства – гэта майстра пераконваньня, якое выклікае веру ў справядлівае і несправядлівае, але ня вучыць, што́ зьяўляецца справядлівым, а што́ не зьяўляецца? 455

ҐОРҐІЯС: Так.

САКРАТАС: Значыцца, прамоўца ў судох і іншых зграмаджэньнях ня вучыць, што́ справядліва і што́ несправядліва, але толькі выклікае веру. Ведама, натоўп ня мог-бы агарнуць гэтак важных рэчаў у кароткім часе.

ҐОРҐІЯС: Пэўна, што не.

САКРАТАС: Хадзі, затым, і давай паглядзімо, што́ мы, фактычна, разумеем пад выражэньнем красамоўства; бо і сам я яшчэ не разумею дакладна, пра што я гавару. Калі зграмаджэньне зыйдзецца, каб выбраць лекара, або майстру ў вадаплаўным будаўніцтве, ці якога-небудзь іншага майстру, ці не пачне тады аратар раіць? Напэўна, не. Бо ясным стаецца, што ў часе кожнага гэткага выбіраньня рэч ідзе пра сьведамага ў дадзенай справе чалавека. Гэтаксама, калі ідзе рэч пра пабудаваньне сьценаў, або портаў, ці докаў, бо тут патрэбна ра́да не красамоўцаў, але будаўнічых. Гэтаксама, калі нарада ідзе, каго выбраць на становішча стратэґа – ці гэта будзе для спатканьня з ворагам на адкрытым полю, або здабыцьця ваеннага ўмацаваньня, – тут гэтаксама раяць людзі сьведамыя ў ваенным мастацтве, а не аратары. Што ты думаеш пра гэта, Ґорґіяс? Калі ты сябе называеш а-

ратарам, і манішся вучыць іншых штукі красамоўства, дык каго-ж мы маем іншага, калі не цябе, распытваць пра свомасьці твайго мастацтва? І тут дазволь мне запэўніць цябе, што я ма́ю на ўвазе гэтаксама тваю справу, як і маю́ ўласную. Магчыма ёсьць хтонебудзь цяпер сярод нас, хто хацеў-бы стацца тваім вучням, і ў грунце рэчы, я спасьцерагаю некаторых і нават лічных, што маюць гэткі замер, але, магчыма, яны чуюцца за скромнымі, каб зьвярнуцца да цябе з пытаньнем. Затым, уважай, што разам са мною і яны пытаюцца цябе: "Якую, Ґорґіяс, мецімем мы карысьць, калі мы далучымся да цябе? У якіх справах мецімем мы магчымасьць ра́іць месту? Ці выключна толькі адносна таго, што ёсьць справядлівым і несправядлівым, ці мо' адносна і таго, аб чым цяперака гаварыў вось Сакратас?" Спробуй знайсьці адказ для іх.

ҐОРҐІЯС: Так, я папробую, Сакратас, адсланіць табе найболей выразна ўсю магутнасьць красамоўства; тым болей, што ты сам накіраваў мяне на гэтую думку. Я думаю, што, праўдападобна, ты ведаеш, што гэтыя докі, атэнскія сьцены і порты былі пабудаваныя паводля ра́ды Тэмістоклеса і часткава Пэрыклеса, а не паводля апініі знаўцаў мастацтва будаваньня.

САКРАТАС: Гэта праўда, Ґорґіяс, існуе гэтакі пераказ адносна Тэмістоклеса, а Пэрыклеса я чуў асабіста, калі ён выкладаў нам свой пагляд адносна пабудовы ўнутраных сьценаў.

456 ҐОРҐІЯС: І ты можаш спасьцерагчы, Сакратас, што, калі ідзе пра пастанову ў справах, пра якія ты толькі што гаварыў, дык ра́ды падаю́ць аратары, і ў пытаньнях спорных іхны пункт гледжаньня перамагае.

САКРАТАС: І мяне гэта дзівіць, Ґорґіяс, затым бо я і пытаюся зноў, што гэта за існасьць знаходзіцца ў красамоўстве. Нейкая боская моц выдаецца мне, калі я толькі прыводжу на ўспамін яго.

ҐОРҐІЯС: І запраўды, Сакратас, калі-б ты толькі пазнаў, як красамоўства адным словам агарнула і трымае іншыя сілы ўсіх ніжэйшых мастацтваў! Дазволь мне прывесьці адзін найболей пераконваючы прыклад. Мне часта даводзілася разам з маім братам, гэтаксама, як і зь іншымі лекарамі, наведваць хворых, каторыя або не хацелі прыймаць лекаў, або не даваліся лекару рабіць раскрой або прыпальваньне і, калі здаралася, што апошні ня мог пераканаць іх, я пераконваў, і ніякім іншым мастацтвам, як толькі красамоўствам. Так, я ўтрымліваю, што, калі-б да места, якое ты толькі сабе жадаеш, прыбылі красамоўца

і лекар і,калі-б у Народным зграмаджэньні ці на якім-небудзь іншым сходзе захацеў кажны зь іх правесьці сваю справу, гэта значыць, быць выбраным на становішча лекара, дык на лекара ніхто-б і ўвагі не зьвярнуў, а выбралі-б таго, хто разумее штуку красамоўства, - калі-б толькі захацеў ён для гэтае мэты ўжыць слова. Гэтаксама ў спаборніцтве з кажным іншым рэчазнаўцам, аратар атрымаў-бы перамогу, бо ён ляпей за кажнага іншага пераканаў-бы прысутных выбраць яго, бо і прадмету нямашака гэткага, пра які аратар не сказаў-бы перад натоўпам болей пераконваючы, чымся любы із рэчазнаўцаў свайго мастацтва. Гэткай зьяўляецца сутнасьць і сіла штукі красамоўства! Пры гэтым, Сакратас, мастацтва красамоўства павінна быць тасаваным, як кажны іншы сродак спаборніцтва. Бо-ж і іншыя сродкі спаборніцтва не павінны быць тасаванымі супроць усіх людзей, затым толькі, што нехта пазнаў, што ён сільнейшым зьяўляецца за сваіх прыяцеляў, як і ворагаў і з гэтае прычыны не павінен сваіх прыяцеляў біць, калечыць і забіваць. Затым, на Зэуса, калі хто-небудзь будзе наведваць палестру праз даўжэйшы час і станецца загартаваным і дасьведчаным змагаром на кулакі,а пасьля паб'е бацьку ці матку або каго-небудзь са сваякоў ці сяброў, дык ня можна-ж з гэтае прычыны дыхаць ненавісьцю супроць інструктараў гімнастыкі і выганяць іх з краю, і ўсіх тых, хто пазнаў, як абыходзіцца з аружжам. Яны толькі пераказалі сваю веду студэнтам, каб апошнія карысталіся ёю справядліва - супроць ворагаў і праступнікаў, дзеля абароны, а не дзеля атакі, бо яны толькі тасуюць сва- 457
ю сілу і сваё мастацтва няправільна і з надужыцьцем. З гэтае прычыны ня можна казаць, што вучыцелі зьяўляюцца дрэннымі, гэтаксама як і само мастацтва вінаваціць, як я думаю, але толькі тых, што надужываюць гэтымі рэчамі. Падобны пункт гледжаньня адносіца і да красамоўства; бо аратар можа гаварыць супроць усіх людзей і на любую тэму; коратка кажучы, ён можа пераканаць натоўп ляпей, чымся адзінку і ў кажнай рэчы, у якой ён захоча. Дзеля гэтага ня можна пазбаўляць славы ані лекара - хоць-бы нават аратар і мог гэта ўчыніць - ані іншых рэчазнаўцаў, але і красамоўствам трэба карыстацца справядліва, гэтаксама, як і мастацтвам спаборніцтва. І, калі хто-небудзь, як я думаю, стаўся красамоўцам,а пасьля надужывае сваё мастацтва і сілу, дык ня вучыцеля трэба прасьледваць і выганяць зь места, бо-ж ён толькі пераказаў сваю веду іншаму, каб апошні спра-

вядліва карыстаўся, а ён тымчасам выкарыстаў яе ў супроцьлежным замеры. Затым, ён гэта ёсьць тым чалавекам, які заслугоўвае на пагарду, выгнаньне і сьмерць, але ня той, хто вучыў яго.

САКРАТАС: Я думаю, Ґорґіяс, што ты, гэтаксама як
і я, маеш вялікае дасьведчаньне ў вядзеньні дыску-
сыяў, і ты, мусіць, спасьцярог, што, калі двое пач-
нуць што-небудзь дыскутаваць, дык рэдка здараецца,
каб, высказаўшы свой пагляд і, уцяміўшы чужы, прый-
шлі да сузгоднасьці пагляду і на гэтым закончылі
дыскусыю, але, звычайна, яны разыходзяцца ў сваіх
паглядах, і адзін скажа другому, што той выражаец-
ца няправільна і мутна, і ўпадаюць яны ў гнеў і па-
чынаюць спрачацца ў перакананьні, што быццам дру-
гая старана ў сваей арґумэнтацыі кіруецца выключна
няпрыхільнасьцю і зайздрасьцю, бяз ніякага зацікаў-
леньня ў прадмеце дыскусыі. Часамі яны заходзяць
гэтак далёка, што пачынаюць зьняважаць адзін дру-
гога лаянкаю да гэткае ступені, што нават прысут-
ныя чуюць злосьць, але на самых сябе, за тое, што
яны сталіся сьведкамі гэткае гутаркі. – І на што я
гавару гэта? На што? – бо я не магу паўстрымацца ад
пачуцьця, што ты цяперака гаворыш тое, што не зга-
джаецца з тым, што ты казаў на пачатку адносна кра-
самоўства. І ўсё-ж, я баюся гаварыць табе гэта,
каб ты ня прыйшоў да перакананьня, што быццам я ма-
ю нейкую варожасьць супроць цябе і гавару гэта не
458 дзеля выкрыцьця праўды, але з прычыны зайздрасьці
адносна цябе. Калі ты зьяўляешся гэтакім, як я, та-
ды я ахвотна хацеў-бы працягваць свае пытаньні, а
калі не, дык я пакіну цябе ў супакою. І што гэта за
людзі, да якіх я належу? Я зьяўляюся адным з тых,
каторыя ахвотна выслухваюць запярэчаньні, калі што-
небудзь скажуць няправільна, і ахвотна пярэчаць ін-
шаму, калі той скажа што-небудзь няправільна і пры
тым гэтае другое спрычыняе ім ня болей прыемнасьці,
чымся першае. І запраўды, я ўтрымліваю, што першае
зьяўляецца большым дабром нагэтулькі, наколькі ля-
пей самому ўратавацца ад найбольшага зла, чымся ў-
ратаваць іншага. Бо, як я разумею, няма для чала-
века большага зла, як памылкавае перакананьне ад-
носна таго, аб чым мы вядзем дыскусыю цяперака. Ка-
лі ты і сябе ўважаеш за такога самага, тады будзем
далей гутарыць. Калі табе здаецца, што ляпей будзе
яе супыніць, тады супынім і пакінем усё гэтак як
ёсьць.

ҐОРҐІЯС: У кажным выпадку, Сакратас, я зьяўляюся гэтакім, якога ты вырысаваў перад намі. Аднак-жа,

мы мусім гэтаксама ўзяць пад увагу і прысутных. Бо ўжо задоўга перад вашым прыбыцьцем я выступаў перад імі, і цяперака, магчыма, мы забавімся даўжэйшы час, калі працягнем нашую дыскусыю. Дзеля гэтага, мы мусім і пра іх падумаць, каб мы каго-небудзь зь іх не затрымлівалі, асабліва тады, калі маюць яны што-небудзь іншае рабіць.

ХАЙРЭФОН: Ці-ж ня чуеце вы, Ґорґіяс і Сакратас, галасоў захопленьня гэтых людзей, якія выражаюць жаданьне даведацца пра тое, што́ вы яшчэ будзеце гаварыць? Мне асабіста што найменей было-б вельмі прыкра, калі-б заіснавала нейкая неабходнасьць, адрываючая мяне ад гэткае дыскусыі і гэткіх дыскутантаў.

КАЛЬЛІКЛЕС: На нябёсы, і Хайрэфон, гэтаксама і я, каторы быў сьведкам многіх дыскусыяў, але наўрад ці хоць раз дазнаваў гэтулькі прыемнасьці, колькі цяперака. З мае стараны, калі ласка, можаце гаварыць цэлы дзень.

САКРАТАС: З мае стараны, Кальліклес, ня будзе ніякае перашкоды, калі толькі Ґорґіяс згаджаецца.

ҐОРҐІЯС: Пасьля ўсяго гэтага, Сакратас, для мяне было-б ганьбаю не згадзіцца, асабліва тады, калі я прырок адказаць на кажнае пытаньне, незалежна хто яго паставіць. Затым, у сузгоднасьці з жаданьнем прысутных, калі ласка, стаў пытаньне, якое толькі табе да спадобы.

САКРАТАС: Тады паслухай, Ґорґіяс, што́ мяне найболей дзівіць у тваіх цьверджаньнях. Вельмі магчыма, што ты правільна кажаш, але я нятрапна разумею. Ты ўтрымліваеш, што ты можаш учыніць красамоўцам кажнага, хто толькі выразіць жаданьне вучыцца ў цябе?

ҐОРҐІЯС: Так.

САКРАТАС: Думаеш ты, што ты навучыш яго здабываць узнаньне натоўпу на любую тэму, і гэта не дарогаю навучаньня, але дарогаю пераконваньня? 459

ҐОРҐІЯС: Я думаю гэтак.

САКРАТАС: Ты сказаў вось, што красамоўца будзе мець большую сілу пераконваньня, чымся лекар, нават у справе здароўя?

ҐОРҐІЯС: Так, сярод натоўпу.

САКРАТАС: Кажучы "сярод натоўпу", ма́е гэта зна́чыць, сярод тых, каторыя нічога ня ведаюць? Бо сярод ведаючых ён-жа ня знойдзе болей узнаньня, чымся лекар?

ҐОРҐІЯС: Ты маеш рацыю.

САКРАТАС: Але, калі знойдзе ён болей узнаньня,

чымся лекар, гэтым самым знойдзе ён болей узнаньня, чымся той, хто ведае?

ҐОРҐІЯС: Ведама.

САКРАТАС: Нават тады, калі ён не зьяўляецца лекарам, ці ня гэтак?

ҐОРҐІЯС: Але́.

САКРАТАС: Але ня-лекар ня ведае таго, што́ ведае лекар?

ҐОРҐІЯС: Зусім трапна.

САКРАТАС: Тады, той, хто ня ведае, знойдзе болей узнаньня сярод насьведамых, чымся той, хто ведае, а красамоўца знойдзе болей узнаньня, чымся лекар? - Ці ня гэтакі тут выснаў?

ҐОРҐІЯС: У дадзеным выпадку - так.

САКРАТАС: У гэтакіх самых суадносінах астаецца красамоўства да іншых мастацтваў; красамоўца ня мае патрэбы ведаць праўды адносна дадзенага прадмету; усё, што́ ён патрабуе - гэта выкрыць нейкі сродак пераконваньня нясьведамага, што ён ма́е болей веды, чымся той, хто ведае.

ҐОРҐІЯС: Ці-ж ня ёсьць гэта вялікая выгада, Сакратас, што чалавек, ня вывучаючы ніякага мастацтва, толькі гэтае адно, і адначасна ня ўступае майстрам у іншых?

САКРАТАС: Ці ўступае красамоўца іншым майстрам, ня вучачыся нічога іншага, ці ня ўступае, гэта мы разгледзім хутка, калі толькі патрабаваціме гэтага нашае разважаньне. А тымчасам давай вось што разгледзім: ці адносна справядлівага і несправядлівага, прыгожага і брыдкага, добрага і дрэннага красамоўца гэтаксама нясьведамы як і ў прадмеце здароўя і іншых мастацтваў? Я манюся тут сказаць, што ён фактычна нічога ня ведае з таго, што́ ёсьць добрае і што́ дрэннае, прыгожае і брыдкае, справядлівае і несправядлівае; але і тутака пазнаў ён толькі сродак пераконваньня гэтак, што ён як не́вук,паміж гэтакіх самых не́вукаў, выдаецца большым знаўцам, чымся запраўдны знаўца? Або ёсьць-жа гэта неабходным ведаць, што той, хто ма́е ад цябе навучыцца красамоўства, ма́е прыйсьці да цябе, як той, што ўжо загадзя ведае? Але, калі вучань акажацца нясьведамым, ня будзеш тады ты, вучыцель красамоўства, новапаступіўшага вучыць гэтага, бо гэта не ўваходзіць у твой прадмет, і толькі ў тым яго ўзгадуеш, каб ён зборышчу выдаўся ведаючым, тады як ён ня ведае, і добрым выдаўся, тады, калі ён гэтакім не зьяўляецца? А мо' і зусім ня будзеш ты ў стане вучыць яго красамоўства, калі ён загадзя ня будзе

ведаць праўды пра ўсё гэта? А мо' усё тут інакш маецца, Ґорґіяс? На нябёсы, адхілі нам заслону, як і 460
прырок ты толькі-што, і скажы, у чым заключаецца сіла красамоўства!

ҐОРҐІЯС: Я думаю, Сакратас, што, калі вучань усяго гэтага ня ведае, тады ён навучыцца гэтага ў мяне.

САКРАТАС: Пачакай! Гэта зусім добра сказана. Калі ты маеш некага ўчыніць красамоўцам, дык яму неабходным ёсьць загадзя ведаць, што́ ёсьць справядлівым і што́ ім не зьяўляецца, або перш, пасьля таго як ён навучыцца ў цябе?

ҐОРҐІЯС: Напэўна.

САКРАТАС: Як гэта? Той, хто пазнаў мастацтва будаўніцтва, зьяўляецца будаўніком, ці не?

ҐОРҐІЯС: Так.

САКРАТАС: А той, хто пазнаў му́зыку, – музы́каю?

ҐОРҐІЯС: Але́.

САКРАТАС: І той, хто пазнаў мэдычнае мастацтва, зьяўляецца лекарам? І ў галіне іншых мастацтваў рэч укладаецца паводля таго самага прынцыпу: той, хто нечага навучыўся – стаецца гэтакім, якім яго ўчыніла здабытая ім веда?

ҐОРҐІЯС: Напэўна.

САКРАТАС: Гэтакім самым спосабам, той, хто навучыўся справядлівасьці, зьяўляецца справядлівым?

ҐОРҐІЯС: Няма сумліву адносна гэтага.

САКРАТАС: Але справядлівы дзейнічае паводля справядлівасьці?

ҐОРҐІЯС: Так.

САКРАТАС: Тады ёсьць неабходным, што красамоўца зьяўляецца справядлівым і, што справядлівы дзейнічае паводля справядлівасьці?

ҐОРҐІЯС: Гэтакі выснаў можна ўчыніць.

САКРАТАС: З гэтага, справядлівы чалавек ніколі не захоча чыніць несправядлівасьці?

ҐОРҐІЯС: Натуральна.

САКРАТАС: Красамоўца, тады, паводля нашае аргумэнтацыі, мусіць быць справядлівым чалавекам?

ҐОРҐІЯС: Так.

САКРАТАС: І ніколі не захоча даканаць несправядлівасьці?

ҐОРҐІЯС: Як выглядае, не.

САКРАТАС: Ты прыпамінаеш сабе, што́ ты вось толькі што казаў, паймення, што ня трэба вінаваціць, ані выганяць зь места інструктараў гімнастыкі, калі змагар на кулакі мастацтва сваё ўжывае няпрыгожа і чыніць крыўду? Гэтаксама, калі красамоўца выкарыс-

тоўвае сваё мастацтва на несправядлівасьць, тады ня
трэба абвінавачваць вучыцеля і выганяць яго зь мес-
та, але таго, хто, выкарыстоўваючы красамоўства,чы-
ніць зло? Было ці ня было гэтак сказана?
ҐОРҐІЯС: Было сказана.
САКРАТАС: А цяперака пацьвярджаецца, што гэты са-
мы, пайменна, красамоўца, наагул ніколі ня чыніць
несправядлівасьці. Ці ня гэтак?
ҐОРҐІЯС: Здаецца, што гэтак.
САКРАТАС: На пачатку нашае гутаркі, Ґорґіяс,га-
варылася, што мастацтва красамоўства не займаецца
ў ліках цотнасьцю і няцотнасьцю, але тасуецца ў
разважаньнях пра справядлівае і несправядлівае.
Так?
ҐОРҐІЯС: Але́.
САКРАТАС: Я думаў тады, калі я чуў як ты гаварыў
гэта, што красамоўства, якое вядзе гутарку пра спра-
вядлівасьць, ніколі ня можа быць нечым несправяд-
461 лівым. Аднак-жа, калі ты крыху пазьней сказаў, што
аратар можа гэтаксама красамоўства ўжываць неспра-
вядліва, я быў зьдзіўленым, разумеючы, што выказа-
нае не згаджаецца між сабою, затым бо я і запрапа-
наваў табе, калі выслухаць запярэчаньне пад тваім
адрысам, уважаеш сабе за карысьць, гэтаксама як я
для сябе, тады нашую дыскусыю варта працягваць, а
калі не - дык ляпей пакінуць яе. Але працягваючы
наш досьлед, мы, як і сам ты бачыш, зноў сьцьвяр-
джаем, што аратар ня можа надужываць красамоў-
ства наўсуперак справядлівасьці. На пса прысягаю,
Ґорґіяс, спатрэбіцца яшчэ доўгая гутарка, пакуль мы
вылушчым ува ўсім гэтым поўную праўду.
ПОЛЁС: Як гэта, Сакратас? Ці, запраўды, думаеш
ты гэтак адносна красамоўства, як цяперака гаво-
рыш? Ці-ж бы меў ты на ўвазе - калі Ґорґіяс саро-
меўся не згадзіцца з табою адносна таго, што ара-
тар мусіць ведаць справядлівае і прыгожае, і доб-
рае і, што, нехта, хто гэтых рэчаў ня ведае, прый-
дзе да яго, дык ён сам яго навучыць, а згэтуль ма-
гчыма нейкая супярэчнасьць узьнікла ў ягонай мове,
з чаго ты ўжо пачынаеш цешыцца, пасьля таго, як ты
сваімі пытаньнямі вунь куды завёў гутарку. Бо ці-ж
згодзіцца хто-небудзь з тым, што ён і сам ня ведае
справядлівасьці і іншага навучыць ня можа?Кіраваць
гэтак гутарку - ёсьць вельмі няветліваю рэчаю.
САКРАТАС: Найдаражэйшы мой Полёс, прычыны дзеля
чаго мы абясьпечваемся прыяцелямі і дзяцьмі, ёсьць
тая, што, калі мы старэемся і пачынаем памыляцца,
каб вы, малодшае пакаленьне, былі побач нас і га-

товыя ў нашых словах і чынах паставіць нас зноў на ногі. І цяперака: калі я і Ґорґіяс памыліліся ў нашай гутарцы, дык ты, будучы побач нас, і папраў нас; а я, са свае стараны, калі ты думаеш, што мы ў чымколечы памыліліся, зьяўляюся гатовым узяць назад кажнае сваё цьверджаньне - пад адною ўмоваю.

ПОЛЁС: Якою ўмоваю?

САКРАТАС: Каб ты скарочваўся ў тваіх доўгіх мовах, якія ты сабе ўжо дазволіў на пачатку.

ПОЛЁС: Як гэта? Мне ня можна будзе гаварыць колькі я захочу?

САКРАТАС: Гэта было-б, запраўды, вельмі прыкра для цябе, лепшы, калі-б прыбыўшы ў Атэны, дзе пануе найбольшая ў Гэльлядзе свабода слова, ты адзін быў-бы пазбаўлены права выражэньня думкі. Вазьмем цяперака іншую старану гэтага: калі ты патонеш у доўгіх прамовах і не захочаш адказваць на пытаньні - тады, ці-ж ня будзе мне вельмі прыкра, калі ня 462
можна будзе выйсьці адсюль, ані слухаць цябе? Затым, калі наша дыскусыя творыць нейкую цікавасьць для цябе, або, паўтараючы маё нядаўнае выражэньне, хочаш паставіць яе на роўныя ногі, тады паддай пад сумліў, што́ толькі знойдзеш патрэбным; і зноў-жа, калі прыйдзе чарга, пытай і адказвай, гэтак, як я і Ґорґіяс, запярэчвай і выслухвай запярэчаньні. Бо-ж я здагадваюся, што ты тае́ думкі, што ведаў у цябе ня меней, чымся ў Ґорґіяса, - ці-ж ня гэтак?

ПОЛЁС: Так.

САКРАТАС: І ты запрашаеш кажнага ставіць табе пытаньні адносна любо́е рэчы, і ты будзеш ведаць як адказаць яму?

ПОЛЁС: Можаш быць пэўным.

САКРАТАС: А цяперака скажы - хочаш ты пытаць ці адказваць?

ПОЛЁС: Добра, я запытаю. Адкажы мне, Сакратас, на тое самае пытаньне, на якое Ґорґіяс, як ты думаеш, зьяўляецца няздольным адказаць: Чым зьяўляецца красамоўства?

САКРАТАС: Ты пытаешся, што́ гэта за мастацтва?

ПОЛЁС: Але́.

САКРАТАС: Папраўдзе кажучы, Полёс, яно наагул не зьяўляецца мастацтвам.

ПОЛЁС: Дык чым-жа, на твой пагляд, зьяўляецца красамоўства?

САКРАТАС: Тою рэчаю, пра якую я нядаўна чытаў у тваёй кнізе, і якую ты ўздымаеш да ролі мастацтва.

ПОЛЁС: Што ты хочаш сказаць гэтым?

САКРАТАС: Нейкі спрыт і на́вык, я думаю.

ПОЛЁС: Дык што, красамоўства – гэта на́вык па-твойму?

САКРАТАС: Гэтакі мой пагляд, а ты можаш мець свой.

ПОЛЁС: Навык у чым?

САКРАТАС: Навык, каб выклікаць радасьць і прыемнасьць.

ПОЛЁС: Ці-ж ня выдаецца табе красамоўства нечым прыгожым, калі яно выклікае прыемнасьць?

САКРАТАС: Што ты кажаш, Полёс? Чаму ты мяне пытаеш ці красамоўства ёсьць прыгожаю рэчаю ці не, калі я, як да гэтае пары, наагул ня выказаўся, чым красамоўства зьяўляецца?

ПОЛЁС: Ці-ж ня чуў я, як ты казаў вось, што красамоўства – гэта навык?

САКРАТАС: Калі ты ўжо гэтакую вартасьць кладзеш на радасьць, ці не захацеў-бы ты і мне спрычыніць малую радасьць?

ПОЛЁС: Вельмі ахвотна.

САКРАТАС: Тады запытай мяне, чым зьяўляецца мастацтва кухарскае варкі.

ПОЛЁС: Калі ласка: Чым зьяўляецца мастацтва кухарскае варкі?

САКРАТАС: Яно наагул не зьяўляецца мастацтвам, Полёс.

ПОЛЁС: Тады чым яно зьяўляецца? Скажы.

САКРАТАС: Скажу: спрыт свайго роду.

ПОЛЁС: Які-ж гэта? Скажы.

САКРАТАС: Які? Каб спрычыняць радасьць і здаволеньне, Полёс.

ПОЛЁС: Тады што? Кухарская варка і красамоўства – гэта тое самае?

САКРАТАС: Не, яны зьяўляюцца рознымі часткамі таго самага імкненьня.

ПОЛЁС: І якога-ж гэта?

САКРАТАС: Я баюся, што праўда можа выдасца недалікатнаю; і я хістаюся з адказам, каб Ґорґіяс не
падумаў, што я раблю жарт зь ягонае ўласнае
прафэсыі. Я не магу сказаць, што красамоўства,
якім займаецца Ґорґіяс, гарманізуецца з тым, якое
463 я маю на ўвазе; бо-ж да гэтае пары з нашае гутаркі
ягоны пагляд на красамоўства гэтак і ня высьніўся.
Тое, аднак, што́ я красамоўствам называю, ёсьць толькі
часткаю рэчы, якая не належыць да прыгожага.

ҐОРҐІЯС: Часткаю чаго, Сакратас? Скажы, што́ ты думаеш і не саромейся мяне.

САКРАТАС: Паводля мае думкі, Ґорґіяс, тая цэласьць, якое красамоўства зьяўляецца часткаю, наа-

гул мастацтвам не зьяўляецца, але навык дзёрзкае, нахабнае і надзеленае з натуры кемлівасьцю, душы, якая ведае як абыходзіцца зь людзьмі. І гэты навык я выражаю словам – лісьлівасьць. І яна дзеліцца на лічныя часткі, адною зь якіх зьяўляецца кухарская варка, якая мае толькі выгляд мастацтва, але якая, як я ўжо казаў, ёсьць толькі спрыт; красамоўства творыць сабою іншую яе частку, гэтаксама як і падхарошваньне цела, і сафістыка зьяўляюцца яшчэ дзьвюма: разам чатыры часткі чатырох прадметаў. Калі Полёс хоча мяне запытаць, няхай ён тады пытае. Бо-ж ён яшчэ не даведаўся, якою часткаю лісьлівасьці красамоўства зьяўляецца, але Полёс гэтага не заўважыў і пытаецца далей, ці не ўважаю я красамоўства прыгожым? Але я не адкажу яму, зьяўляецца красамоўства прыгожым ці не, да тае пары, пакуль я не адкажу чым яно зьяўляецца. Гэта было-б зусім нятрапным, Полёс. Але, калі ты хочаш даведацца, якую частку лісьлівасьці творыць красамоўства, тады пытай.

ПОЛЁС: Вось я і пытаюся: якою часткаю лісьлівасьці красамоўства зьяўляецца?

САКРАТАС: Ці зразумееш ты мой адказ? Красамоўства, паводля майго разуменьня, – гэта здань або мана часткі палітыкі.

ПОЛЁС: Як гэта? Думаеш ты, прыгожай ці брыдкай?

САКРАТАС: Брыдкай, я-б сказаў. Бо кажнае зло я называю брыдкім: – хоць я няпэўны, ці зразумееў ты тое, што я сказаў.

ҐОРҐІЯС: На Зэуса, Сакратас, і запраўды, нават я не зразумеў, што ты маеш на ўвазе.

САКРАТАС: Няма дзіва, Ґорґіяс: я-ж яшчэ ня вылажыў свае думкі; а наш Полёс парывісты паводля свайго імя як і паводля свае натуры.

ҐОРҐІЯС: Пакінь ты яго, і ляпей растлумач мне, што ты маеш на ўвазе, кажучы, красамоўства – гэта мана часткі палітыкі?

САКРАТАС: Я папробую растлумачыць, чым выяўляецца мне красамоўства. Калі акажацца, што яно гэт- 464
кім не зьяўляецца, дык Полёс зьверне ўвагу мне. Ці дапушчаем мы існаваньне цела і душы?

ҐОРҐІЯС: Напэўна.

САКРАТАС: Ты згодзішся далей, што своеым для душы і цела ёсьць быць у добрым стане?

ҐОРҐІЯС: Але.

САКРАТАС: Але існуе і здадуманы добры стан, замест запраўднага? Шматлікім людзям здаецца, што іхнае цела знаходзіцца ў добрым стане здароўя, і на-

сілу ці хтоколечы можа ведаць, што яны нездаровыя,
апрача лекара ці інструктара гімнастыкі.
ҐОРҐІЯС: Праўду кажаш.
САКРАТАС: І гэта адносіцца ня толькі да цела,а-
ле гэтаксама і да душы, якая творыць спазор доб-
рага стану здароўя, але што́ не адказвае запраўд-
насьці.
ҐОРҐІЯС: Гэтак здараецца.
САКРАТАС: Цяпераka, калі я змагу, я выкажу свой
пагляд болей выразна. Цела і душа - дзьве рэчы, я-
кім адказваюць два мастацтвы. Тое, якое адносіцца
да душы, я называю мастацтвам палітыкі; іншае мас-
тацтва, якое адносіцца да цела, не магу абазначыць
адным словам, хоць яно і адно, пайменна, стараньне
адносна цела, і я разрозьніваю ў ім дзьве часткі:
адна з каторых - гэта гімнастычнае мастацтва,а дру-
гая - лекарскае мастацтва. Гэтаксама і ў палітыч-
ным мастацтве: мастацтва першае часткі зьяўляецца
мастацтва правадаўства, якое адказвае мастацтву
гімнастыкі, а другое - мастацтву судзьдзі, якое ад-
казвае мастацтву мэдычнаму; і гэтыя дзьве часткі
цесна вяжуцца між сабою, бо судзьдзя ма́е дачынень-
не з тым самым прадметам, што і правадаўства, гэ-
так, як мэдыцына з гімнастыкаю, і ўсё-ж існуе між
імі розьніцца. Вось гэтыя чатыры заўсёды рупяцца
адносна найвышэйшага дабра, два - для цела і два -
для душы; лісьлівасьць-жа, даведаўшыся, або ляпей
скажу, здагадваючыся адносна сваё натуры, распа-
дзяліла сама сябе на чатыры і хаваецца за кажным з
чатырох мастацтваў і прыкідваецца быць тым мастац-
твам, за якое схавалася, але пра вышэйшае дабро для
людзей зусім не шманае, але гоніцца за бязмыснась-
цю, манячы яе кажны раз жаданьнем прыемнасьці,і да
гэтакае ступені баламуціць бязмыснасьць, што пачы-
нае ствараць уражаньне быццам яна прадстаўляе са-
бою вялікую вартасьць. Кухарская варка, апрануўшы-
ся ў вопратку мэдычнага мастацтва, прыкідваецца,
быццам яна ведае якая ежа ёсьць найлепшай для цела;
і, калі-б лекару і кухару прышлося ўступіць у дыс-
путу адносна таго, хто зь іх ляпей ведае якая ежа
ёсьць найлепшай для цела, і, калі-б судзьдзямі ў
гэткай дыспуце былі дзеці або дарослыя людзі, але
ня з большым разуменьнем, чымся дзеці, і рашалі,я-
кая ежа ёсьць карыснай для чалавека, а якая шкод-
465 най, дык лекару прышлося-б памерці з голаду.
Гэта я называю лісьлівасьцю, і ўважаю яе за
брыдкую рэч, Полёс, - з гэтым я да цябе зьвяртаю-
ся - бо яна мае на ўвазе прыемнасьць бяз увагі на

дабро. Мастацтвам я не называю яе – гэта толькі на́вык, – бо яна не зьяўляецца здольнай выясьніць або падаць натуру таго, што́ яна чыніць. І я не магу таго назваць мастацтвам, што́ зьяўляецца незразумелаю рэчаю. Калі ты, аднак, маеш іншае пераканаsucccsьне адносна гаворанага, я гатоў бараніць свой пункт гледжаньня.

У мэдычнае мастацтва, як ужо казаў я, апранаецца кухарская лісьлівасьць, у гімнастычнае мастацтва ў гэткі самы спосаб – прыхарошваньне цела, якое зьяўляецца шкодным, зманьваючым, агідным, нешляхэтным і неганаровым; яно, пры помачы хвормы і хварбаў, агляду цела і вопраткі, гэтак людзей зманьвае ў здагон за здадуманаю прыгожасьцю, занядбоўваючы сваю ўласную, якую дае гімнастыка.

Каб ня быць доўгамоўным, я хачу ўжыць мову земляфмераў, і я спадзяюся, ты зможаш ісьці ў думцы сьледам за мною, у тым сэнсе, што як прыхарошваньне цела маецца адносна гімнастыкі, гэтак сафістыка маецца да мастацтва правадаўцы; і як кухарская варка маецца да мастацтва лячэньня, гэтак красамоўства да правадаўства. І як я ўжо казаў, у сваей сутнасьці між імі існуе розьніца, і адначасна яны зьяўляюцца блізкімі сабе, затым бо сафістыя і красамоўцы топчуцца разам у зьбянтэжанасьці і самыя ня ведаюць, у чым заключаецца іхны занятак, гэтаксама, як і іншыя людзі ня ведаюць, што́ маюць рабіць зь імі. І запраўды, калі-б цела панавала над сабою, і душа не панавала над целам і, калі-б душа не рабіла розьніцы і распадзелу паміж кухарскаю варкаю і лекаваньнем, але цела, кіруючыся мераю ўласных прыемнасьцяў, пастанаўляла само, дык і сталася-б паводля Анаксаґораса, дружа мой Полёс, бо-ж ты абазнаны зь ягонаю навукаю, пайменна, што ўсе рэчы зьмяшаліся-б у вадно [– у хаос], і тое, што́ адносіцца да мэдычнага мастацтва, да здароўя і да кухарскае варкі, зблыталіся-б у вадно цэлае. Тое, што́ я хачу сказаць гэтым, як ты і чуў цяперака, што красамоўства зьяўляецца тым адносна душы, чым кухарская варка да цела. Магчыма я зьяўляюся тут непасьлядоўным, гаворачы гэтак доўга, тады, калі я табе не дазваляў весьці доўгіх гутарак. Я думаю, аднак, што я заслугоўваю на выбачэньне. Бо, калі-б я гаварыў коратка, ты-б мог не зразумець мяне і ня мог-бы выкарыстаць адказ, які я табе даў і зажадаў-бы новага выясьненьня. І, калі-б я спасьцярог у сабе гэтакую самую няздольнасьць адносна тваіх слоў, я спадзяюся, што ты гаварыў-бы гэтаксама доў- 466

га; але, калі я разумею цябе, тады дазволь мне займець карысьць з твае кароткасьці, што і зьяўляецца толькі справядлівым. А цяперака, калі ты ведаеш як абыйсьціся з маім адказам, калі ласка, зрабі гэта.

ПОЛЁС: І што гэта ты цьвердзіш? Думаеш ты, што красамоўства - гэта лісьлівасьць?

САКРАТАС: Не, я сказаў, што яно зьяўляецца часткаю лісьлівасьці. Ці ў тваіх гадох, Полёс, ты ўжо ня маеш памяці? І што-ж станецца з табою, калі ты пачнеш старэцца?

ПОЛЁС: Ці выдаецца табе, затым, што добрыя прамоўцы ў местах ня маюць большага значэньня, калі яны толькі лісьлівымі хочуць быць перад людзьмі?

САКРАТАС: Ставіш ты мне пытаньне ці пачынаеш прамову?

ПОЛЁС: Я пытаюся.

САКРАТАС: Я думаю, што яны ня маюць ніякага значэньня.

ПОЛЁС: Як гэта ня маюць значэньня? Ці-ж ня маюць яны вялікае сілы ў местах?

САКРАТАС: Не, калі пад сілаю ты разумееш нешта добрае для таго, хто яе мае.

ПОЛЁС: Гэта якраз тое, што я разумею.

САКРАТАС: Калі гэтак, дык, я думаю, аратары ў месьце маюць найменшую сілу.

ПОЛЁС: Як гэта? Ці-ж не забіваюць яны як тыраны кажнага, каго толькі захочуць, не забіраюць маемасьці або не выганяюць зь места, каго ўважаюць патрэбным выгнаць?

САКРАТАС: На пса прысягаю, Полёс. Пры кажным тваім слове я чуюся зьбянтэжаным, бо я ня ведаю, ці, выказваючы сваю думку, ты сам за сябе гаворыш, ці ты мяне пытаешся?

ПОЛЁС: Не, пытаюся ў цябе.

САКРАТАС: Так, мой дружа, але ты ставіш два пытаньні на адзін раз.

ПОЛЁС: Чаму два?

САКРАТАС: Як-жаж, ці не сказаў ты толькі-што, што яны забіваюць каго захочуць, забіраюць маемасьць і выганяюць зь места, каго ўважаюць патрэбным выгнаць?

ПОЛЁС: Але, сказаў.

САКРАТАС: Затым бо я і кажу, два пытаньні на адзін раз, і я адкажу на два. Я ўтрымліваю, Полёс, што аратары і тыраны маюць малую сілу ў местах, і гэта я паўтараю яшчэ раз. Бо, фактычна, яны ня робяць таго, што рабіць яны хочуць, але тое, што ім здаецца найлепшым.

ПОЛЁС: І ці-ж гэта не зьяўляецца вялікаю сілаю?
САКРАТАС: Не. Прынамся гэтак цьвердзіць Полёс.
ПОЛЁС: Як гэта? Я кажу не? Я кажу якраз наадварот!
САКРАТАС: Запраўды не. Якраз гэта, калі ты не адмаўляешся ад сваіх уласных словаў, што большая сіла - гэта нешта добрае для таго, хто яе мáе.
ПОЛЁС: Ані крышку не адмаўляюся!
САКРАТАС: Значыцца, дабро па-твойму, - гэта калі безрасудны чыніць тое, штó яму выдасца за найлепшае? І гэта ты называеш вялікаю сілаю?
ПОЛЁС: Не.
САКРАТАС: Тады ты мусіш запярэчыць мне і давесьці, што красамоўца разумны чалавек і, што красамоўства мастацтвам зьяўляецца, а не лісьлівасьцю. 467
Калі ты не запярэчыш мне, дык ані аратары, каторыя праводзяць у местах усё, што ім падабаецца, ані тыраны не зьяўляюцца ўласьнікамі ніякага дабра. Бо-ж сіла, як ты цьвердзіш, мае быць нейкім дабром, адначасна ты згаджаешся, што тое, штó ёсьць даканана без зразуменьня, - ёсьць злом. Ці ня так гэта?
ПОЛЁС: Так.
САКРАТАС: Як-жаж тады аратары маюць мець сілу ў местах або тыраны, калі Полёс не запярэчыў Сакратасу, і запярэчаньня не давёў, што яны чыняць тое, штó ім падабаецца?
ПОЛЁС: Гэты муж -
САКРАТАС: Я ўтрымліваю, што яны робяць ня тое, штó яны хочуць. Цяперака запярэчвай мне.
ПОЛЁС: Як гэта, ці-ж ня прызнаў ты толькі вось, што яны дзейнічаюць гэтак, як выдаецца ім найлепшым?
САКРАТАС: І цяпер гэта самае прызнаю.
ПОЛЁС: Дык што, дзейнічаюць яны, як хочуць?
САКРАТАС: Я пярэчу гэтаму.
ПОЛЁС: Але яны чыняць, штó ўважаюць за найлепшае?
САКРАТАС: Алé.
ПОЛЁС: Жорсткія рэчы ты кажаш, Сакратас, і бязглузьдзіцу!
САКРАТАС: Ня будзь зьдзеклівы, мой даражэнькі Полёс, я толькі зьвярнуўся да цябе ў тваім уласным стылю; ляпей - калі ты маеш нешта запытаць - пытай і зьвярні ўвагу ў чым я памыляюся, а калі не, дык ты сам адказвай.
ПОЛЁС: Добра, я буду адказваць, каб даведацца штó ты сам маеш на ўвазе.
САКРАТАС: Падумай, ці людзі хочуць тое, штó яны робяць, ці мо' тое, з прычыны чаго яны робяць тое,

што́ робяць? Вось, напрыклад, людзі, якія паводля загаду лекара, прыймаюць лекі; ці яны хочуць рабіць тое, што́ яны робяць, гэта значыць, прыймаць абрыдлыя на смак лекі, ці мо' нешта іншае, – паймення, быць здаровымі, дзеля чаго яны і прыймаюць лекі?

ПОЛЁС: Ведама, каб быць здаровымі.

САКРАТАС: Гэтаксама і зь людзьмі, якія падарожнічаюць морам або займающца розным заняткам – ня тое яны хочуць, што́ яны робяць: бо і запраўды, каму захацелася-б браць рызыка ў падарожнічаньні морам або абцяжваць сябе розным заняткам? Яны паддающца небясьпецы плаваньня з прычыны багацьця і дзеля яго адбываюць морскія падарожжы.

ПОЛЁС: Пэўна.

САКРАТАС: Ці-ж ня гэтак маецца рэч з усім іншым? Калі чалавек чы́ніць нешта дзеля нечага іншага, дык ён ня чы́ніць дзеля гэтага, што́ чы́ніць, але дзеля прычыны, якая змушае яго чыні́ць тое, што́ ён чы́ніць.

ПОЛЁС: Так.

САКРАТАС: Ці-ж з усяго, што́ існуе, не зьяўляецца адна рэч добраю, а іншая – дрэннаю, або прамежнаю: – ані добраю, ані дрэннаю?

ПОЛЁС: Адна зь іх зьяўляецца неабходнасьцю, Сакратас.

САКРАТАС: Ці-ж ня кажаш ты, што дабром ёсьць мудрасьць, здароўе і багацьце, а ўсё супроцьлежнае ім – злом?

ПОЛЁС: Кажу.

САКРАТАС: Але рэчы, якія зьяўляюцца ані добрымі,
ані дрэннымі і якія ў іншых выпадках зьяўляюцца пры-
468 належнымі раз да добрага, а іншы раз да дрэннага, а
ў іншым выпадку, ані да таго, ані да гэтага, напрык-
лад: Сядзець, Хадзіць, Бегаць, Плысьці, або: Камень,
Палена і падобнае? Ці ня гэтак? Або можаш ты на-
зваць што-небудзь іншае, хай сабе добрае ці дрэн-
нае?

ПОЛЁС: Не, толькі гэта.

САКРАТАС: Ці чыняць яны ўсё прамежнае дзеля добрага, або добрае дзеля прамежнага?

ПОЛЁС: Ясна, што прамежнае дзеля добрага.

САКРАТАС: Калі мы ідзем, мы ідзем дзеля добрага, і пад уплывам думкі, што ляпей нам ісьці; і, калі мы стаімо, мы стаімо гэтаксама, маючы на ўвазе дабро; ці ня гэтак?

ПОЛЁС: Так.

САКРАТАС: Гэтаксама і забіваем мы, калі забіваем каго-небудзь, і выганяем, і забіраем маемасьць

у перакананьні, што ляпей учыніць гэта, чымся не рабіць гэтага?

ПОЛЁС: Пэўна.

САКРАТАС: Усе людзі чыняць гэта дзеля дабра?

ПОЛЁС: Так.

САКРАТАС: І ці-ж не згадзіліся мы, што, чынячы нешта дзеля нечага, мы ня хочам чыніць таго,што мы чынім, але маем на ўвазе іншую рэч, дзеля якое мы чынім тое, што чынім?

ПОЛЁС: Зусім трапна.

САКРАТАС: Затым, мы ня хочам проста забіць чалавека, выгнаць яго зь места, або пазбавіць яго маемасьці бяз дай прычыны; і толькі, калі гэта карысна для нас, тады мы хочам, і, калі чын гэтакі не зьяўляецца карысным для нас – мы не жадаем; бо мы жадаем, як ты сам кажаш, таго, што ёсьць для нас дабром; але тое, што зьяўляецца ані добрым, ані дрэнным, мы не жадаем. Як табе здаецца, правільна я кажу ці няправільна? Чаму-ж ты не адказваеш?

ПОЛЁС: Правільна.

САКРАТАС: Калі мы прыйшлі да сузгоднасьці ў гэтым, дык цяперака можам разважыць выпадак, што хтонебудзь – будзе гэта тыран ці аратар – забівае іншага, або выганяе з краю, ці пазбаўляе яго маемасьці, кіруючыся меркаваньнем, што дакананы акт служыць ягоным уласным інтарэсам, хоць у запраўднасьці гэтакі чын зьяўляецца дрэнным для яго, аднак ён чыніць гэта ў перакананьні, што чыніць нешта добрае? Так?

ПОЛЁС: Але.

САКРАТАС: Але ці чыніць ён тое, што ён хоча,калі ён робіць тое, што ёсьць дрэнным? І чаму-ж ты не адказваеш?

ПОЛЁС: Не, мне здаецца, што ён ня чыніць таго што ён жадае.

САКРАТАС: Калі вялікая сіла зьяўляецца дабром, як ты і прызнаеш, ці магчымым ёсьць, каб нехта меў вялікую сілу ў гэтым месьце?

ПОЛЁС: Немагчыма.

САКРАТАС: Тады я меў рацыю, кажучы, што чалавек можа чыніць у месьце штоколечы здаецца яму добрым, ня маючы вялікае сілы, і чынячы зусім ня тое, што ён хоча?

ПОЛЁС: Што да цябе, Сакратас, ці не захацеў-бы ты чуцца свабодным рабіць у месьце, што табе да спадобы, чымся наадварот; ты-ж бы не пачаў зайздросьціць чалавеку, які забівае, каго толькі ўважае патрэбным забіць, або пазбаўляе маемасьці, або

са́дзіць у вастрог?

САКРАТАС: Справядліва ці несправядліва, ты думаеш?

469 ПОЛЁС: Якколечы-б ён рабіў, ці-ж не зьяўляецца ён у двух выпадках годным нашае зайздрасьці?

САКРАТАС: Гавары прыгажэй, Полёс!

ПОЛЁС: Як прыгажэй?

САКРАТАС: Так, што чалавек не павінен зайздросьціць ані тым, каторыя ня годныя зайздрасьці, ані тым, што астаюцца нешчасьлівымі, але толькі шкадаваць іх.

ПОЛЁС: Як гэта? Думаеш ты, што гэта адносіцца і да людзей, пра якіх я гавару?

САКРАТАС: І як-жаж інакш?

ПОЛЁС: Значыцца, ты думаеш, што той, хто забівае таго, каго ўважае патрэбным забіць, і забівае справядліва, выдаецца табе мізэрным і годным літасьці?

САКРАТАС: Не, я не кажу гэтага пра яго, але ён і зайздрасьці ня годны.

ПОЛЁС: Ці не сказаў ты толькі-што, што зьяўляецца ён нешчасьлівым?

САКРАТАС: Але́, мой дружа, калі ён забівае іншага несправядліва – у такім выпадку стаецца ён годным нашае літасьці – і ён ня можа быць аб'ектам нашае зайздрасьці, калі ён забівае справядліва.

ПОЛЁС: Тымболей той, хто забіты несправядліва, запраўды, зьяўляецца жалю годным і нешчасьлівым?

САКРАТАС: Ня ў гэтакай меры, Полёс, як той, хто забіў яго, і не да гэткае ступені, як той, хто справядліва забіты.

ПОЛЁС: Як гэта, Сакратас?

САКРАТАС: Затым, што найгоршае на сьвеце зло – гэта тварыць несправядлівасьць.

ПОЛЁС: Гэта ёсьць найбольшае? Не цярпець несправядлівасьць – большае?

САКРАТАС: Ні ў якім выпадку.

ПОЛЁС: Ты гэтаксама барждзэй хацеў-бы цярпець несправядлівасьць, чымся тварыць несправядлівасьць?

САКРАТАС: Я не хацеў-бы ані таго, ані гэтага. Але, калі-б я меў выбіраць паміж гэтымі двума: чыні́ць несправядлівасьць або несправядлівасьць цярпець – тады я барждзэй выбраў-бы несправядлівасьць цярпець, чымся несправядлівасьць чыні́ць.

ПОЛЁС: Ты гэтаксама не хацеў-бы быць тыранам?

САКРАТАС: Не, калі ты разумееш пад тыраніяю тое самае, што я.

ПОЛЁС: Я разумею, як я і сказаў вось, – мець уладу ў месьце рабіць што толькі чалавек уважаціме

патрэбным: забіваць, выганяць, інакш кажучы, паступаць як чалавеку спадабаецца.

САКРАТАС: О добраслаўлены, я падам табе прыклад, а ты тады адкажаш. Уяві сабе, што я, схаваўшы пад пахаю кінджал, прыходжу на перапоўнены людзьмі рынак, і сказаў-бы табе: Ведаеш ты што, Палёс, у мяне вось зьявілася сваеасаблівая сіла тырана. Калі я захочу, каб хто-небудзь з гэтых людзей, якіх ты вось бачыш перад сабою, зараз-жа памер, тады той, каго я выбяру, зараз памрэ. І, калі я ўважаціму, каб хто-небудзь зь іх меў разьбітую галаву, - будзе разьбіта зараз-жа, або, каб каму-небудзь парвалі вопратку, - зараз-жа будзе яна парвана. Вось якую магутнасьць маю я ў гэтым месьце. І, калі-б ты сумняваўся ў гэтым, а я паказаў-бы табе мой кінджал, тады ты мне, праўдападобна, сказаў-бы: Сакратас, калі так, дык кажны можа стацца ўсемагутным: гэтакім самым спосабам можа быць спаленым кажны дом, на які ты толькі пальцам пакажаш, і атэнскія докярды і трыеры, і ўсе гандлёвыя вадаплавы, што належаць да дзяржавы і прыватных людзей. Гэта не называецца сільным быць, каб паступаць як толькі табе зажадаецца. І што-ж ты на гэта?

ПОЛЁС: Не, гэтак чыніць ня можна.

САКРАТАС: Ці можаш ты мне сказаць, чаму ты ад- 470
моўна адносішся да гэтакае сілы?

ПОЛЁС: Магу сказаць.

САКРАТАС: Чаму тады? Скажы.

ПОЛЁС: Чаму? - Затым, што кажны, хто гэтак паступае, напэўна будзе пакараны.

САКРАТАС: Ці-ж пакараньне зьяўляецца злом?

ПОЛЁС: Напэўна.

САКРАТАС: І ты прызнацімеш яшчэ раз, цудоўны чалавеча, што гэтая вялікая сіла зьяўляецца дабрадзействам для чалавека, калі ягоная дзейнасьць абяртаецца на ягоную карысьць, і гэта ёсьць значэньне вялікае сілы; а калі інакш, дык гэтая сіла зьяўляецца злом, і наагул тады не зьяўляецца сілаю. Але паглядзімо на гэтую справу зь іншага пункту гледжаньня: - Ці ня прызнаем мы, што рэчы, пра якія ідзе гутарка, паймення, спрычыненьне сьмерці, выганьне і пазбаўленьне маемасьці, часамі зьяўляюцца дабром, а часамі злом?

ПОЛЁС: Напэўна.

САКРАТАС: Адносна гэтага, як мне здаецца, мы абодва згадзіліся - я, гэтаксама як і ты?

ПОЛЁС: Але.

САКРАТАС: Скажы мне, тады, калі ты думаеш ляпей

зьяўляецца гэта чыніць? Што́ кладзеш ты тут у васнову?

ПОЛЁС: Я хацеў-бы барждзэй, Сакратас, каб ты сам адказаў на гэтае пытаньне.

САКРАТАС: Калі ты, Полёс, хочаш, каб я адказаў, дык я і адкажу, што, калі гэта чы́ніцца ў сузгоднасьці з справядлівасьцю, дык гэта добра, а калі наўсуперак справядлівасьці – дрэнна.

ПОЛЁС: Цяжка запярэчыць табе, Сакратас; але тут і дзіця можа лёгка паказаць, што ты ня маеш рацыі.

САКРАТАС: Тады я буду вельмі ўдзячны гэтаму дзіцяці, гэтаксама як і табе, калі ты выявіш памылку і гэтым выратуеш мяне з майго блуду. І не паддайся змучанасьці ў нясеньні ўслугаў, але запярэчвай мне.

ПОЛЁС: Ну што-ж, Сакратас, каб цябе зьбіць, няма ніякае патрэбы сягаць старое мінуўшчыны, бо хопіць здарэньняў учарашняга і пазаўчарашняга дня, каб раскрыць твае памылкі, і паказаць, як людзі, што твораць несправядлівасьць, зьяўляюцца шчасьлівымі.

САКРАТАС: Якіх гэта здарэньняў?

ПОЛЁС: Ты-ж бачыш, што гэты Архэляос, сын Пэрдіккаса, зьяўляецца цяперака валадаром Македоніі?

САКРАТАС: У кажным выпадку я чуў пра гэта.

ПОЛЁС: Як табе здаецца, зьяўляецца ён шчасьлівым ці нешчасьлівым?

САКРАТАС: Ня ведаю, Полёс, бо я ня маю ніякіх дачыненьняў з гэтым чалавекам.

ПОЛЁС: Як гэта? Ня можаш ты сказаць адразу і без асабістага веданьня яго, ці зьяўляецца ён шчасьлівым?

САКРАТАС: На Зэуса, хіба што не.

ПОЛЁС: Ясна, Сакратас, ты нават і пра Вялікага караля скажаш, што ты ня ведаеш, ці зьяўляецца ён шчасьлівым!

САКРАТАС: І гэтым скажу праўду. Бо я ня ведаю, як ён узгадаваны, гэтаксама ці зьяўляецца ён справядлівым.

ПОЛЁС: Як гэта? Толькі ў гэтым усё шчасьце?

САКРАТАС: Так, запраўды, Полёс, гэта мой пагляд. Той, хто зьяўляецца годным у сабе і чэсным, ёсьць шчасьлівым – будзе гэта мужчына ці жанчына; хто зьяўляецца, аднак, несправядлівым і дрэнным – астаецца нешчасьлівым.

471 ПОЛЁС: Дык што, паводля твайго пагляду, успомнены Архэляос зьяўляецца нешчасьлівым?

САКРАТАС: Але́, мой дружа, калі ён несправядлівы.

ПОЛЁС: Што ён нешчасьлівы – я не магу запярэчыць, бо ён ня меў ніякага права на ўладу, якую захапіў,

затым што радзіўся ён зь нявольніцы, якая належала да Алькетаса, брата Пэрдіккаса, і, кажучы папраўдзе, з гэтае прычыны, ён сам быў Алькетасавым нявольнікам, і, калі-б ён захацеў перасьцерагаць справядлівасьць, дык і пасягоньняшні дзень мусіў-бы аставацца нявольнікам у Алькетаса, і паводля твайго бегу думкі, быў-бы шчасьлівым. Але замест гэтага, ён дайшоў да бязьмежнага няшчасьця, пасьля таго,як даканаў найбольшае злачынства: перш ён запрасіў да сябе свайго пана і дзядзьку, прыракаючы, вярнуць яму ўладу, якое пазбавіў яго Пэрдіккас, і, напаўшы гасьцей дап'яна, і самога Алькетаса і ягонага сына Аляксандроса, свайго стрыечнага брата і бадайшто равесьніка сабе, ускінуў абодвух на воз, вывез сярод ночы на поле і зарэзаў іх, так, што ніхто ня ведаў, дзе яны падзеліся. І пасьля гэтага несправядлівага чыну, зусім не заўважыў, што ён стаўся найболей нешчасьлівым сярод людзей, і не праявіў ніякага пакаяньня; ці маю я далей паказаць як угнятала ягонае ўласнае сумленьне? Ён меў брата, сямілетняе дзіця, праўнага сына Пэрдіккаса, якому паводля справядлівасьці належала ўлада і, якога ён меў узгадаваць; але Архэляос ня меў найменшае ахвоты ўзгадоўваць яго, што ён павінен быў зрабіць і вярнуць яму ўладу; хутка пасьля гэтага ён кінуў хлапца ў сажалку і ўтапіў яго, а мацеры яго, Клеопатры, сказаў, што хлапец гнаўся за гусём, упаў у ваду і захлынуўся. І вось цяперака, калі ён зьяўляецца з усіх македонцаў найбольшым праступнікам, ён можа быць уважаны за самага няшчаснага між імі, і, ня гледзячы на гэта, я магу зарызыкаваць цьверджаньне, што існуе шмат атэнцаў з табою на чале,якія-б не хацелі нікім іншым быць з македонцаў, як толькі Архэляосам!

САКРАТАС: Ужо на пачатку нашае гутаркі, Полёс,я выразіў маё ўзнаньне адносна цябе, бо мне выдалося, што ты ў красамоўстве моцным чуешся, але мастацтва весьці дыялёг ты занядбаў. Вось і цяперака, для прыкладу, ёсьць-жа гэта тая мова, якою кажнае дзіцянё можа мяне зьбіць, і ты дайшоў да таго, што быццам пры помачы яго і ты зьбіў маё цьверджаньне, што той, хто несправядліва пaступае, ня можа быць шчасьлівым. І куды гэта ты, мой добры? Я не магу згадзіцца ані з адным словам, якое ты сказаў.

ПОЛЁС: А гэта затым, што ты ня хочаш згадзіцца, але думаеш ты гэтаксама, як і я.

САКРАТАС: О добраслаўлены, ты думаеш запярэчыць мне на ўзор красамоўцаў, прамаўляючых у судох. Бо

там адна старана думае, што перамагла другую, калі
на пацьверджаньне сваіх довадаў, можа выставіць
472 многіх і агульна ў народзе паважаных сьведкаў, а
другая – толькі аднаго, або і зусім нікога. Але там,
дзе праўда маецца на ўвазе, гэткага роду довад ня
мае ніякага значэньня. Здараецца нават, што зусім
нявінны чалавек стаецца ахвяраю хвальшывага сьвед-
чаньня многіх і, як здаецца, зь вялікаю пашанаю лю-
дзей. Гэтак і ў нашым выпадку: у тым, што́ ты кажаш,
падтрымаюць цябе бадай што ўсе атэнцы і чужынцы,ка-
лі ты захочаш выставіць супроць мяне сьведкаў,і ян-
ны скажуць, што я ня маю рацыі; – калі ты захо-
чаш, ты можаш паклікаць, як сьведку Нікі́яса, сына
Нікера́тоса разам зь ягонымі братамі, якіх рад тры-
подаў стаіць у сьвятыні Дыянізоса. Зноў-жа,калі ты
зажадаеш, прыйдзе табе на помач Арыстократас, сын
Ске́льліяса, якога гэтаксама праслаўлены дар ахвя-
раваньняў красуецца ў сьвятыні Пытыі [ў Дэльфах].
Пакліч, калі ты жадаеш, увесь дом Пэрыклеса, або я-
кі-небудзь іншы вялікі род атэнскі, які ты толькі
пажадаеш выбраць.
Але я, хоць і астаюся сам адзін, не магу зга-
дзіцца з табою, бо ты не пераконваеш мяне, а прос-
та выстаўляеш шматлікіх хвальшывых сьведкаў супроць
мяне і імкнешся адабраць ад мяне маю спадчыну –
праўду. Я-ж, са свае стараны, калі і ня выстаўлю
цябе самога за сьведку, якім ты і зьяўляешся і які
мусіў-бы пацьвердзіць у тым, што́ я кажу, ня буду ду-
маць, быццам у прадмеце нашае гутаркі асягнуў я ней-
кі посьпех. І мне здаецца, што гэтаксама і ты ні-
чога не асягнеш, калі я ня буду сьведчыць на тваю
карысьць, дазваляючы адыйсьці ўсім іншым.
Існуюць два спосабы запярэчаньня: адзін – гэта
той, які ты прызнае́ш і многія іншыя. Але існуе і
другі, якога я трымаюся. Давай, тады, параўнаем іх
і паглядзімо, чым яны розьняцца між сабою. Бо-ж то-
е, аб чым мы вядзем спрэчку, не зьяўляецца малою
рэчаю, але гэтакаю, што веданьне яе для чалавека ёсьць
найпрыгажэйшаю рэчаю, а няведаньне – найболей брыд-
каю. У сваей сутнасьці гутарка ідзе пра тое: ведаць
ці ня ведаць, хто зьяўляецца шчасьлівым, а хто – не.
Тады адразу да прадмету нашае гутаркі: ты ўтрым-
ліваеш пагляд, што чалавек можа быць шчасьлівым,на-
ват тады, калі ён паступае несправядліва і неспра-
вядлівым ёсьць, калі, паводля твайго пераканаьня,
Архэляос ёсьць несправядлівы і адначасна шчасьлівы.
Маем мы цябе гэтак разумець ці мо' інакш?
ПОЛЁС: Якраз гэтак.

САКРАТАС: Я ўтрымліваю, што гэта зьяўляецца немагчымым. І гэта ёсьць першае, у чым мы разыходзімся. Добра. І што ты скажаш, калі несправядлівы спаткае помсту і ка́ру, – будзе ён і тады шчасьлівы?

ПОЛЁС: Напэўна, не. Тады ён будзе найболей нешчасьлівым.

САКРАТАС: З другой стараны, калі несправядлівы ня будзе пакараны, тады, паводля твайго пагляду, будзе ён шчасьлівым?

ПОЛЁС: Гэта якраз і ўтрымліваю я.

САКРАТАС: Паводля майго пагляду, Полёс, несправядлівы або чыніцель несправядлівасьці зьяўляецца нешчасьлівым у кажным выпадку, але болей нешчасьлівым, калі ён ухіліцца ад помсты і пакараньня, і меней нешчасьлівым, калі ён прыйме пакараньне і дазнаціме помсту гэтак ад багоў як і ад людзей. 473

ПОЛЁС: Недарэчнасьць ты ўтрымліваеш, Сакратас.

САКРАТАС: Я буду старацца пераканаць цябе, дружа, каб і ты займеў той самы пагляд, што я, бо-ж я ўважаю цябе за прыяцеля. Тое, у чым мы разыходзімся, – будзь уважным цяпер, – зводзіцца вось да чаго: Я ўтрымліваў ужо раней, што несправядлівасьць чы́ніць ёсьць горшым, чымся несправядлівасьць цярпець.

ПОЛЁС: Так, ты казаў.

САКРАТАС: А ты – што несправядлівасьць цярпець?

ПОЛЁС: Так.

САКРАТАС: І яшчэ я казаў, што несправядлівыя няшчаснымі зьяўляюцца, і ты з гэтым не згадзіўся.

ПОЛЁС: Так, на Зэуса.

САКРАТАС: Гэткім ёсьць твой пагляд, Полёс?

ПОЛЁС: Так, і я спадзяюся, ён трапным ёсьць.

САКРАТАС: Ты гэтаксама сказаў, што той, хто чы́ніць несправядлівасьць, зьяўляецца шчасьлівым, калі астаецца непакараным?

ПОЛЁС: Напэўна.

САКРАТАС: Я, аднак, утрымліваю, што ён зьяўляецца найболей нешчасьлівым і, што тыя, што церпяць ка́ру, зьяўляюцца меней нешчасьлівымі. – Хочаш ты і гэта запярэчыць?

ПОЛЁС: Гэта ёсьць болей трудным запярэчыць, чымся тое, Сакратас.

САКРАТАС: Не, Полёс, ня болей трудным, але немагчыма; праўды, наагул, немагчыма запярэчыць.

ПОЛЁС: Як гэта? Калі несправядлівы чалавек прадпрыняў варожы акт, напрыклад, тыранам стацца, і, калі выкрыюць гэта, схопяць яго і расьцягнуць на лаве катаваньня, тады вылягчаюць яго, выпаляць яму

вочы і назьдзекваюцца над ім усімі нялюдзкімі ў му-
мучэньнях катаваньнямі ды яшчэ да гэтага змусяць я-
го глядзець, як катуюць і зьдзекваюцца над ягонымі
дзяцьмі і жонкаю, і пасьля ўсяго гэтага ўкрыжуюць
яго або зáжыва спаляць аблітага смалою, – і думаеш
ты, што пасьля ўсяго гэтага будзе ён болей шчась-
лівым, чымся, калі-б яму ўдалося ўратавацца і стац-
ца тыранам і валадарыць у месьце да апошніх сваіх
дзён, паступаючы як яму падабаецца, выклікваючы ся-
род сваіх як і чужынцаў зайздрасьць і захопленьне?
І гэтага, думаеш ты, ня можна запярэчыць?
САКРАТАС: Цяпер ты пачынаеш мяне палохаць, пава-
жаны мой Полёс, і не запярэчваеш мне, гэтак-
сама як раней пакліквауся ты на сьведкаў. Але, ка-
лі ласка, памажы мне адсьвежыць крыху маю памяць.
Ці не сказаў ты: – "несправядлівы чалавек прадпры-
няў варожы акт, тыранам стацца"?
ПОЛЁС: Сказаў.
САКРАТАС: Болей шчасьлівым ня будзе ані той,ані
гэты – ані той, хто захапіў тыранскую ўладу неспра-
вядліва, ані той, хто церпіць з прычыны замеру за-
хопленьня гэтае-ж улады. З двух нешчасьлівых ані во-
дзен ня можа быць названы "болей шчасьлівы".Болей,
аднак няшчасным будзе той, хто ўратуецца і станец-
ца тыранам. Ты сьмяешся, Полёс? Ёсьць-жа гэта ней-
кі новы спосаб запярэчаньня – калі хто-небудзь не-
шта скажа, замест запярэчыць – высьмейваць?
ПОЛЁС: Ці ня думаеш ты, Сакратас, што ты ўжо за-
пярэчаны, калі ты такое нешта кажаш, чаго ня скажа
ані які іншы чалавек? Запытай каго-небудзь з пры-
сутных.
САКРАТАС: Да дзяржаўных мужоў, Полёс, я не на-
лежу. Так, калі ў мінулым годзе выпаў лёс прыймаць
удзел у Радзе і нашая філé выконвала ролю прытанаў
474 і мне выпала на долю зьбіраць галасы, выклікала гэ-
та агульны сьмех, бо я ня ведаў, як гэта робіцца.
Гэтаксама і цяперака, ня змушай мяне зьбіраць га-
ласы прысутных. Але, калі ты ня маеш ніякага інша-
га лепшага доваду, як толькі лікі, дык, як я ўжо
раней казаў: перасьцерагаючы чарговасьць, дай мне
месца тады, і запазнайся з маім довадам, які, як
мне здаецца, зьяўляецца значным. Пра што-колечы-б
я гаварыў, я магу паставіць толькі аднаго сьведку,
пайменна, таго, з кім я вяду гутарку, а сьвед-
чаньне большасьці не бяру пад увагу, і што да паг-
ляду на дадзеную рэч, магу даведацца толькі ад ад-
наго, а з шматлікімі ня маю я нічога супольнага.
Магу я, затым, запытацца цябе, ці гатоў ты са свае

стараны працягваць гутарку і адказваць на мае пытаньні? Я перакананы, што і я, і ты, і ўсе іншыя людзі ўважаюць, што чыніць несправядлівасьць ёсьць большае зло, чымся цярпець несправядлівасьць, і аставацца без пакараньня, чымся быць пакараным.

ПОЛЁС: І я скажу, што ані я, ані хто-колечы іншы зь людзей гэтак ня думае: ці захацеў-бы ты, напрыклад, барджжэй цярпець несправядлівасьць, чымся спрычыняць яе каму-небудзь?

САКРАТАС: Гэтаксама ты, як і ўсе іншыя.

ПОЛЁС: Наадварот, ані я, ані ты, ані хто-колечы іншы.

САКРАТАС: Ці хацеў-бы ты адказаць на пытаньне?

ПОЛЁС: Будзь пэўны, што хачу. Бо і цікавіць мяне, што́ ты цяперака скажаш.

САКРАТАС: Адкажы мне толькі і ты будзеш ведаць, і дзеля гэтага пачнем усё быцам спачатку: Як табе здаецца, Полёс, што́ горшым ёсьць – спрычыняць несправядлівасьць ці цярпець несправядлівасьць?

ПОЛЁС: Па-мойму, цярпець.

САКРАТАС: А цяперака, што́ з двох найболей брыдкім ёсьць, несправядлівасьць спрычыняць ці цярпець? Адкажы.

ПОЛЁС: Спрычыняць.

САКРАТАС: Гэтаксама і дрэнна, калі брыдка?

ПОЛЁС: У ніякім выпадку.

САКРАТАС: Ты ўтрымліваеш, што прыгожае і добрае, дрэннае, злое і брыдкае – ня ёсьць тое самае?

ПОЛЁС: Пэўна, што не.

САКРАТАС: Тады вось якое пытаньне: усё прыгожае, напрыклад, целы, колеры, абрысаваньні, тоны, паводзіны, ты называеш прыгожым у кажным апрычоным выпадку без спасылкі на нешта прыгожае? Возьмем, напрыклад, прыгожыя целы, завеш ты іх прыгожымі ў той прапорцыі, у якой яны праяўляюць карыснасьць, або з прычыны прыемнасьці, якую яны выклікаюць у таго, хто глядзіць на іх? Ці маеш ты што-небудзь дадаць адносна прыгожасьці цела?

ПОЛЁС: Ня ведаю.

САКРАТАС: І ці ня кажаш ты, што абрысаваньні і колеры зьяўляюцца прыгожымі з прычыны карыснасьці або прыеманасьці, або з прычыны таго і гэтага разам?

ПОЛЁС: Так, кажу.

САКРАТАС: З гэтае самае прычыны ты назавецімеш прыгожымі і тоны, і му́зыку?

ПОЛЁС: Але́.

САКРАТАС: Гэтаксама і ў правох і абычаях прыго-

жае выяўляецца карыснасьцю або прыемнасьцю, або з прычыны таго і гэтага разам?

475 ПОЛЁС: Я думаю, што таго і гэтага разам.

САКРАТАС: А ці ня можам мы сказаць гэтага самага пра прыгожасьць навукі?

ПОЛЁС: Напэўна, Сакратас! Цяперака ты пераконваюча паясьняеш, дзе прыгожасьць мерыцца караснасьцю і прыемнасьцю.

САКРАТАС: Згэтуль брыдкае вымерваецца супроцьлежнасьцю – праз боль і зло?

ПОЛЁС: Абавязкава.

САКРАТАС: Калі із двух прыгожых рэчаў адна зьяўляецца прыгажэйшаю, дык яна затым прыгажэйшая,што яна перавышае другую тым ці іншым, або і тым і іншым разам: прыемнасьцю і карыснасьцю або гэтымі двума адначасна?

ПОЛЁС: Напэўна.

САКРАТАС: І, калі з двух брыдкіх рэчаў адна зьяўляецца болей брыдкаю, дык яна выдаецца брыдкаю затым, што яна перавышае другую пакутаю або злом. Ці ня гэтак мае быць?

ПОЛЁС: Гэтак.

САКРАТАС: Зноў, вéрнемся да таго, штó было сказана адносна чыненьня несправядлівасьці і цярпеньня яе. Ці не казаў ты, што цярпець несправядлівасьць ёсьць горшаю рэчаю, а спрычыняць несправядлівась – болей дрэннаю?

ПОЛЁС: Казаў.

САКРАТАС: Затым, калі спрычыняць несправядлівасьць болей дрэнным ёсьць, чымся несправядлівасьць цярпець: дык тое, штó ёсьць болей дрэнным, мусіць быць болей пакутным, перавышаючы і пакутаю і злом, або адным і другім разам. Ці ня выплывае гэта з нашага развжитвання?

ПОЛЁС: І як можа быць інакш!

САКРАТАС: Перш, давай паглядзімо, ці чыненьне несправядлівасьці, запраўды, перавышае цярпеньне несправядлівасьці: ці чынецелі несправядлівасьці церпяць болей цярпеньня ад тых,што дазнаюць несправядлівасьць?

ПОЛЁС: Не, Сакратас, напэўна, не.

САКРАТАС: Тады яны не перавышаюць у цярпеньні?

ПОЛЁС: Не.

САКРАТАС: Калі не цярпеньнем, тады і ня злом?

ПОЛЁС: Напэўна, не.

САКРАТАС: Тады яны могуць толькі перавышаць у другім?

ПОЛЁС: Так.

САКРАТАС: Інакш кажучы, злом?
ПОЛЁС: Так выглядае.
САКРАТАС: Тады, чыніць несправядлівасьць будзе перавышаць злом, і гэтым самым, будзе большым злом, чымся цярпець несправядлівасьць?
ПОЛЁС: Напэўна.
САКРАТАС: Ці не згадзіўся ты з агульна прынятаю думкаю на сьвеце, што тварыць несправялівасьць зьяўляецца болей дрэнным, чымся цярпець несправядлівасьць?
ПОЛЁС: Так.
САКРАТАС: І цяперака гэта выясьнілася як яшчэ большае зло?
ПОЛЁС: Гэтак выглядае.
САКРАТАС: А большае зло і большую дрэннасьць ты замяніў-бы на нешта меншае? Ня хістайся са сваім адказам, Полёс – гэта ня спрычыніць табе ніякае шкоды – калі ты даверышся розуму, быццам дасьведчанаму лекару, і адкажы на маё пытаньне "так" ці "не".
ПОЛЁС: Не, Сакратас, праўдападобна я не замяніў-бы.
САКРАТАС: Ці і ніякі іншы чалавек не замяніў-бы большага зла на меншае?
ПОЛЁС: Думаю, што не, Сакратас, асабліва пасьля гэткага спосабу вядзеньня дыскусыі.
САКРАТАС: Тады трапна сказаў я, Полёс, што ані я, ані ты, ані хто-небудзь іншы зь людзей не ўважаў-бы за лепшае чыніць несправядлівасьць, чымся цярпець несправядлівасьць; бо спрычыняць несправядлівасьць ёсьць большае зло з двух.
ПОЛЁС: Гэтак выяўляецца.
САКРАТАС: Цяперака, Полёс, ты бачыш, параўноўваючы два спосабы запярэчаньня, як не падобнымі яны да сябе зьяўляюцца. Усе людзі, за выняткам мяне, думаюць падобна, як ты; мне хопіць, калі ты адзін 476
толькі згадзіўся са мною і падаў свой голас на маю карысьць, і цябе аднаго клічу я як сьведку, а пра рэшту я не шманаю. Але хопіць пра гэта. Вярнемся цяперака да другога нашага пытаньня, што да якога мы разыходзімся: Калі чалавек учыніць несправядлівасьць і нясе кару, ці гэта, – як ты думаеш, – зьяўляецца найбольшым злом, або яшчэ большае зло, – як я лічу, – астацца без пакараньня? Разважма: Несьці пакараньне і прыняць справядлівую кару за дакананую несправядлівасьць – ці здаецца табе, гэта адно і тое самае?
ПОЛЁС: Я думаю, што так.
САКРАТАС: Ці ня згодзішся ты, што ўсё справядлі-

вае зьяўляецца прыгожым, як далёка яно справядлівым ёсьць? Развaж гэта акуратна і адкажы.

ПОЛЁС: Так, Сакратас, я думаю, што рэч гэтак маецца.

САКРАТАС: Падумай вось аб чым. Калі нехта выконвае нейкае дзеяньне, ці ствараецца тады неабходнасьць існаваньня прадмету, які церпіць з прычыны гэтага дзеяньня?

ПОЛЁС: Я сказаў-бы, так.

САКРАТАС: І ці ня будзе ён дазнаваць тое цярпеньне, якое дзеючы творыць і такога характару, у якім дзеючы спрычыняе? Я думаю, напрыклад, што, калі чалавек б'е, дык у сілу неабходнасьці мусіць быць тое, што ён б'е?

ПОЛЁС: Абавязкава.

САКРАТАС: Калі той, хто б'е, б'е мацней або хутчэй, у гэтакі самы спосаб будзе біты той, хто ёсьць бітым?

ПОЛЁС: Але.

САКРАТАС: І цярпеньні таго, хто зьяўляецца бітым, зусім адказваюць дзеяньням таго, хто іх выконвае?

ПОЛЁС: Так.

САКРАТАС: І, калі хто-небудзь прыпякае, тады абавязкава мусіць быць тое, што прыпякаецца?

ПОЛЁС: Інакш і быць ня можа.

САКРАТАС: І, калі прыпальваньне ёсьць сільнейшае або болей балючае, дык і рэч, што прыпальваецца, будзе прыпальвацца ў гэткі самы спосаб?

ПОЛЁС: Зусім правільна.

САКРАТАС: І, калі хто чыніць раскрой, дык, ідучы па лініі нашага разважаньня, мусіць быць нешта, што раскройваецца?

ПОЛЁС: Так.

САКРАТАС: І, калі раскрой будзе большым або глыбейшым, або гэткім, што спрычыняе боль, дык і сам раскрой будзе гэткага самага характару, як выконвае той, хто кроіць?

ПОЛЁС: Гэтак выглядае.

САКРАТАС: Вазьмі пад увагу, ці згодзішся ты з тым, што я вось гаварыў, у агульным цяпер выснаве: які чын – гэтакае і ўспрыйманьне яго?

ПОЛЁС: Згаджаюся.

САКРАТАС: Цяперака, калі мы з гэтым згадзіліся, дазволь мне запытаць цябе: быць пакараным – гэта тое самае, што цярпець або дзейнічаць?

ПОЛЁС: Цярпець, Сакратас, і што да гэтага, ня можа быць сумліву.

САКРАТАС: І цярпець са стараны некага, хто дзейнічае?

ПОЛЁС: І як-жаж інакш? Са стараны таго, хто карáе.

САКРАТАС: І той, хто карае належна, карае справядліва?

ПОЛЁС: Так.

САКРАТАС: І паступае ён справядліва?

ПОЛЁС: Справядліва.

САКРАТАС: Затым, той, хто нясе кáру і церпіць, церпіць справядліва, нясучы сваё пакараньне?

ПОЛЁС: Гэтак выглядае.

САКРАТАС: Ці не згадзіліся мы ўжо, што справядлівае зьяўляецца прыгожым?

ПОЛЁС: Правільна.

САКРАТАС: Адсюль выснаў, што адзін зь іх чы́ніць прыгожае дзеяньне, а другі дазнае гэтае дзеяньне на сабе – гэта значыць той, каго караюць.

ПОЛЁС: Так.

САКРАТАС: Але, калі прыгожае – значыць і добрае, 477
тады яно зьяўляецца або прыемным, або карысным?

ПОЛЁС: Абавязкава.

САКРАТАС: Згэтуль, пакараньне зьяўляецца дабром для таго, хто яго нясе?

ПОЛЁС: Гэтак выглядае.

САКРАТАС: І выходзіць яно яму на карысьць?

ПОЛЁС: Алé.

САКРАТАС: Ці аднолькава мы разумеем гэтую карысьць? Кажучы "дабром", я мáю на ўвазе, што, калі ён караецца паводля справядлівасьці, ягоная душа стаецца лепшаю.

ПОЛЁС: Праўдападобна, так.

САКРАТАС: Значыцца, той, хто церпіць пакараньне, збаўляецца ад сапсаванасьці свае душы?

ПОЛЁС: Алé.

САКРАТАС: І ці-ж не выбаўляецца ён з найбольшага зла? Паўзірайся на справу гэтак: З увагі на важнасьць людзкае маемасьці, ці ведама табе большае зло, чымся беднасьць?

ПОЛЁС: Не, толькі беднасьць.

САКРАТАС: А што датычыцца пабудовы людзкага цела? Ці не назавецімеш ты злом слабасьць, дрэннасьць, агіднасьць і падобнае да гэтага?

ПОЛЁС: Напэўна.

САКРАТАС: Ці не ўяўляеш ты сабе, што гэтаксама і душа можа мець у сабе дрэннасьць?

ПОЛЁС: Ведама, што ўяўляю.

САКРАТАС: І гэта назавецімеш ты несправядлі-

васьцю і беспрасьветнасьцю, і безадважнасьцю, і падобным?
ПОЛЁС: Напэўна.
САКРАТАС: Затым, для маемасьці, цела і душы - для гэтых трох - ты супроцьпаставіў тры выяўленьні зла - галечу, хваробу, несправядлівасьць?
ПОЛЁС: Так.
САКРАТАС: І якая-ж з-паміж гэтых дрэннасьцяў зьяўляецца найболей агіднаю? Ці-ж не зьяўляецца між імі найболей агіднаю несправядлівасьць, дый наагул дрэннасьць душы?
ПОЛЁС: Найболей, запраўды.
САКРАТАС: І, калі найболей агіднаю, дык і найгоршаю?
ПОЛЁС: Як ты разумееш гэта, Сакратас?
САКРАТАС: Я разумею, што тое, штó зьяўляецца найболей агідным, у чым мы ўжо згадзіліся, спрычыняе найбольшае цярпеньне або найбольшую шкоду, або тое і гэтае, узятыя разам.
ПОЛЁС: Зусім трапна.
САКРАТАС: Возьмем цяперака несправядлівасьць і ўсю агіднасьць душы, ці-ж не згадзіліся мы, што агіднасьць наагул зьяўляецца найбольшым злом?
ПОЛЁС: Згадзіліся.
САКРАТАС:Зьяўляецца яна гэтаксама або найболей балючаю з прычыны сваеасаблівага болю, або выяўляецца шкоднаю, або тым і гэтым разам.
ПОЛЁС: Абавязкава.
САКРАТАС: Затым, быць несправядлівым і раздражненым, безадважным і беспрасьветным - зьяўляецца болей балючым, чымся быць бедным або хворым?
ПОЛЁС: Не, Сакратас, не выдаецца мне, каб гэтакі выснаў можна было ўчыніць з твайго выказваньня.
САКРАТАС: Затым, калі, як ты кажаш, з пасярод усіх дрэннасьцяў найболей агіднаю зьяўляецца сапсутасьць душы, дык і сапсутасьць гэтая праўдападобна спрычыняецца нейкаю супроцьнатуральнаю веліччу або сваеасабліваю шкоднасьцю зла.
ПОЛЁС: Гэтак выглядае.
САКРАТАС: І тое, штó спрычыняе найбольшую шкоду, будзе найбольшым злом з пасярод існуючых?
ПОЛЁС: Так.
САКРАТАС: Ці несправядлівасьць як і разнузданасьць, і ўсё іншае, штó адносіцца да дрэннасьці душы, гэтаксама зьяўляецца найбольшым злом?
ПОЛЁС: Выглядае так.
САКРАТАС: Цяпер, што гэта за мастацтва, што ратуе нас ад галечы? Ці ня ёсьць гэта мастацтва на-

грамаджаньня грошай?
ПОЛЁС: Агá.
САКРАТАС: І якое мастацтва бароніць нас перад хваробаю? Ці-ж не мэдычнае мастацтва?
ПОЛЁС: Натуральна.
САКРАТАС: Якое ад заганы і несправядлівасьці? 478
Калі ты ня чуешся пэўным з адказам, пастаў сабе пытаньне: куды і да каго мы зьвяртаемся з хворымі?
ПОЛЁС: Да лекара, Сакратас.
САКРАТАС: А куды мы ідзем з несправядлівымі і з неапанаванымі?
ПОЛЁС: Ты думаеш, што да судзьдзяў?
САКРАТАС: З тым, мусіць, каб яны атрымалі справядлівую кáру?
ПОЛЁС: І я гэтак думаю.
САКРАТАС: А тыя, што справядліва іх караюць, ці не караюць у сузгоднасьці з абавязваючым правам і справядлівасьцю?
ПОЛЁС: Напэўна.
САКРАТАС: Згэтуль - мастацтва награмаджаньня грошай ратуе нас ад галечы; мэдычнае мастацтва - ад хваробы, і справядлівасьць - ад несправядлівасьці і неапанаванасьці.
ПОЛЁС: Гэтак выглядае.
САКРАТАС: Якая, затым, з гэтых трох рэчаў ёсьць найболей прыгожая?
ПОЛЁС: Што ты маеш на ўвазе?
САКРАТАС: Я маю на ўвазе мастацтва нажывы, мэдычнае мастацтва і правадаўства.
ПОЛЁС: Правадаўства, Сакратас, далёка пераўышае два папярэднія.
САКРАТАС: Затым, калі яно пераўышае іншыя, дык яно стварае або найбольшую прыемнасьць, або найболшую карысьць, або тое і другое адначасна?
ПОЛЁС: Алé.
САКРАТАС: Той, хто лечыцца, адчувае прыемнасьць, а вылечаныя - здаволеньне?
ПОЛЁС: Я думаю, што не.
САКРАТАС: Тады карысьць?
ПОЛЁС: Так.
САКРАТАС: Так, бо хворы выбаўляецца ад вялікага зла; з гэтае прычыны аплачваецца выцярпець боль, каб стацца здаровым.
ПОЛЁС: Ведама.
САКРАТАС: Гэтак бо і ёсьць, калі ідзе пра нашае цела: ці той чалавек чуецца найболей шчасьлівым, каторага лекар аздаровіць, ці мо' той каторы ніколі не хварэе?

ПОЛЁС: Ведама, што калі ніколі не уварэе.

САКРАТАС: Так; бо і запраўды, шчасьце ніколі не заключаецца ў тым, каб быць выбаўленым ад зла, але ў тым, каб ніколі не дазнаць яго.

ПОЛЁС: Гэтак бо яно і ёсьць.

САКРАТАС: І як? Каторы найболей нешчасьлівым зьяўляецца з двух, з каторых адзін церпіць целам, а другі – душою: той, што лечыцца і выбаўляецца ад зла, ці мо' другі, каторы ня лечыцца і астаецца ў тым самым стане?

ПОЛЁС: Як мне выдаецца – той, каторы ня лечыцца.

САКРАТАС: Ці не згадзіліся мы, што пакараньне ёсьць выбаўленьнем ад зла з заганы?

ПОЛЁС: Правільна.

САКРАТАС: Тады пакараньне ўзьдзейвае асьведамляюча і болей справядліва, і тасаваньне яго зьяўляецца лекам ад заганаў.

ПОЛЁС: Так.

САКРАТАС: Той найболей шчасьлівым зьяўляецца, чыя душа не дазнала ніякае заганы ў сабе, калі ўжо выявілася між намі, што ў заганасьці найбольшае зло.

ПОЛЁС: Зусім выразна.

САКРАТАС: Але другое месца займае той, хто вызвалены ад зла?

ПОЛЁС: Правільна.

САКРАТАС: Можна сказаць, што той, хто дазнае́ дакоры і перасьцярогі, і нясе ка́ру?

ПОЛЁС: Ага́.

САКРАТАС: Тады найгорай жыве той, хто астаецца несправядлівым і не дазнае́ вызваленьня?

ПОЛЁС: Так выходзіць з гэтага.

САКРАТАС: І ці не зьяўляецца гэта якраз той, ка-
479 торы даканаў найбольшае злачынства і кіраваўся най-
большаю несправядлівасьцю, і ўсё-ж нейк выкручваўся
ад перасьцярогаў і дакораў, і належнага пакараньня, гэтак, як ты кажаш, удаецца Архэляосу, дый гэтаксама іншым тыранам, і красамоўцам, і валадаром?

ПОЛЁС: Выглядае гэтак.

САКРАТАС: І гэтыя, мой даражэньні, асягваюць амаль тое самае, што асягнуў-бы, скажам, хворы, церпячы на найболей цяжкія хваробы, аднак, які ўхіляўся-б ад адказнасьці перад лекарамі за свае заганы ў целе, і які ня будзе вылечаным, бо ён, як малое дзіця, баіцца болю з прычыны прыпальваньня ці рэзаньня. Ці-ж не выдаецца і табе гэтак?

ПОЛЁС: Так, і мне гэтак выдаецца.

САКРАТАС: Выглядае, што яму няведамым астаецца здароўе і вычуцьцё моцы ў целе; але, калі мы маем

рацыю, Полёс, у чым мы папярэдня згадзіліся, дык яны ў падобным выпадку імкнуцца ўхіліцца ад пакараньня, у якім яны бачаць боль, але астаюцца сьляпымі перад выгадаю, якую займелі-б зь яго, і не здагадваюцца наколькі болей зьяўляецца мізэрная доля хворай душы́, чымся хворага цела; душы́, зноў-жа паўтараю, хворае, несправядлівае і сапсутае. І, калі яны чыняць усё магчымае са свае стараны, каб ухіліцца ад ка́ры і абмінуць магчымасьць асвабаджэньня самых сябе з найбольшага зла, яны абясьпечваюць самых сябе грашыма, і акружаюцца прыяцелямі і найбольшую натугу кладуць, каб навучыцца гаварыць як найболей пераконваюча. Але, калі мы, Полёс, маем рацыю ў тым, што да чаго мы згадзіліся, дык ты-ж сам спасьцерагаеш высnaў нашага разважаньня, або магчыма ляпей, калі мы разам учынім падсумаваньне.

ПОЛЁС: Калі ты думаеш гэтак, калі ласка.

САКРАТАС: Ці-ж з гэтага ня выходзіць, што несправядлівасьць і чыненьне несправядлівасьці зьяўляецца найбольшым злом?

ПОЛЁС: Гэтак выглядае.

САКРАТАС: І зноў-жа, цярпець ка́ру - гэта шлях выбаўленьня ад гэтага зла?

ПОЛЁС: Правільна.

САКРАТАС: А не цярпець пакараньня - гэта ўвекавечваць зло?

ПОЛЁС: Але́.

САКРАТАС: Чыніць несправядлівасьць, тады, зьяўляецца ў сваім вымеры другім злом; але чыні́ць несправядлівасьць і астацца без пакараньня зьяўляецца першым і найбольшым злом з усіх.

ПОЛЁС: Гэтак яно выглядае.

САКРАТАС: Ці-ж ня ў гэтым разыходзіліся мы, мой дружа, што ты цьвердзіў, што Архэляос зьяўляецца шчасьлівым, хоць і быў ён вялікім праступнікам і аставаўся без пакараньня. А я, наўсуперак гэтаму, утрымліваў, што Архэляос, як і кажны іншы падобны яму, калі не панясе пакараньня за сваю несправядлівасьць, зьяўляецца найболей нешчасьлівым чалавекам на сьвеце, і наагул, кажны, хто чыніць несправядлівасьць, зьяўляецца болей нешчасьлівым ад таго, хто церпіць несправядлівасьць, і што той, хто астаецца без пакараньня, ёсьць болей нешчасьлівым ад таго, хто церпіць сваё пакараньне.

ПОЛЁС: Але́.

САКРАТАС: І даведзена цяпер, што гаварылася правільна?

ПОЛЁС: Так выглядае.

480 САКРАТАС: Добра. Калі гэта, Полёс, астаецца праўдаю, у чым, тады, заключаецца вялікая карысьць красамоўства. Калі мы згодзімся з тым, што́ было толькі што сказана, тады кажны чалавек павінен стаяць на стражы самога сябе, каб ня стацца чыніцелям несправядлівасьці, ведаючы, што апошняе станецца крыніцаю цярпеньня для яго. Ці ня гэтак?

ПОЛЁС: Запраўды, так.

САКРАТАС: Ці ўчыніць ён сам несправядлівасьць, ці хто-небудзь мілы яму зь ягонага навакольля, мусіць ён якнайбарджэй дабраахвотна туды ісьці, дзе ён будзе безадкладна пакараны - гэта значыць, да судзьдзі, быццам да лекара, каб хвароба несправядлівасьці не запусьціла глыбака карэньняў і ня сталася невылячальным ра́кам душы. І што́ можам іншае сказаць, Полёс, калі нашыя ранейшыя цьверджаньні маюць захаваць сваю моц? Ці-ж не зьяўляецца гэта пэўнасьцю, што толькі падобная думка астаецца ў гармоніі зь імі, а ўсё іншае не?

ПОЛЁС: Што да гэтага, Сакратас, дык можа быць толькі адзін адказ.

САКРАТАС: Так, Полёс. Дзелятаго, каб апраўдаць уласную несправядлівасьць або несправядлівасьць бацькоў, сяброў, дзяцей ці бацькаўшчыны, нам не патрэбна красамоўства. Хіба што хто-небудзь зьвярнуўся-б да яго з супроцьлежным замерам, пайменна, у першую чаргу, справядліва абвінаваціць самога сябе, а затым родзічаў і сяброў, бяз розьніцы хто зь іх учыніў несправядлівасьць і не ўкрываць гэтае несправядлівасьці, а выстаўляць на дзеннае сьвятло, каб гэтым чыніцель праступства панёс пакараньне і аздаравіўся, і каб з вышуканаю натугаю пераканаў самога сябе, і стацца адважным як з заплюшчанымі вачыма праяўляюць мужнасьць тыя людзі, якія дазваляюць лекару вы́канаць апэрацыю пры помачы нажа ці распаленага жалеза, не зважаючы на боль, але спадзяючыся займець дабро і прыгожасьць; і калі нехта з прычыны праступку свайго заслугоўвае бізуна, няхай паддасца гэтаму пакараньню, калі на вастрог - няхай будзе заключаным, калі на грашовую ка́ру - няхай плоціць, калі на выгнаньне - няхай выходзіць з краю, а калі на сьмерць - няхай памірае, і няхай першы абвінавачвае сябе, і сваіх блізкіх, і на гэта вось няхай ужывае красамоўства, з тою мэтаю, каб праступкі ягоныя і іншых былі да канца выяўленыя і, каб яны выбавіліся ад найбольшага зла: ад несправядлівасьці. Маем-жа мы казаць, Полёс, гэтак ці інакш?

ПОЛЁС: Тое, што ты кажаш, Сакратас, выдаецца мне
дзіўным, але яно згаджаецца з тым, што ты казаў ра-
ней.
САКРАТАС: Затым, ці ня мусім мы або адмовіцца ад
папярэдняга, або гэтае прызнаць?
ПОЛЁС: Так, яно запраўды гэтак ёсьць.
САКРАТАС: Зь іншага пункту гледжаньня, - калі
стаецца неабходнасьцю спрычыніць зло каму-небудзь,
няхай сабе ворагу ці каму іншаму, тады я мушу ста-
яць на стражы самога сябе, каб не адказваць крыў-
даю, якую сам дазнаў ад ворага - гэтага трэба вы-
сьцерагацца - але, калі гэты вораг скрыўдзіў каго-
небудзь іншага, тады трэба ўсімі магчымымі сродкамі,
і словамі, гэтаксама як і дзеяньнем імкнуцца, каб 481
ён ня быў пакараны і ня быў пастаўлены перад судзь-
дзём. А калі, ня гледзячы на гэта, і пападзе у суд,
дык трэба гэтак схітраваць, каб ён не панёс ні-
якае кары; дый ня толькі гэта, - калі ён накраў
многа золата, няхай ён не вяртае яго, але няхай не-
справядліва і па-бязбожніцку растрачвае на самога
сябе і на сваіх блізкіх; а калі выканаў ён злачын-
ства, годнае кары сьмерці, дык трэба гэтак зрабіць,
каб ён стаўся несьмяротным і жыў у сваім злачынст-
ве вечна, або, калі гэта немагчымым ёсьць, дык пры-
намся няхай жыве гэтак доўга, як толькі можа. Вось
для гэтакіх мэтаў, Полёс, красамоўства можа быць ка-
рысным, але малую карысьць, а то і зусім ніякае ня
мае для таго, хто ня мае замеру паступаць неспра-
вядліва; што найменей, ува ўсёй нашай папярэдняй
дыскусыі мы ня выкрылі гэтае карысьці.
КАЛЬЛІКЛЕС: Скажы мне, Хайрэфон, Сакратас паваж-
на тут думае, ці проста жарты строіць?
ХАЙРЭФОН: Я думаю, Кальліклес, што ён і вельмі
паважна гаворыць. Але найляпей запытаць яго самога.
КАЛЬЛІКЛЕС: На нябёсы, гэта і ўчыню я. Скажы
мне, Сакратас, маем-жа мы думаць, што ты паважна
цяпер гаворыш, ці жартуеш? Бо, калі ты паважна га-
ворыш і ўсё гэта праўдаю ёсьць, тады ўсё нашае
людзкае жыцьцё перавярнулася-б дагары нагамі, і
выглядала-б, што ўсё, што мы чынім, мы ня чынім як
трэба, але наадварот?
САКРАТАС: О Кальліклес, калі-б не існавала су-
польнасьць думкі паміж людзьмі, хоць-бы і з пэўным
адхіленьнем у розных людзей - гэта значыць, калі-б
пачуцьцё кажнага чалавека было своеасаблівым для
яго самога і не магло-б быць пераказана іншаму ча-
лавеку, - тады я ня бачу ніякае магчымасьці як маг-
лі-б мы пераказваць нашыя ўражаньні адзін другому.

Я ўводжу гэтую спасьцярогу адумысна, бо я заўважыў, што мы абодва, ты і я, знаходзімся цяперака ў аднолькавым стане: Мы абодва зьяўляемся закаханымі і адначасна ў двох: я - ў Алькібіядэса, сына Клейніяса і ў філязофію, а ты - у атэнскі народ і ў [Дэмоса], сына Пірылямпоса. Цяперака, я спасьцерагаю, што ты пры ўсей сваей растаропнасьці не зьяўляешся склонным супроцьставіцца твайму ўлюбенцу, што-б колечы ён сказаў ці выразіў якую-небудзь думку, але кідаешся з аднае скрайнасьці ў другую. Калі атэнскі дэмос не згаджаецца зь якою-небудзь тваею прапазыкаю, прадложанаю табою ў Зграмаджэньні, ты тут-жа зьменьваеш свой пагляд, і прапануеш тое, што падабаецца атэнцам; падобна паступаеш ты і з прыгожым юнаком , сынам Пірылямпоса. Бо ты ня маеш сілы супроцьставіцца ані словам, ані ідэям тваіх улюбенцаў, і калі-б хто-небудзь праявіў зьдзіўленьне з прычыны тваіх гутарак, якія кажны раз астаюцца пад уплывам іх, ты праўдападобна адказаў-бы яму, - калі-б ты хацеў праўду сказаць, - што ты ня можаш паўстрымацца, каб не сказаць таго, што кажуць улюбенцы, хіба што хто-небудзь перашкодзіў-бы ім у гэ-
482 тым, і ты стаешся ціхім тады, калі і яны моўкнуць. Ты павінен зразумець цяпер, што мае словы зьяўляюцца свайго роду рэхам і дзеля гэтага ты не павінен дзівіцца з прычыны мае думкі і, калі ты хочаш змусіць мяне маўчаць, ты мусіш змусіць маўчаць маю любоў - філязофію, бо яна заўсёды кажа мне тое, што я гавару табе цяперака, мой дружа, і яна ня гэтак капрысная, як мая другая любоў - сын Клейніяса, каторы кажа адну рэч сягоньня, а іншую рэч заўтра, але філязофія заўсёды цьвердзіць тое самае. І гэта яна цяперака сказала тое, з прычыны чаго ты дзівішся; і ты вось сам быў, каторы чуў яе прамаўляючую. Або ты мусіш зьбіць яе цьверджаньні, якія я толькі-што выказаў, пайменна, што тварыць несправядлівасьць і ня быць за гэта пакараным, зьяўляецца найбольшым злом; або, калі ты пакінеш гэта ня зьбітым, на пса, богам ягіпцянаў, заяўляю, о Кальлікклес, што Кальліклес ніколі ня будзе ў сузгоднасьці з самым с абою і, што ўсенькае ягонае жыцьцё будзе нясузгодзьдзем. І вось, мой дружа, няхай ляпей ліра мая ня будзе гэтак добра настроенай, і хор, які я вывяду, няхай ня гэтак складна пяе, няхай большасьць людзей са мною ня згодзіцца і выступіць супроць мяне, каб толькі адно ня ўступіць мне ў спрэчку і разыходжаньне з адным чалавекам - з самым сабою.

КАЛЬЛІКЛЕС: Мне здаецца, Сакратас, што ты, як за-
праўды юнацка зацяты прамоўца, у сваіх гутарках хо-
чаш усё чыста закаламуціць. Вось і цяперака, ты гэ-
так распасьцёрся ў сваей гутарцы, бо Полёс папаў у
тую самаю памылку, выходзячы зь якое, ён пацягнуў
за сабою і Ґорґіяса: – ён сказаў, пайменна, што ка-
лі ты запытаў Ґорґіяса, што́ здарыцца, калі да яго
прыйдзе чалавек, які хоча пазнаць красамоўства, а-
ле чым зьяўляецца справядлівасьць, ня ведае, – ці
вытлумачыць яму што́ такое справядлівасьць, – але
Ґорґіяс засаромеўся і сказаў, што навучыць, затым,
што людзі абурыліся-б, калі-б хто-небудзь адказаў
інакш, а прызнаўшыся да гэтага, паўстала ўжо неаб-
ходнасьць пярэчыць самому сабе, што́ і сталася пры-
чынаю радасьці для цябе. Затым, як мне здаецца, По-
лёс меў рацыю, калі ён дакараў цябе за гэта; а ця-
перака гэтае самае здарылася і зь ім. І я не магу
сказаць шмат адносна Полёсавае кемнасьці, калі ён
згадзіўся з табою, што быццам чыні́ць несправядлі-
васьць ёсьць болей сорамнаю рэчаю, чымся цярпець яе.
Згадзіўшыся з гэтым, ён даўся ў гутарцы запутацца і
хутка замоўк, саромеючыся сказаць тое, што́ запраўды
меў на думцы. Бо фактам астаецца, Сакратас, што пад
дайманом нібыта шуканьня праўды, ты зводзіш гутар-
ку пра нейкія зманьваючыя шляху рэчы, якія могуць
быць апавяданымі толькі народу, аб тым, пайменна,
што тое, што́ не зьяўляецца прыгожым паводля натуры,
наадварот, прыгожым астаецца паводля звычаю. Але
натура і звычай пераважна ўзаемна супярэчаць сабе:
згэтуль, калі хто-небудзь зьяўляецца за скромным і
з адсутнасьцю адвагі, каб сказаць тое, што́ ён ду-
мае, тады ён няўхільна будзе змушаны ўпасьці ў су- 483
пярэчнасьць з самым сабою. Ты гэта падхапіў і вы-
карыстоўваеш, штучна надужываючы словамі: калі хто-
небудзь у гутарцы з табою, мае на ўвазе звычай, ты
за́раз пераходзіш да пытаньняў адносна натуры; ка-
лі-ж размоўца выражае думкі ў сузгоднасьці з нату-
раю, ты ставіш пытаньні з пункту гледжаньня звычаю.
Гэтак вось сталася толькі-што, калі вы гаварылі пра
несправядлівасьць, якую спрычыняюць і церпяць, ка-
лі Полёс выражаўся аб тым, што́ болей сорамным
ёсьць паводля звычаю, тады як ты ўпорыста пераносіў
ягоныя доказы са звычаю на натуру. Паводля натуры
ўсё ёсьць брыдкім, што́ зьяўляецца вялікім злом; але
паводля ўстаноўленага звычаю, чыні́ць зло ёсьць бо-
лей брыдкім. Бо цярпеньне несправядлівасьці не зьяў-
ляецца ўдзелам мужа, але барджэй нявольніка, яко-
му ляпей памерці, чымся жыць, каторы, калі церпіць

зьдзекі і зьнявагі, не зьяўляецца ў стане памагчы
самому сабе, ані каму-небудзь іншаму, каго ён лю-
біць. Паводля мае́ думкі, правы твораць слабыя лю-
дзі, і яны заўсёды перавышаюць лікам. Яны твораць
правы дзеля ўласнае карысьці, рассыпаючы пахвалы
адным, і абдорваючы ганьбамі іншых; болей сільных
людзей яны імкнуцца запалохаць; а тым, каторыя зьяў-
ляюцца здольнымі ўзьняцца над імі і, баючыся гэтага
ўзьняцьця, пачынаюць цьвердзіць, што ўздымацца вы-
шэй за іншых - гэта сорамна і несправядліва і, што
ў імкненьні ўзьняцца вышэй за іншых, якраз і ляжыць
сутнасьць несправядлівасьці. І, будучы сьведамымі
свае слабасьці, я думаю, яны былі-б здаволенымі а-
трымаць роўную частку зь іншымі. І дзелягэтага ім-
кненьне займець болей ад таго, што́ мае большасьць,
аб'яўляецца паводля звычаю несправядлівым і брыд-
кім, а ўсё разам несправядлівасьцю. Але сама нату-
ра, я думаю, даводзіць, што гэта справядлівым ёсьць
- калі лепшы болей мае, чымся горшы, а сільны, чым-
ся слабы. Паказвае яна гэта на лічных прыкладах ся-
род людзей як і сярод жывёлы, назіраем гэта паміж
местамі, як і між ра́самі людзкімі, што сутнасьць
справядлівасьці заключаецца ў тым, што: моцны пануе
над слабым і ма́е болей. На моцы якога права Ксер-
ксэс павёў вайну супроць Гэльляды, або ягоны бацько-
ка супроць скітаў? І можна прывесьці яшчэ болей
прыкладаў з гэтага. Не, яны, як я думаю, паступаюць
у сузгоднасьці з натураю, бо - на Зэуса! - паводля
права натуры, хоць, магчыма, яно і ня ідзе ў па́ры
з тымі самавольнымі правамі, якія мы ўкладаем і па-
водля якіх натужваемся вымайстраваць найлепшых і
найболей рашучых з пасярод нас, пачынаючы ўжо зь
дзіцячых гадоў, падобна як гэта робіцца з львянята-
мі, з прырахманьваньнем і зачароўваньнем, з адна-
часным псыхалягічным накіданьнем думкі, што быццам,
484 усе павінны быць роўнымі, і што гэта мае быць як-
раз і прыгожа, і справядліва. Але, калі зьявіцца ў
нашым асяродзьдзі абдораны натураю муж: я пэўны,
што ён разваліць і атрасецца з усяго гэтага і ста-
нецца свабодным; ён парве і патопча нагамі ўсе на-
шыя пісаньні, чараваньні і нашэпты, і ўсе правы су-
пярэчныя натуры, і выпрастуе сваю сьпіну і выявіц-
ца перад намі валадаром, ён, збунтаваны нявольнік,
- вось тады, і толькі тады зазіхаціць сравядлі-
васьць натуры. І Піндарос выказвае падобную думку ў
песьні, у якой ён кажа: -

Права - князь над кажным зь людзей:
Сьмяротным і несьмяротным;

і гэта кажа ён: -

Сілу тасуе, каб быць справядлівым
Гвалтам магутнай рукі.
Прыклад: Гэраклес бяз выкупу ўзяў іх -

- я не памятаю дакладна словаў песьні, але значэнь-
не іх зводзіцца да таго, што Гэраклес бяз выкупу, і
нічога не даючы ў замен, загарнуў Ґэрыёнавыя валы,
і ўсё гэта на аснове натуральнага права, як і па-
вінна быць: валы і іншая ўласнасьць слабога і гор-
шага павінны належаць да лепшага і магутнага.
І гэтакаю, фактычна, і ёсьць праўда, і ты хутка
пераканаешся, калі ты пакінеш філязофію і пярой-
дзеш да справаў важнейшага значэньня. Бо філязо-
фія, Сакратас, калі сьледаваць за ёю памяркоўна і
ў адпаведным веку, зьяўляецца красою, але за шмат
філязофіі роўназначна руйнаваньню людзкага жыцьця.
ця. Нават калі чалавек і зьяўляецца таленавітым, а-
ле аддаецца філязофіі ў пазьнейшых гадох свайго
жыцьця, у сілу неабходнасьці стаецца ён нясьве-
дамым ува ўсіх тых рэчах, якія чалавек паважаны і
з годнасьцю павінен ведаць. Гэтакі чалавек астанец-
ца нясьведамым у дзяржаўным праве і ў мове, якая не-
абходнаю зьяўляецца для вядзеньня паважных гутарак
зь людзьмі ў прыватным жыцьці як і ў грамадзкім,
нясьведамым што да прыемнасьцяў і жаданьняў людзей,
дый наагул адносна характару чалавека. І гэткага
роду людзі, калі яны займаюцца ўласнымі справамі,
ці справамі дзяржаўнымі, асьмяшаюць самых сябе, гэ-
таксама, як думаю я, асьмяшылі-б самых сябе палі-
тыкі, калі-б яны выступілі ў вашым зграмаджэньні і
пачалі-б займацца справамі філязофіі. Бо, як і Эў-
рыпідэс кажа: -

Зіяючым стаецца кажны й да таго імкнецца,
Каб большасьць дня аддаць тым справам,
Сам сябе ў якіх знаходзіць найляпей;

тое, аднак, у чым ён сябе знаходзіць няздольным, ён 485
абмінае бяз выражэньня ўзнаньня, а іншае дорыць па-
хвалаю, кіруючыся добрым пачуцьцём, мяркуючы, што
гэтым ганаруе самога сябе. Але самае правільнае, як
мне здаецца, - гэта прыймаць удзел у адным і дру-
гім. Філязофія, як частка адукацыі, зьяўляецца цу-
доўнаю рэчаю, і няма ніякага сораму для чалавека,
калі ён знаходзіцца ў сваіх маладых гадох; але, ка-
лі ён аддаецца ёй у старшым веку, дык гэта выклікае
сьмех, Сакратас, і ў мяне ствараецца пагляд, які я

ма́ю адносна тых, што чаўпуць і па-дзіцячаму забаўляюцца. Калі я, напрыклад, узіраюся на маленькае дзіцянё, для якога свомым ёсьць баўбатаць і дурэць, дык мне, калі гэтак можна сказаць, спрычыняе гэта нейкую прыемнасьць, і я знаходжу гэта ласкавым, натуральным і адпаведным для дзіцячага веку. Але, калі я чую малога хлапца, які зусім дакладна і правільна выражаецца, дык мне гэта выдаецца агідным - коле мне гэта вушы і ствараецца ўражаньне нейкае вымушанасьці. Зноў-жа, калі чую я як баўбоча дарослы чалавек, і бачу як ён па-дзіцячаму забаўляецца, выдаецца ён мне сьмешным, нягодным мужам, і вартым бізуна. Гэтаксама адношуся я і да прыхільнікаў філязофіі. Калі я бачу як займаецца ёю юнак, выклікае ў мяне гэта радасьць, я знаходжу гэта натуральным і бачу ў гэтым заруку стацца чалавекм свабоднае адукацыі; таго, зноў-жа, хто не займаецца філязофіяю, уважаю за чалавека нешляхэтнага, і думаю, што ён не зьяўляецца прыдатным да чаго-небудзь вялікага і прыгожага. Зноў-жа, калі я бачу старога чалавека, каторы ўсё яшчэ заглыбляецца ў філязофію і ня хоча зь ёю расставацца, дык тут, Сакратас, як мне здаецца, патрэбны бізун. І як толькі-што казаў я, колькі-б ні быў таленавітым гэтакі чалавек, ён шматлікае губіць са свае мужнасьці, ухіляючыся ад людната места, ягоных рынкаў, дзе, як кажа паэта, аддаецца пашана мужа́м, і да канца свайго жыцьця туляецца ў пазакутках, шэпчучыся з трыма ці чатырма юнакамі, і ніколі ня выкажа слова годнага свабоднага чалавека ў належны спосаб. Што да мяне, Сакратас, дык я адношуся да цябе пасяброўску, і мае́ пачуцьці ў дадзеным выпадку могуць быць параўнанымі з тымі, якія Зэтос жывіў да Амфіёна ў творы Эўрыпідэса. Мне цяперака хочацца сказаць табе падобнае, як той свайму брату: "Сакратас, ты астаешся няўважным адносна рэчаў, якім ты
486 павінен прысьвяціць болей увагі; будучы абдораным з натуры шляхэтнаю душою, ты адно дзяцінлівасьцю адрозьніў сябе, і гэтым ані ў судзе, дзе разьбіраюцца справы, зьвязаныя з правам, ты ня можаш пада́ць разумнае ра́ды, ані сказаць належнага слова, ані ўзьняцца над іншымі адважным замерам". І ўсё-ж, мой дарагі Сакратас, - ня гневайся на мяне, бо я маю на ўвазе толькі дабро для цябе, - калі я запытаю цябе, ці ня сорамна табе быць у палажэньні, у якім, як мне здаецца, ты апынуўся, і ўсе іншыя, каторыя і далей трываюць у філязофіі? Бо ўяві сабе, што хтонебудзь схапіў-бы цябе, ці каго-небудзь з такіх, як

ты, ды ўкінуў-бы ў вастрог, абвінавачваючы ў злачынстве, якога ты ніколі ня ўчыніў: - што-ж, ты ведаеш, што ты апынуўся-б у палажэньні чалавека бяз выхаду і ня ведаў-бы што́ рабіць, усё перапуталася-б у тваей галаве, і ты анямеў-бы з адчыненым ротам, ня ведаючы, што́ сказаць. І, калі-б ты пасьля гэтага стануў перад судом у прысутнасьці мізэрнага і годнага літасьці абвінаваццеля, ты памер-бы, калі-б той толькі на думку ўпаў зажадаць для цябе кару сьмерці. Якая-ж бо мудрасьць можа быць у гэтым, калі "Мастацтва абяртае ў глупца абдоранага мужа", які не зьяўляецца ў стане ані памагчы самому сабе ў найбольшай бядзе, ані каму-небудзь іншаму, і не зьяўляецца ў стане супроцьставіцца ворагам, якія грабяць ягонае дабро, і пакідаюць яго ў родным месьце на ласку і няласку запраўднага дызгонару? Падобнага чалавека - калі дазволена мне ўжыць гэтакага выражэньня - можна зусім бязкарна выбіць па твару. Затым, дарагі мой дружа, паслухайся мяне, "Супыні сваю навуку і займіся справамі дабра́", займіся тым, што́ запэўніць табе рэпутацыю мудрасьці, "Іншым пакінь усе гэтыя хітрыкі", - ня ведаю, як іх назваць: абсурдам ці дурніцаю, але "Галечай яны бо акрыюць твой дом", і ня будзь хуткім патакваць тым, што калупаюцца ў дробязях словаў, але бяры прыклад з тых, што валадараць багацьцем, карыстаюцца славаю і шматлікім іншым дабром.

САКРАТАС: Калі-б душа мая, Кальлíклес, была ўчынена з золата, ці ня думаеш ты, што я ўсьцешыўся-б знойдзеньнем аднаго з тых каменьняў, пры помачы якога дасьледуецца золата, - дый, магчыма, найлепшага з гэтакіх каменьняў, - пад пробу якога паддаў-бы сваю душу, ды, калі-б камень гэты пасьведчыў мне, што душа мая знаходзіцца ў добрым стане, і ведаў-бы я з усёю пэўнасьцю, ці мог-бы я быць тады здаволеным і ня шукаць ужо болей ніякага падобнага ка́меня?

КАЛЬЛІКЛЕС: Дзелячага ты ставіш гэткае пытаньне, Сакратас?

САКРАТАС: Зараз скажу; мне здаецца, што ў тваей асобе я знайшоў гэтакі жаданы камень.

КАЛЬЛІКЛЕС: Як гэта?

САКРАТАС: Бо я зьяўляюся пэўным, што, калі ты згодзішся з маімі выказваньнямі, якія бяруць выток з мае душы, дык гэта і будзе ў сутнасьці сваей праўда. Я ўважаю, што, калі чалавек ма́е правесьці дакладна іспыт свае душы, у тым сэнсе, правільна яна жыве ці не, дык ён павінен адзначацца трыма сво- 487

масьцямі: веданьнем, добразычлівасьцю і адкрытасьцю, і ты маеш усе тры. Я часта спаткаю людзей, якія не зьяўляюцца ў стане іспытваць мяне і гэта з тае прычыны, што яны ня маюць мудрасьці, якую ты маеш. Іншыя, зноў-жа, зьяўляюцца мудрымі, але ня хочуць казаць мне праўды, бо яны – у адрозьненьні ад цябе – астаюцца абыякаснымі адносна мяне. А вось гэтыя два чужынцы, Ґорґіяс і Полёс, абодва бяссумліву разумнымі зьяўляюцца і маімі вельмі добрымі прыяцелямі, але ім не хапае адкрытасьці, яны празмерна сарамяжнымі астаюцца. Дый як-жаж можа быць інакш? Іхная саромлівасьць гэтак далёка зайшла, што ўжо не саромеліся пярэчыць самым сабе – і гэта ўсё ў прысутнасьці шматлікіх людзей і ў справах першараднае важнасьці. Але ты маеш усе тыя свомасьці, якіх не хапае іншым. Ты зьяўляешся чалавекам вялікае адукацыі, што́, напэўна, пацьвердзіла-б большасьць атэнцаў, і адносна мяне праяўляеш дабразычлівасьць. Ці маю я сказаць табе як я дайшоў да гэтага? Я ведаю, што ты, Кальлiклес, Цiсандрос з Афідны, і Андрон, сын Андроціёна, і Наўсікідэс з Холярґэсу, разам учатырох аддаваліся навуцы. Аднойчы, як я даведаўся, вы ра́дзіліся між сабою адносна таго, як далёка вы павінны ісьці ў зглыбленьні філязофіі, і, як далёка ве́дамым мне ёсьць, вы прыйшлі да супольнасьці думкі, што асаблівае глыбіні ў філязофіі і дробезяў шукаць ня трэба. Вы нават заклiка́лі адзін аднаго да асьцярожнасьці, каб, не спасьцерагаючы гэтага, не пашкодзіць сабе празмерную мудрасьцю. І цяперака, калі я чую, што ты даеш мне тую самую ра́ду, якую ты аднойчы даваў сваім найболей блізкім сябром, дык я маю болей чымся дастатковы довад, што ты адносна мяне праяўляеш добразычлівасьць і шчырасьць. Што да веданьня гаварыць адкрыта і нічога не саромеючыся, дык аб гэтым ты сам выявіў, дый прамова твая, якую ты вось толькі-што сказаў, дастаткова дае гэтаму пацьверджаньне.

Згэтуль цяперака ясна вынікае наступнае: калі ты ў якім-небудзь прадмеце нашае гутаркі згодзішся са мною, дык будзе гэта ўважацца як прадмет дастаткова дасьледжаны намі і ў новым досьледзе ня мецiме патрэбы. І трэба разумець, што твая згода са мною ня можа быць выклікана з прычыны адсутнасьці веды ў цябе, ані з прычыны надмернасьці сарамяжнасьці, ані з замерам ашуканьня мяне, бо-ж, – паводля тваіх уласных словаў, – ты мой прыяцель. Дзелягэтага, калі ты і я згодзімся ў чым-небудзь, тое і будзе найвышэйшаю праўдаю.

Ты можаш быць пэўным, Кальлiклес, што нямашака
болей прыгажэйшага досьледу ад таго, адносна якога
ты дакарыў мяне, пайменна, якiм чалавек павiнен
быць, да чаго ён павiнен iмкнуцца, i да якiх межаў
у старасьцi i ў маладыя гады? Бо, калi часамi я i 488
не паступаю правiльна ў маiм жыцьцi, тады ведамым
няхай табе будзе, што не з замерам я чыню памылку,
але з прычыны нясьведамасьцi. I, калi ты ўжо пачаў
мяне ўсьведамляць, тады ня супыняйся, але як гэта
i належыцца табе, растлумач мне дакладна, што́ гэта
такое мае быць, да чаго я iмкнуцца павiнен, i як я
магу асягнуць гэтае нешта. I, калi ты знойдзеш, што
я з табою цяперака згаджуся, а пасьля гэтага паступаю
наўсуперак таго, у чым мы згадзiлiся, тады
ўважай мяне за тупiцу, i напрышласьць ужо нiколi
болей не ўсьведамляй мяне. I, калi ласка, скажы
мне яшчэ раз з пачатку, як ты, i Пiндарос з табою,
узгадняеце справядлiвасьць з натураю. Цi ня гэтак,
што сiльны забiрае тое, што́ належыць да слабога,
лепшы пануе над горшым, i шляхэтны мае болей, чымся
просты чалавек? Цi трапна я разумею тваю думку,
цi мо' маеш ты адносна справядлiвасьцi нешта iншае
сказаць?

КАЛЬЛIКЛЕС: Не, якраз гэтак я гаварыў раней, гэтак
кажу i цяперака.

САКРАТАС: Як ты разумееш, "лепшы"? Гэта тое самае,
што i "годны"? Бачыш бо, я ўжо тады ня мог
адразу ўцямiць, як ты разумееш. Называеш ты годных
сiльнейшымi, i затым слабейшыя павiнны падпарадкавацца
сiльнейшаму, бо мне здаецца, што гэтакую думку
ты падсоўваў, калi ты прыклад падаваў, што большыя
гаспадарствы, у суэгоднасьцi з правам натуры,
нападаюць на малыя, бо яны, бачыш, болей годнымi
зьяўляюцца i сiльнейшымi, з чаго ўжо сам выснаў насоўваецца,
што годны, магутны i лепшы - гэта адно i
тое самае? А можа магчыма быць лепшым, але нязначным
i слабым, i наадварот, годным, але дрэнным? А
мо' паняцьцi "лепшы" i "годны" маюць тое самае значэньне?
Вось гэта якраз ты мне ясна i выразна
сьцьве́рдзi: годнае, лепшае i сiльнае - адно i тое
самае, цi не?

КАЛЬЛIКЛЕС: Кажу табе зусiм дакладна: адно i тое
самае.

САКРАТАС: Тады, цi не зьяўляецца большасьць з
натуры сiльнейшаю за адзiнку, i цi-ж ня гэтая большасьць,
як ты толькi-што гаварыў, творыць правы супроць
гэтае адзiнкi?

КАЛЬЛIКЛЕС: Напэўна.

САКРАТАС: Значыцца, правы большасьці - гэта правы сільных?

КАЛЬЛІКЛЕС: Правільна.

САКРАТАС: Тады правы і лепшых? Бо-ж сільныя, паводля тваіх вывадаў - гэта лепшыя?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: І затым, што яны сільнымі зьяўляюцца, дык і правы, якія яны твораць з натуры лепшымі ёсьць?

КАЛЬЛІКЛЕС: Але́.

САКРАТАС: А ці большасьць не зьяўляецца тае думкі, як ты вось сам казаў, што справядлівасьць - гэ-
та роўнасьць, і, што тварыць несправядлівасьць ёсьць
489 болей сорамнаю рэчаю, чымся цярпець яе? Так гэта
ёсьць, ці не? І ўважай, каб і ты тут не папаўся з
прычыны сарамяжнасьці. Уважае ці не ўважае боль-
шасьць, што мець роўнасьць і ня болей - справядлі-
вым ёсьць і, што болей сорамным ёсьць тварыць не-
справядлівасьць, чымся цярпець яе? Калі ласка,
Кальлікслес, не хавайся са сваім адказам, бо, калі
ты згодзішся са мною, тады я буду чуцца болей пэў-
ным, атрымаўшы падтрымку ад цябе - чалавека з аў-
тарытэтам і ведаючага прадмет.

КАЛЬЛІКЛЕС: Так, тое, што́ ты кажаш, ёсьць перакананьнем большасьці.

САКРАТАС: Тады, ня толькі звычай, але гэтаксама і натура пацьвярджае, што чыні́ць несправядлівасьць ёсьць болей сорамна, чымся цярпець яе і, што справядлівасьць зьяўляецца роўнасьцю; выглядае, што ты памыляўся ў сваім цьверджаньні, абвінавачваючы мяне без абаснаваньня, быццам звычай супярэчным зьяўляецца натуры і быццам я, ведаючы гэта добра, няпрыгожа выкарыстоўваў дыскутуючых, гуляючы словамі так, што, калі хто-небудзь мае на ўвазе натуру, тады нібы-та я зводзіў гутарку ў галіну звычаю, а калі звычай - я ў галіну натуры.

КАЛЬЛІКЛЕС: Чалавек гэты ніколі не перастане чаўпці бязглузьдзіцу. Скажы мне, Сакратас, ня ўжо табе ня брыдка ў тваім веку ганяцца за словамі і, калі хто-небудзь учыніць памылку ў слове, уважаць гэта за вялікую знаходку? Ці запраўды думаеш ты што, калі я кажу лепшым быць, маю на ўвазе нешта іншае, чымся годным быць? Ці-ж не кажу я табе ста́ла, што лепшае і годнае для мяне адно і тое самае? Або думае ты, што, калі зыйдуцца ў гурт нявольнікі і розныя іншыя ім падобныя тыпы людзей, якія нічым іншым ня вырозьніваюцца, хіба што сваею фізычнаю сілаю, і нешта такое там сабе скажуць - і гэта мае

ўжо быць правам?

САКРАТАС: Гэй, разумны мой Кальліклес! Запраўды гэтак ты думаеш?

КАЛЬЛІКЛЕС: Гэтак, і ніяк інакш.

САКРАТАС: Я, мой добры чалавеча, ужо і без таго даўно здагадваюся, што нешта падобнае ты разумееш пад словам "лепшы", і калі і далей цябе пытаюся, дык толькі затым, што я хачу напэўна ведаць, як ты гэта разумееш. Бо, ведама, ты-ж не ўважаеш, што двое людзей лепшымі зьяўляюцца за аднаго чалавека, або, што твае нявольнікі лепшыя за цябе з тае простае прычыны, што яны фізычна мацнейшымі зьяўляюцца. Скажы мне яшчэ раз з пачатку, што ты разумееш пад выражэньнем лепшыя, калі гэта ня тое самае, што моцныя? І, цудоўны мой, калі ласка, будзь болей далікатным у выражэньнях, каб ня сталася гэта прычынаю маіх уцёкаў ад цябе.

КАЛЬЛІКЛЕС: Ты зноў, Сакратас, прыкідваешся?

САКРАТАС: Не, Кальліклес, на Зэтоса, пры помачы якога ты гэтулькі гіранічных рэчаў нагаварыў супроць мяне. Скажы мне затым, каго ты называеш лепшым?

КАЛЬЛІКЛЕС: Я маю на ўвазе найболей годных.

САКРАТАС: Цяперака ты сам бачыш, што ты ўжываеш словы, якія ня маюць большага значэньня і, што ты нічога ня выясьняеш? Ці ня скажаш ты мне, што,ужываючы словы: годныя, лепшыя - ты маеш на ўвазе найболей разумных, ці мо' нешта іншае?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так, на Зэуса, разумею найболей мудрых.

САКРАТАС: Паводля цябе, часамі адін разумны ча- 490
лавек зьяўляецца лепшым, чымся дзесяць тысяч безразважных, і ён мае панаваць над імі, а яны падпарадкавацца яму, і пануючы мае мець болей ад тых, над кім ён пануе. Гэтае, здаецца, ты маеш на ўвазе, і, як бачыш, я не ганяюся за словамі, калі адзін лепшым зьяўляецца, чымся дзесяць тысяч.

КАЛЬЛІКЛЕС: Так; гэта якраз і ёсьць тое, што я маю на ўвазе. І гэта, калі лепшы і найболей разумны пануе і ўздымаецца над горшымі, я ўважаю справядлівым паводля натуры.

САКРАТАС: Затрымаймася, аднак, тут, і дазволь мне запытаць цябе, што-б ты сказаў на гэта: уявем сабе, што ўсе мы сузграмадзіліся ў вялікай кольказьці, вось як цяперака, і маем пад вялікім дастаткам для ўсіх ежы і піцьця, а людзі найболей розныякія: адны моцныя, іншыя слабыя, і адзін спасярод нас аказаўся найболей разумным, бо- лекарам,

а сам ён, як і трэба было-б спадзявацца, у параўнаньні з аднымі, быў-бы мацнейшым, а зь іншымі - слабейшым; ці ня выходзіць з гэтага, што, як найболей разумны ад усіх іншых, ён будзе лепшым і найболей моцным у тых ці іншых справах?

КАЛЬЛІКЛЕС: Напэўна.

САКРАТАС: А цяперака, ці мусіць ён атрымаць з гэтае ежы і піцьця болей ад іншых затым, што ён лепшым зьяўляецца? Або, мусіць ён з абавязку панучага, падзяліць усё пароўну, але што датычыцца ягоных уласных патрэбаў харчаваньня, няхай ніякімі прывілеямі не карыстаецца, калі толькі ён ня хоча з гэтае прычыны панесьці шкоду для сябе - ягоны ўдзел будзе большым ад адных, і меншым ад іншых, але калі здарыцца, што ён акажацца найслабейшым ад усіх, тады, будучы разумнейшым ад усіх, ён атрымае найменшую чатку, Кальліклес. Ці ня маю я рацыі,мой дружа?

КАЛЬЛІКЛЕС: Ты ўсё пра харчы разводзішся, пра піцьцё, пра лекараў ды пра ўсялякую бязглузьдзіцу. Але я не пра гэта гавару.

САКРАТАС: Добра, ці-ж ня ты гэта кажаш, што разумнейшы лепшым зьяўляецца? Адказвай, так ці не?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так, кажу.

САКРАТАС: А ці не павінен лепшы мець большую частку?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так, але не ў харчох і піцьці.

САКРАТАС: Разумею: тады, магчыма, у вопратцы - найболей здольны ткач павінен мець найбольшы плашч і найбольшую колькасьць зь іх, і спацыраваць навакол, апрануўшыся як найболей багата і прыгожа ад усіх іншых?

КАЛЬЛІКЛЕС: Што супольнага мае тут вопратка?

САКРАТАС: А што да абутку, і тут першынства павінен мець найболей разумны і найлепшы; ясна, што шавец павінен крочыць у найбольшых чаравіках, і колькасна мець іх болей,чымся іншыя?

КАЛЬЛІКЛЕС: І што за чаравікі? Ты зноў нейкую чаўпню пляцеш!

САКРАТАС: Добра, калі ты ня гэта маеш на ўвазе, тады,магчыма, уявем сабе разумнага і добрага земляроба, працавітага на сваім загоне і годнага пашаны - гэты, мусіць, павінен болей насеньня мець і сеяць на сваім полі асабліва густа?

КАЛЬЛІКЛЕС: Ты заўсёды гаворыш пра адно і тое самае, Сакратас.

САКРАТАС: Так, Кальліклес, і адначасна пра адну і тую самую рэч.

КАЛЬЛІКЛЕС: На нябёсы, ты ўсё яшчэ ня супыняешся гаварыць пра шаўцоў, гарбароў, кухарскую варку і пра лекараў, - быццам пра іх адно ідзе і гутарка між намі. 491

САКРАТАС: Ці ня скажаш ты, тады, зь якое прычыны найболей сільны і разумны паводля справядлівасьці мае атрымаць большую частку? А мо' хочаш ты запярэчыць усяму таму, што́ я сказаў, і пры гэтым сам нічога ня скажаш?

КАЛЬЛІКЛЕС: Я даўно ўжо гавару. Перадусім, калі я гавару пра лепшых, я ня маю на ўвазе шаўцоў або кухароў, але тых, што маюць разуменьне ў дзяржаўных справах і ведаюць як кіраваць гаспадарствам, - і ня толькі разумных, але і мужных, каторыя, калі нешта пастановяць, зьяўляюцца здольнымі правесьці ў чын пастаноўленае і не затрымліваюцца на поўдарозе з прычыны млявасьці характару.

САКРАТАС: Бачыш, паважаны Кальлікслес, як не зьяўляецца адным і тым самым тое, што́ ты закідаеш мне, і тое, што́ я табе? Ты ўпікаеш мяне, што я заўсёды цьве́рджу адно і тое самае, а я, зноў, чыню закід табе, што ты ніколі не гаворыш пра адно і тое самае аднолькава. Раз ты характэрызуеш лепшых і сільных як самых найболей моцных, іншым разам - як самых разумных, а цяперака, вось, высоўваеш яшчэ трэйцяе азначэньне, паводля якога выходзіць, што сільныя і лепшыя - гэта нейкія найболей мужныя. Я вельмі жадаў-бы сабе, мой дарагі дружа, раз і назаўсёды скончыць з гэтым, і каб ты выразна сказаў, хто гэтыя лепшыя і сільныя ёсьць, і ў чым лепшымі яны зьяўляюцца ад іншых?

КАЛЬЛІКЛЕС: Я ўжо гаварыў табе, што гэтымі зьяўляюцца тыя, што маюць разуменьне ў дзяржаўных справах і астаюцца мужнымі. Гэтым, вось, і належыцца ўлада ў гаспадарстве, дый сутнасьць справядлівасьці заключаецца ў тым, каб яны, - пануючыя мелі болей, чымся іншыя, - падуладныя.

САКРАТАС: А самі над сабою, дружа, будуць яны пануючымі ці падуладнымі?

КАЛЬЛІКЛЕС: Пра што ты гаворыш?

САКРАТАС: Я гавару пра тое, што кажны чалавек зьяўляецца гаспадаром для самога сябе; але магчыма ты думаеш, што няма ніякае патрэбы быць гаспадаром над самым сабою; хопіць, калі ён будзе панаваць над іншымі?

КАЛЬЛІКЛЕС: Як ты разумееш гэтую ўладу над самым сабою?

САКРАТАС: Зусім проста; так, як гэта і кажацца,

што чалавек павінен быць паўстрыманым, умець пана-
ваць над сабою, быць гаспадаром уласных уцехаў і
прагнасьцяў.
КАЛЬЛІКЛЕС: О, які ты нявінны! Думаеш ты, што
гэтыя прастакі - гэта паўстрыманыя?
САКРАТАС: І чаму-ж? Кажны можа ведаць, што гэтак
я думаю.
КАЛЬЛІКЛЕС: І зусім пэўна, Сакратас. Яны, за-
праўды, зьяўляюцца прастакамі. Бо і як чалавек мо-
жа быць шчасьлівым, каторы служыць нявольнікам ін-
шаму і павінен падпарадкавацца каму-небудзь? Гэта
якраз і ёсьць паводля натуры і прыгожым, і спра-
вядлівым тое, што я табе цяперака адкрыта скажу, -
што той, хто хоча правільна пражыць жыцьцё, паві-
нен даваць найбольшую волю сваім уцехам, а ня здуш-
ваць іх, і якколечы вялікімі яны могуць быць, ён
павінен знайсьці ў сабе здольнасьць карыстацца імі
492 дарогаю мужнасьці і разуменьня, і чуцца свабодным
у патураньні сваім прагнасьцям. Ведама, большасьці
гэта зьяўляецца недаступным, затым бо натоўп і да-
карае гэтакіх людзей з прычыны свайго сораму, скры-
ваючы сваю немач і агалошваючы, як я ўжо раней ка-
заў, свавольнасьць сорамам, імкнучыся паняволіць
лепшых паводля натуры. І затым, што ён сам не зьяў-
ляецца ў стане запэўніць свабоду сваім уцехам, ён
усхваляе паўстрыманасьць і справядлівасьць, і ўсё
гэта з прычыны адсутнасьці ў ім мужнасьці. Аднак,
калі каму-небудзь выпала на долю радзіцца сынам ка-
раля або атрымаць дастатковую сілу натуры, каб а-
сягнуць панаваньне ў дзяржаве або тыранію ці якую-
небудзь іншую хворму ўлады, дык што-ж для гэткага
чалавека можа быць найболей сорамным і найгоршым,
калі не паўстрыманасьць? Гэтакі можа бесперашкодна
і беззабаронна цешыцца ўсякім дабром і адначасна
ўздымаць над сабою валадара, пайменна, права, ро-
зум і суд іншых людзей. І як ня стацца яму мізэрным
з прычыны гэтага здадуманага дабра - справядлівась-
ці і паўстрыманасьці, калі ён, пануючы ў сваім
месьце, ня можа болей абдорваць сваіх сяброў, чым-
ся сваіх ворагаў? - Ты ўтрымліваеш, Сакратас, што
шукаеш праўду, а праўда вось у чым знаходзіцца: -
раскошша, непаўстрыманасьць, свабода - у іх, - ве-
дама, калі абставіны да гэтага спрыяюць, - знахо-
дзіцца і цнота, і шчасьце; а ўсё іншае - гэта дзі-
цячая перабольшанасьць, супроцьнатуральныя цьвер-
джаньні, пустыя гутаркі людзей, ня маючыя ніякае
вартасьці.
САКРАТАС: Зусім не безадважна, о Кальлiклес, чы-

ніш ты свой выступ і шчыра; бо тое, што́ ты кажаш, ёсьць тым, што́ рэшта людзей на сьвеце думае, але не адвотна гаворыць пра гэта. Дзелягэтага я прашу цябе, ані ў якім выпадку не адступайся ад выражанае табою думкі, каб гэткім чынам прынцып правільнага людзкага жыцьця стаўся ведамым агульна. Скажы мне, затым: – ты ўтрымліваеш, што прагнасьцяў ня трэба здушваць, калі чалавек мае быць тым, кім ён быць павінен, што трэба даваць ім поўную волю і, што ўсімі магчымымі сродкамі падтрымліваць іх трэба, і што гэта якраз і ёсьць цнота?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так, я ўтрымліваю гэта.

САКРАТАС: Значыць, тых, каторыя ня маюць ніякіх жаданьняў, няправільна называюць шчасьлівымі?

КАЛЬЛІКЛЕС: Запраўды не, бо інакш камяньні і нябожчыкі былі-б найболей шчасьлівымі.

САКРАТАС: Так, але, паводля твайго пункту гледжаньня, жыцьцё зьяўляецца страшэннаю рэчаю; а мо', як я думаю, Эўрыпідэс мае рацыю, кажучы:

Хто скажа, ці сьмерцю жыцьцё не зьяўляецца,
А сьмерць жыцьцём?

I запраўды, магчыма, мы зьяўляемся памершымі? Я чуў 493
аднойчы як нехта з мудрых людзей казаў, што ў гэтую хвіліну мы, фактычна, зьяўляемся памершымі, і што нашыя целы – гэта нашыя магілы, і што тая частка наше душы, якая зьмяшчае ў сабе прагнасьці, паддаецца стала хістаньням з прычыны словаў, хвалюючыся то ўверх, то ўніз, што́ нейкі даўцiпны стваральнік міталягічных апавяданьняў, здаецца сыцыліянец ці італьянец, гэную частку душы ў сваей наіўнасьці, забаўляючыся сугучнасьцю словаў, уклаў казку, у якой душу – з прычыны яе своmасьці верыць і пераказваць веру – назваў бочкаю, а людзей беспрасьветных – няўведзенымі ў тайніцы або дзіравымі, а месца ў душах гэтых няўведзеных у тайніцы, у якім засяроджаны прагнасьці, будучы непаўстрыманаю частакаю, ён параўнаў да бочкі поўнае дзірак, чынячы гэтым алюзыю да людзкае разнузданасьці і ніколі ненасытнае прагавітасьці. I наўсуперак табе, Кальліклес, ён інакш думае. Ён зьвяртае ўвагу, што з усіх душаў, што знаходзяцца ў Доме гадэсу – ён мае на ўвазе неспасьцярожны сьвет – гэтыя няўведзеныя ў тайніцу або дзіравыя людзі, зьяўляюцца найболей мізэрнымі, і што яны ліюць і ліюць ваду ў дзіравую бочку другою дзіраваю судзінаю – рэшатам. Пад рэшатам, як запэўніваў мяне той даўцiпны чалавек, ён разумеў душу, і што душа, якую ён параўнаоўвае да рэшата,

зьяўляецца душою беспрасьветнага, якая гэтаксама
зьяўляецца поўнаю дзірак і ня здольнай ёсьць нічога
ўтрымаць з прычыны дрэннае памяці і недахопу веры.
Гэтакі стан рэчаў да пэўнае ступені гучыць даволі
дзіўна, але ўвыпукляе тое, пра што я казаў, пай-
менна, прынцып, спадзяючыся, паводля маіх сілаў,
прывесьці цябе да зьмены твайго пагляду ў тым сэн-
се, што замест непаўстрыманага і прагавітага жыць-
ця ты вябярэш жыцьцё, якое здавальняецца тым, што
ў дадзеную хвіліну ёсьць і ня ставячым ніякіх а-
саблівых вымаганьняў. Ці ўдалося мне хоць у якой-
небудзь ступені выклікаць ўражаньне ў цябе, і ці
гатоў ты далучыцца да пагляду, што скромныя зьяўля-
ляюцца болей шчасьлівымі ад разнузданых? А мо' мне
не ўдалося пераканаць цябе, ня гледзячы на тое,
колькі-б падобных апавяданьняў я панаапавядаў табе
і ты астаешся непахісным у сваім перакананьні?
КАЛЬЛІКЛЕС: Гэтае апошняе, Сакратас, найболей
праўдзівым ёсьць.
САКРАТАС: Добра, тады я вобразна выражу табе ін-
шым апавяданьнем, якое выводзіцца з гэтае самае
школы. Паўзірайся і скажы, якое падабенства маюць
два спосабы жыцьця, паўстрыманы і разнузданы, у па-
раўнаньні з двума чалавекамі, у кажнага з каторых
многа судзінаў. У аднаго судзіны былі моцныя і на-
поўненыя: адна судзіна віном, іншая мёдам, а трэй-
цяя малаком, побач зь іншымі, напоўненымі рознымі
рэдка спатыканымі і дарагімі цякомінамі, якія ён мо-
жа здабыць толькі дарогаю цяжкое працы і зьвязаны-
мі з гэтым натугамі. І, калі ён раз ужо напоўніў
свае пасудзіны, яму няма патрэбы даліваць іх або
думаць пра іх, затым ён астаецца бястурботным. Дру-
гі, у падобны спосаб як і першы, гэтаксама можа
здабыць гэтыя цякоміны, але судіны ягоныя дзіравыя
494 і струхлелыя, затым ён змушаным ёсьць дзень і ноч
даліваць свае судзіны, а калі занядбае гэта, пад-
даецца цяжкім цярпеньням. Вось гэтакімі зьяўляюцца
два гэтыя спосабы жыцьця: – А цяперака, будзеш ты
і надалей утрымліваць, што жыцьцё абязнузданага ча-
лавека ёсьць болей шчасьлівым, чымся паўстрыманага?
Ці пераканаў я цябе хоць крышку вобразным параў-
наньнем, што паўстрыманае жыцьцё зьяўляецца лепшым,
чымся распушчанае, ці не пераканаў?
КАЛЬЛІКЛЕС: Не, Сакратас, не пераканаў. Бо для
таго, хто напоўніў свае судзіны, няма ўжо на сьве-
це ніякае радасьці; і гэта, як я ўжо раней казаў,
зьяўляецца жыцьцём каменя; ён ня мае ані радасьці,
ані турботаў, калі судзіны ягоныя напоўненыя. Ра-

даснае жыцьцё ў тым заключаецца, каб як найболей уліваць і ўліваць у яго.
САКРАТАС: Для ста́ла наліванага неабхлдным стаецца вялікі адплыў, і дзелягэтага патрэбны шырэйшыя дзіркі.
КАЛЬЛІКЛЕС: Напэўна.
САКРАТАС: Жыцьцё, якое ты цяперака вырысаваў, не зьяўляецца жыцьцём нябошчыка ці каменя, але барждзэй пражэрлівае птушкі баклана. Скажы мне, аднак, разумееш ты гэта як голад, які заспакойваецца ежаю?
КАЛЬЛІКЛЕС: Так.
САКРАТАС: Гэтаксама смагнуць, і заспакаеньне смагі піцьцём?
КАЛЬЛІКЛЕС: Так; і ўсе іншыя жаданьні, якія дазнае́ чалавек; калі ён можа заспакоіць іх і цешыцца з прычыны гэтага, дык ён асягнуў шчасьлівае жыцьцё.
САКРАТАС: Вельмі добра, мой даражэнькі! Трымайся толькі таго, з чаго ты пачаў і не саромейся. І як выходзіць, і я не павінен саромецца. Перадусім, скажы мне, калі хто-небудзь церпіць з прычыны каросты і дазнае сьвярбячкі, а чухацца ён можа колькі захоча, і ў сутнасьці рэчы, гэтым бо ён толькі і займаецца, што чухаецца, дык як табе здаецца, жыве гэтакі чалавек шчасьлівым жыцьцём?
КАЛЬЛІКЛЕС: Які дзіўны ты, Сакратас! праўдзівы аратар сярод натоўпу!
САКРАТАС: Гэта і было, мусіць, прычынаю, Кальліклес, чаму я зьбіў з панталыку і напалохаў Полёса і Ґорґіяса, аж пакуль яны не сказалі таго, што думаюць, але ты не дасіся напалохаць самога сябе і не засаромеешся, бо ты зьяўляешся мужным чалавекам. А цяперака адкажы мне на маё пытаньне.
КАЛЬЛІКЛЕС: І адказваю, што нават той, хто чухаецца, мае прыемнае жыцьцё.
САКРАТАС: Калі прыемнае, тады і шчасьлівае?
КАЛЬЛІКЛЕС: Напэўна.
САКРАТАС: Ці толькі тады, калі сьвярбіць галава, ці мо'..., а можа далей і ня пытаць? Падумай, Кальліклес, што-б ты адказваў, калі-б у сувязку з тым, пра што тут ідзе гутарка, пачалі цябе пытаць пра ўсё іншае бяз вынятку? І нарэшце - пра жыцьцё распусьнікаў, ці не агіднае яно, брыдкае і мізэрнае? А мо' удавацімеш ты харобрага і пачнеш цьвердзіць, што распусьнікі шчасьлівымі зьяўляюцца, калі яны маюць усё пад дастаткам?
КАЛЬЛІКЛЕС: Ці ня брыдка табе, Сакратас, гутарку зводзіць пра гэтакія абрыдласьці?
САКРАТАС: Ці я яе зводжу да гэтага, мой пава-

жаны, ці той, хто бяз глыбейшага ўгляду і засьця-
рогаў, падае да ведама, што кажны, хто толькі мае
прыемнасьць, і ўсяроўна якую, зьяўляецца шчасьлі-
495 вым, і не спасьцерагае ніякае розьніцы паміж доб-
раю і дрэннаю прыемнасьцю? А я, як і раней, пыта-
юся цябе, ці ўтрымліваеш ты і надалей, што прыем-
насьць і дабро – гэта адно і тое самае, а мо' іс-
нуе прыемнасьць, якая не зьяўляецца добраю?

КАЛЬЛІКЛЕС: Я апынуся ў супярэчнасьці з самым сабою, калі прызнаціму, што яны не зьяўляюцца адным і тым самым, дзеля гэтага – я цьверджу, што яны зьяўляюцца адным і тым самым.

САКРАТАС: Ты ломіш, Кальлiклес, нашую папярэднюю дамоўленасьць і стаешся далей немагчымым удзельнікам са мною ў пошуках праўды, калі ты гаворыш наўсуперак уласнаму перакана볼ньню.

КАЛЬЛІКЛЕС: Гэтаксама і ты, Сакратас.

САКРАТАС: Тады, як выходзіць, мы абодва паступаем дрэнна. Аднак, я ўсё-ж прашу цябе, мой дружа, вазьмі паважна пад увагу, магчыма ня кажная прыемнасьць адназначна дабру. Бо, калі-б гэта было правільным, тады, няўхільнымі сталіся-б усе тыя сорамныя высновы, на якія я вось зьвярнуў увагу, дый яшчэ шматлікія іншыя.

КАЛЬЛІКЛЕС: Гэта, Сакратас, ты толькі так думаеш.

САКРАТАС: І ты, Кальлiклес, паважна утрымліваеш тое, што ты кажаш?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так, утрымліваю.

САКРАТАС: Маем-жа мы, тады, працягваць нашае разважаньне, выходзячы зь меркаваньня, што ты паважна адносішся да справы?

КАЛЬЛІКЛЕС: Пэўна.

САКРАТАС: Добра, калі ты ўжо склонным зьяўляешся ісьці далей, тады растлумач мне гэткае пытаньне: – ці існуе нешта такое, што назваў-бы ты ведаю?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так, існуе.

САКРАТАС: А ці ня цьвердзіў ты вось надаўна, што побач веды існуе і мужнасьць?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так, цьвердзіў.

САКРАТАС: Ты гаварыў пра мужнасьць і веду як пра дзьве розныя рэчы, якія розьняцца адна ад другое?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так, гаварыў.

САКРАТАС: Як ты думаеш, прыемнасьць і веда зьяўляюцца тым самым ці ня тым самым?

КАЛЬЛІКЛЕС: Пэўна, што не, мудры чалавеча.

САКРАТАС: Гэтаксама мужнасьць розьніца ад прыемнасьці?

КАЛЬЛІКЛЕС: Ведама.

САКРАТАС: Тады, запамятайма сабе, што́ Кальлік-лес Ахарніянец кажа, пайменна, што прыемнасьць і дабро зьяўляюцца тым самым, але веда і мужнасьць розьняцца між сабою і кажнае ў апрычонасьці ад даб-ра.

КАЛЬЛІКЛЕС: А Сакратас з Алёпекі згаджаецца ў гэтым з намі ці не?

САКРАТАС: Не згаджаецца; гэтаксама і Кальліклес ня згодзіцца, калі ўчыніць праўдзівы ўгляд у само-га сябе. Я думаю, што ты прызнацімеш, што шчасьлівыя ў жыцьці як і нешчасьлівыя зьяўляюцца супроцьлеж-нымі сабе?

КАЛЬЛІКЛЕС: Супроцьлежнымі.

САКРАТАС: І, калі яны зьяўляюцца супроцьлежнымі сабе, дык рэч тут маецца гэтак, як са здароўем і хваробаю? Гэта значыць, што адзін і той самы чала-век ня можа адначасна быць і хворым і здаровым, гэ-таксама як не здараецца, каб ён адначасна губіў і здароўе, і хваробу.

КАЛЬЛІКЛЕС: Як ты разумееш гэта? 496

САКРАТАС: Вазьмі для прыкладу якую-небудзь част-ку людзкога цела. Прымем, што ў чалавека захварэлі вочы, скажам, на запаленьне.

КАЛЬЛІКЛЕС: Добра.

САКРАТАС: Зразумела, што ў гэтым часе вочы яго-ныя ня могуць быць здаровыя.

КАЛЬЛІКЛЕС: У ніякім выпадку.

САКРАТАС: А як, калі ён згубіць сваё запаленьне? Ці згубіць ён тады і здароўе сваіх вачэй, і нарэшце застанецца без аднаго і другога?

КАЛЬЛІКЛЕС: Зусім не.

САКРАТАС: Было-б гэта, як я думаю, цудоўна і ад-начасна недарэчна. Ці ня гэтак?

КАЛЬЛІКЛЕС: Зусім гэтак.

САКРАТАС: Я думаю, што чалавек па чарзе здабывае і губіць раз адно, а іншым разам іншае?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: Гэтаксама рэч маецца з сілаю і сла-басьцю?

КАЛЬЛІКЛЕС: Але́.

САКРАТАС: З хуткасьцю і павольнасьцю?

КАЛЬЛІКЛЕС: Гэтаксама.

САКРАТАС: Гэтаксама дабро і шчасьце і супроць-лежнасьці ім: - зло і няшчасьце прыходзяць і ады-ходзяць заўсёды адно пасьля другога?

КАЛЬЛІКЛЕС: Заўсёды гэтак.

САКРАТАС: Калі мы знойдзем тое, што́ адначасна

чалавек і згубіў, і гэтаксама мáе - дык ясным ёсьць, што яно ня станецца ані дабром, ані злом. Ці можам мы згадзіцца з гэтым? І перад тым як ты адкажаш, падумай добра.

КАЛЬЛІКЛЕС: Суцэльна згаджаюся з табою.

САКРАТАС: Вярнемся цяперака да таго, на чым мы згадзіліся раней. Ці казаў ты, што голад - я маю на ўвазе сам голад, як гэткі - зьяўляецца прыемным ці балючым?

КАЛЬЛІКЛЕС: Я кажу, балючым; але есьці, калі ты галодны, прыемна.

САКРАТАС: І я гэтак думаю. Але сам голад балючым зьяўляецца, ці ня гэтак?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: Гэтаксама смага?

КАЛЬЛІКЛЕС: І нават вельмі.

САКРАТАС: Мáю я далей пытаць ці згаджаешся ты, што кажная патрэба і кажнае жаданьне зьяўляецца балючым?

КАЛЬЛІКЛЕС: Я згаджаюся, і затым няма патрэбы далей ставіць пытаньні.

САКРАТАС: Добра. Ты згаджаешся, што піць, калі ты адчуваеш смагу, прыемна?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: З таго, штó ты кажаш, цяперака робіцца выснаў, што выражэньне "адчуваць смагу" значыць "цярпець"?

КАЛЬЛІКЛЕС: Алé.

САКРАТАС: А слова "піць" - выбаўленьне ад патрэбы і прыемнасьці?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: Кажаш ты, што існуе прыемнасьць у піцьці?

КАЛЬЛІКЛЕС: Напэўна.

САКРАТАС: Тады, калі адчуваеш смагу?

КАЛЬЛІКЛЕС: Алé.

САКРАТАС: Адчуваючы цярпеньне?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: Ці спасьцерагаеш ты выснаў з гэтага:- калі ты кажаш, пайменна, што "адчуваючы смагу п'е", гэтым самым ты цьвердзіш, што адначасна церпячы радуецца. Ці-ж не адбываецца гэта адначасна: у тым самым часе і ў той самай частцы душы ці целе? ці як хочаш назаві гэта, бо гэта ня чыніць сабою розьніцы. - Так гэта ёсьць ці не?

КАЛЬЛІКЛЕС: Гэта ёсьць так.

САКРАТАС: Аднак-жа, хто шчасьлівым ёсьць у жыцьці, як ты кажаш, ня можа быць адначасна і нешчась-

лівым?
КАЛЬЛІКЛЕС: Так, я кажу.
САКРАТАС: Але ты згадзіўся, што церпячы чалавек гэтаксама можа радавацца?
КАЛЬЛІКЛЕС: Выглядае, што можа.
САКРАТАС: Затым, радавацца - ня значыць быць шчасьлівым, а сумаваць - ня значыць, каб быць нешчасьлівым, і з гэтага выснаў, што прыемнасьць і дабро - гэта розныя рэчы.
КАЛЬЛІКЛЕС: Я не разумею, Сакратас, што ты там мудрагеліш.
САКРАТАС: Ты разумееш, Кальліклес, але ты толькі прыкідваешся, быццам не разумееш. Падсунься крыху бліжэй з тваімі жартамі, каб ты пераканаўся, як мудра ты мяне ўсьведамляеш. Ці ў працэсе самога піцьця не шчазае ў чалавека адначасна і смага і прыемнасьць?
КАЛЬЛІКЛЕС: Я не разумею пра што ты гаворыш.
ҐОРҐІЯС: Не, Кальліклес, адкажы ўжо хоць-бы дзеля нас, каб давесьці гутарку да канца.
КАЛЬЛІКЛЕС: Так, Ґорґіяс, але Сакратас заўсёды пра адно і тое самае - ён спрачаецца адносна дробных і малавартасных рэчаў.
ҐОРҐІЯС: Але што табе да гэтага? Гэта ня зусім да цябе, Кальліклес, адносіцца. Пусьці Сакратаса і няхай ён спрачаецца, як хоча.
КАЛЬЛІКЛЕС: Тады пытайся пра свае дробязі і жалю годныя рэчы, калі Ґорґіяс нічога ня мае супроць гэтага.
САКРАТАС: Шчасьлівым ты зьяўляешся, Кальліклес, будучы перш уведзеным у вялікія тайніцы, а пасьля ў малыя; я думаю, што гэтакі парадак не дазваляецца. Пачнем з таго, на чым ты затрымаўся: - ці ў часе піцьця не шчазае адначасна ў кажнага з нас і смага, і прыемнасьць?
КАЛЬЛІКЛЕС: Шчазае.
САКРАТАС: Гэтаксама голад і іншыя жаданьні шчазаюць адначасна з прыемнасьцю?
КАЛЬЛІКЛЕС: Але́.
САКРАТАС: Тады шчазае адначасна цярпеньне і прыемнасьць?
КАЛЬЛІКЛЕС: Так.
САКРАТАС: Але дабро і зло не шчазаюць адначасна, як ты прызнаў; ці ты ўсё яшчэ трымаешся таго, што́ ты сказаў?
КАЛЬЛІКЛЕС: Трымаюся, і што далей?
САКРАТАС: Тое, мой дружа, што дабро не зьяўляецца тоесным з прыемнасьцю, ані зло - з цярпеньнем.

Цярпеньне і прыемнасьць супыняюцца адначасна, але дабро і зло – не, бо яны рознымі зьяўляюцца. І як можа прыемнасьць быць тоесамым з дабром або цярпеньне – са злом? Я хацеў-бы, каб ты паўзіраўся на справу зь іншага боку. Бо я думаю, што і тут ня прыйдзеш ты да сузгоднасьці з самым сабою. Паўзірайся толькі. Ці не называеш ты добрых добрымі толькі затым, што своцым ім ёсьць нешта з добрага, гэтаксама, як прыгожымі тых, у кім наяўнай ёсьць прыгожасьць?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: Ці называеш ты добрымі людзьмі неразумных і безадважных? Што найменей да гэтае пары ты ўважаў за добрых мужных і мудрых. Або не называеш ты гэтых добрымі?

КАЛЬЛІКЛЕС: У кажным выпадку.

САКРАТАС: Ці не даводзілася табе бычыць, як неразумнае дзіцянё радуецца?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так, я бачыў.

САКРАТАС: Гэтаксама дарослага чалавека і неразумнага, які радуецца?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так, напэўна; але куды ты кіруеш гутарку?

498 САКРАТАС: Нікуды; ты толькі адказвай.

КАЛЬЛІКЛЕС: Так, бачыў і дарослага.

САКРАТАС: Як гэта? Таксама разумнага, які сумаваў і радаваўся?

КАЛЬЛІКЛЕС: Таксама.

САКРАТАС: Каторы найболей зь іх сумуе і радуецца – мудры ці неразумны?

КАЛЬЛІКЛЕС: У гэтым сэнсе яны ня шмат розьняцца між сабою.

САКРАТАС: Хопіць і гэтага. Ці бачыў ты калі-небудзь безадважнага на вайне?

КАЛЬЛІКЛЕС: Напэўна.

САКРАТАС: Як табе здаецца: калі вораг адступае, хто болей радуецца, харобрыя ці безадважныя?

КАЛЬЛІКЛЕС: Мне здаецца, "болей" адны і другія. Магчыма, першыя болей. Але наагул аднолькава.

САКРАТАС: Гэта бяз большага значэньня. Значыць, нехаробрыя гэтасама радуюцца?

КАЛЬЛІКЛЕС: Ды яшчэ як!

САКРАТАС: І неразумныя, мусіць, гэтаксама?

КАЛЬЛІКЛЕС: Але.

САКРАТАС: А калі вораг наступае, сумуюць толькі безадважныя ці гэтаксама і харобрыя?

КАЛЬЛІКЛЕС: Адны і другія.

САКРАТАС: Аднолькава?

КАЛЬЛІКЛЕС: Безадважныя бадай-што болей.
САКРАТАС: А калі вораг адступае - радуюцца яны болей?
КАЛЬЛІКЛЕС: Магчыма.
САКРАТАС: Тады сумуюць і радуюцца нямудрыя і мудрыя, безадважныя і харобрыя, паводле тваіх словаў - меней-болей аднолькава, нават безадважныя болей, чымся мужныя?
КАЛЬЛІКЛЕС: Так.
САКРАТАС: Аднак-жа разумныя і адважныя зьяўляюцца добрымі, неразумныя і безадважныя - дрэннымі?
КАЛЬЛІКЛЕС: Але́.
САКРАТАС: Затым добрыя і дрэнныя радуюцца і сумуюць бадай-што ў аднолькавай меры?
КАЛЬЛІКЛЕС: Так.
САКРАТАС: Тады добрыя і дрэнныя зьяўляюцца добрымі і дрэннымі бадай-што ў аднолькавай меры, ці мо' нават дрэнныя зьяўляюцца болей дрэннымі?
КАЛЬЛІКЛЕС: На Зэуса, я не разумею, што́ ты маеш на ўвазе.
САКРАТАС: Чаму, ты не памятаеш, калі ты казаў, што добрыя зьяўляюцца добрымі з прычыны прыналежнага ім дабра, а дрэнныя - дрэннымі з прычыны прыналежнага ім зла і, што прыемнасьць - гэта дабро, а цярпеньне - зло?
КАЛЬЛІКЛЕС: Так, я памятаю.
САКРАТАС: І ці гэтая прыемнасьць або дабро зьяўляецца наяўным у тых, што радуюцца - калі яны запраўды радуюцца?
КАЛЬЛІКЛЕС: І чаму мае інакш быць!
САКРАТАС: Тады тыя, што радуюцца, зьяўляюцца добрымі, калі дабро суспольнена зь імі?
КАЛЬЛІКЛЕС: Але́.
САКРАТАС: Хадзем крок наперад. Тыя, што церпець, маюць зло або суспольнены зь імі сум?
КАЛЬЛІКЛЕС: Маюць.
САКРАТАС: Утрымліваеш ты і надалей, што дрэнныя зьяўляюцца дрэннымі з прычыны наяўнага ў іх зла? Ці мо' думаеш ты ўжо інакш?
КАЛЬЛІКЛЕС: Не, утрымліваю.
САКРАТАС: Тады, тыя, што радуюцца, зьяўляюцца добрымі, а тыя, што церпяць - дрэннымі?
КАЛЬЛІКЛЕС: Напэўна.
САКРАТАС: І тыя, што большыя, зьяўляюцца болей [добрымі], меншыя - меней, і аднолькавыя - аднолькава?
КАЛЬЛІКЛЕС: Але́.
САКРАТАС: Затым, кажаш ты, што разумныя і ня-

мудрыя, безадважныя і мужныя радуюцца і сумуюць бадай-што аднолькава, а магчыма нават безадважныя болей?

КАЛЬЛІКЛЕС: Гэта цьверджу я.

САКРАТАС: А цяперака дапамажы мне зрабіць агульны выснаў з таго, на чым прыйшлі мы да сузгоднась-
499 ці, бо як гэта і кажацца, што і двойчы, і тройчы
чалавек павінен прыгадваць прыгожае і займацца ім.
Мы ўтрымліваем, што добры - гэта разумны і мужны.
Так?

КАЛЬЛІКЛЕС: Але́.

САКРАТАС: А неразумны і безадважны - гэта дрэнны?

КАЛЬЛІКЛЕС: Пэўна.

САКРАТАС: Добра, а той, што радуецца, ёсьць добрым?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: А той, што церпіць дрэнным?

КАЛЬЛІКЛЕС: Напэўна.

САКРАТАС: Добры як і дрэнны - абодва дазнаю́ць і радасьць і цярпеньне, але магчыма, дрэнны дазнае́ болей?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: Ці не павінны мы прыйсьці да выснаву, што дрэнны чалавек гэтаксама, як і добры, добрым ёсьць, а, магчыма, нават лепшым? Ці ня ёсьць гэта далейшы выснаў, які сьледуе за папярэднімі, калі маем цьвердзіць, што добрае і прыемнае - адно і тое самае? Ці не зьяўляецца гэта няўхільнасьцю, Кальліклес?

КАЛЬЛІКЛЕС: Я ўжо даўно слухаю цябе, Сакратас, і ўсё пацтакваю, бо я спасьцярог, што, калі хто-небудзь, хоць жартам, уступае табе ў чымколечы, цешышся з гэтага, як хлапчанё. Ці запраўды думаеш ты, што я ці хто-колечы іншы ня ведае, што некаторыя прыемнасьці зьяўляюцца лепшымі, а іншыя горшымі?

САКРАТАС: О! о! Кальліклес! Які ты зласьлівы, і абыходзішся са мною, як з малым дзіцянём: раз ты кажаш адно, а за хвіліну - ужо іншае, быццам ты хочаш зманіць мяне. Усё-ж, я думаў з пачатку, што ты зьяўляешся маім прыяцелям і ня будзеш мяне ашукваць, але будзеш добразычлівым. Але я бачу, што я памыліўся, і мушу ўжо, паводля старога выслоўя, радасна ўсьміхацца, і прыняць усё, што́ я магу атрымаць ад цябе. І, як далёка я зразумеў цябе, ты цьвердзіш, што некаторыя прыемнасьці бываюць добрыя, а іншыя дрэнныя?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: Добрыя – гэта што? – карысныя, дрэнныя – гэта шкодныя?

КАЛЬЛІКЛЕС: Напэўна.

САКРАТАС: Карысныя – гэта тыя, што прыносяць нейкую карысьць, а дрэнныя – гэта тыя, што прыносяць шкоду?

КАЛЬЛІКЛЕС: Гэта я кажу.

САКРАТАС: Думаеш ты, скажам, пра цялесныя прыемнасьці з ежы і піцьця, якія нядаўна мы ўспаміналі – маючы на ўвазе тыя, што даюць целу здароўе або сілу ці іншыя добрыя свомасьці і, што гэтыя прыемнасьці добрыя, а супроцьлежныя ім – дрэнныя?

КАЛЬЛІКЛЕС: Напэўна.

САКРАТАС: Гэтаксама, мусіць, рэч маецца і з цярпеньнямі – адны зь іх добрыя, а іншыя дрэнныя?

КАЛЬЛІКЛЕС: І чаму мае быць інакш.

САКРАТАС: І ці не павінны мы добрыя прыемнасьці і цярпеньні выбіраць і ўжываць іх?

КАЛЬЛІКЛЕС: Напэўна.

САКРАТАС: Але ня дрэнныя?

КАЛЬЛІКЛЕС: Ясна, што не.

САКРАТАС: Так, бо, калі ты прыпамінаеш сабе, я і Полёс – мы згадзіліся, што ўсё павінна тварыцца дзеля дабра. І ці ня згодзішся і ты з намі ў тым, што ўсе нашыя дзеяньні маюць на ўвазе адну мэту – дабро і, што ўсё іншае павінна адбывацца дзеля дабра, але не дабро дзеля нечага іншага? Ці дадасі ты 500
свой трэйці голас да нашых двух?

КАЛЬЛІКЛЕС: Дадаю.

САКРАТАС: Дзеля дабра павінна быць падпарадкавана ўсё іншае, у тым ліку і прыемнасьці, але ніколі дабро – прыемнасьцям?

КАЛЬЛІКЛЕС: Напэўна.

САКРАТАС: Але ці можа кажны чалавек ведаць, якія з прыемнасьцяў зьяўляюцца добрымі і каторыя дрэннымі, а мо' патрэбны ў кажным выпадку рэчазнаўца?

КАЛЬЛІКЛЕС: Рэчазнаўца.

САКРАТАС: Прыпомнім цяперака тое, што я казаў Полёсу і Ґорґіясу. Я гаварыў, паймення, калі ты не забыў, што існуюць праявы жыцьця, маючыя на ўвазе прыемнасьць і нічога іншага, і нічога ня ведаюць пра лепшае і горшае, і іншыя праявы жыцьця, якія ведаюць чым ёсьць дабро і чым – зло. Затым, сярод тых, каторыя маюць на ўвазе прыемнасьць, я ўважаў кухарскую варку, якую я не назваў мастацтвам, але простым дасьведчаньнем, а сярод тых, што маюць на ўвазе дабро – мэдычнае мастацтва.

А цяперака, на бога сяброўства, я мушу прасіць

цябе, Кальлiклес, не жартуй зь мяне, i ня думай, што я жартую зь цябе; i не адказвай як давядзецца нaўсуперак уласнаму перакананьню – бачыш бо вось, што мы вядзем гутарку аб тым, над чым затрымаўся-б кожны чалавек, якi мае хоць крышку розуму, пайменна: мы гаворым аб тым, як трэба жыць? – Цi трэба iсьцi па шляху, на якi ўступiць ты заклiкаеш мяне, i праяўляць справы, як ты кажаш, годныя мужа: галоўна прамаўляць перад народам, дасканалiцца ў красамоўстве, i прыймаць удзел у грамадзкiх справах паводля вашага ўзору; а мо' ён павiнен прысьвяцiць сваё жыцьцё фiлязофii, i ведаць якая ёсьць розьнiца памiж гэтымi двума шляхамi жыцьця?

Магчыма, ляпей за ўсё пачаць гэтаксама, як i раней, – з розьнiцы памiж iмi, i калi мы прыйдзем да сузгоднасьцi, што яны розьняцца мiж сабою, тады мы можам далей разважаць, у чым, пайменна, гэтыя два шляхi жыцьця розьняцца мiж сабою, i якi з двух варта было-б выбраць. Але, магчыма, ты i цяперака яшчэ не разумееш, што я маю на ўвазе?

КАЛЬЛIКЛЕС: Не, я не разумею.

САКРАТАС: Тады я скажу табе болей выразна. Паводля таго, як мы з табою згадзiлiся, iснуе такая рэч, як дабро, i iснуе гэткая рэч, як прыемнасьць, i што прыемнасьць не зьяўляецца тым самым, што дабро, i што кажная зь iх здабываецца iншаю дарогаю асаблiвых натугаў i турботаў i, што гонка за прыемнасьцю – гэта адна рэч, а за дабром – другая. – I я хацеў-бы, каб ты сказаў мне, цi ты згаджаешся са мною цi не – згаджаешся ты?

КАЛЬЛIКЛЕС: Згаджаюся.

САКРАТАС: Тады я пайду далей i запытаю цябе, цi згаджаешся ты гэтаксама са мною, i цi ўважаеш ты, што я казаў праўду, калi я далей казаў Ґорґiясу i Полёсу, што кухарская варка, паводля майго пагляду, зьяўляецца толькi дасьведчаньнем i нiколi мастацт-
501 вам; i, што мэдыцына зьяўляецца мастацтвам, бо яна агарнула натуру таго, што яна лечыць i асновы ўласнага дзеяньня, кiруючыся розумам у кажным паасобным выпадку. Але прыгатаўляньне страваў, якое бачыць толькi прыемнасьць, якому аддае ўсе свае стараньнi, кiруецца да свае мэты без нiякага мастацтва, зусiм не дасьледуючы натуры прыемнасьцi, анi свае асновы, ня чынячы нiякiх разьмежаваньняў, на падставе адно дасьведчаньня i штодзеннага навыку, перасьцерагаючы толькi ў памяцi тое, што яно звычайна выконвае, калi асягвае прыемнасьць.

Перад усiм падумай, цi я давёў тое, што я казаў,

і ці існуюць падобныя дзеяньні, якія могуць мець дачыненьні з душою, зь якіх адны зьяўляюцца мастацтвамі і турбуюцца пра вышэйшае дабро душы, а іншыя пагарджаюць гэтым дабром, і гэтак, як у папярэднім выпадку, займаюцца толькі прыемнасьцю душы, і як гэта можа быць асягнута, але не займаюцца тым, якія прыемнасьці зьяўляюцца добрымі і якія дрэннымі і, ня маючы ніякае іншае мэты апрача як толькі ствараць уцеху, і ўсяроўна – лепшымі ці горшымі сродкамі. Паводля мае думкі, Кальліклес, існуюць гэтакія дзеяньні – і я называю іх лісьлівасьцю перад целам ці перад душою, ці яшчэ перад чым-небудзь – калі чалавек служыць адно прыемнасьці, ня чынячы розьніцы пры гэтым паміж тым, што ёсьць лепшым і тым, што ёсьць горшым. І тое, што я хацеў-бы ведаць цяперака – гэта, ці ты згаджаешся з нашым паглядам, ці розьнішся адносна яго?

КАЛЬЛІКЛЕС: Не, я ня розьнюся; наадварот, я згаджаюся; бо гэткім спосабам я барджджэй прывяду твае разважаньні да канца, каб гэтым дагадзіць Ґорґіясу.

САКРАТАС: Ці гэта праўдзівым зьяўляецца толькі для аднае душы, а для дзьвюх і болей – не?

КАЛЬЛІКЛЕС: Не, гэтаксама для дзьвюх як і для шматлікіх.

САКРАТАС: Тады, чалавек можа дагаджаць шматлікім душам, зусім ня дбаючы пра тое, што для іх найлепшым ёсьць?

КАЛЬЛІКЛЕС: І я гэтак думаю.

САКРАТАС: Ці можаш ты сказаць, якія дзеяньні накіраваныя на гэта? Або, калі ты жадаеш, дазволь, я буду пытаць, а ты тое, што табе выдасца правільным, пацьвердзіш, а калі няправільным – запярэчыш. У першую чаргу разгледзьма мастацтва гры на флейце. Ці ня выдаецца табе, Кальліклес, што яно якраз гэткім зьяўляецца, што шукае толькі нашае прыемнасьці, і ні пра што іншае ня думае?

КАЛЬЛІКЛЕС: Але, выдаецца.

САКРАТАС: І ці ня гэтае самае можна сказаць і пра іншыя падобныя мастацтвы, напрыклад, пра мастацтва граньня на ліры ў часе спаборніцтваў?

КАЛЬЛІКЛЕС: Ага.

САКРАТАС: І што ты скажаш адносна харальнага мамастацтва і пра ўкладаньне дытырамбаў? – Ці не зьяўляюцца яны гэтага самага характару? Ці думаеш ты, што Кінэзіяс, сын Мэлеса, будзе рупіцца пра тое, што спрычыніцца да ўздыму маральнае вартасьці ягоных слухачоў, а мо' думае ён толькі пра тое, чым захопліваецца натоўп, сузграмаджаны ў тэатры? 502

КАЛЬЛІКЛЕС: Што да Кінэзіяса, Сакратас, дык тут няма ніякага сумліву.

САКРАТАС: А што ты скажаш адносна ягонага бацькі, Мэлеса, які пяе пад кітару? Ці выконвае ён сваё мастацтва, маючы на ўвазе дабро сваіх слухачоў,або нават, маючы на ўвазе самую прыемнасьць? Ягонае пяяньне рэзала слух гледачоў. І што ты скажаш адносна граньня на кітары і дытырамбаўскае паэзыі наагул? Ці ня былі яны вынайдзенымі суцэльна для самое прыемнасьці?

КАЛЬЛІКЛЕС: Гэтак і мне выдаецца.

САКРАТАС: А што да пышнае і годнае нашага падзіву творчасьці трагэдыяў – і пра што яна руліцца? Ці ўся яе мэта і стараньні накіраваныя толькі, каб запэўніць гледачам прыемнасьць, а мо' яна змагаецца супроць іх і адмаўляецца нават весьці гутарку пра тое, што гледачам можа выдавацца асалодаю і прыемнасьцю, але ёсьць шкодным, а мо' яна хоча гаварыць і апяваць тое, што карысна для гледачоў, хоць выдавацца ім можа адзічэлым? І да якое-ж з гэтых дзьвюх свомасьцяў, паводля тваае ацэны, зьвяртаецца трагічнае мастацтва?

КАЛЬЛІКЛЕС: Ясным ёсьць, Сакратас, што яно болей аглядаецца на прыемнасьць і на тое, што падабаецца гледачам.

САКРАТАС: І ці-ж ня гэткага роду дзеяньні,Калькліклес, мы толькі-што назвалі падлыжніцтвам?

КАЛЬЛІКЛЕС: Зусім правільна.

САКРАТАС: Добра, калі цяперака забярэм ад паэзыі песьню, рытм і памер складу, астануцца адно словы?

КАЛЬЛІКЛЕС: І запраўды, адно словы.

САКРАТАС: І словы гэтыя будуць скіраванымі да людзкага натоўпу?

КАЛЬЛІКЛЕС: Але́.

САКРАТАС: Тады паэзыя – гэта свайго роду нейкае аратарства?

КАЛЬЛІКЛЕС: Выглядае гэтак.

САКРАТАС: І аратарства поўнае красамоўства.А мо' паэты ў тэатрах не выдаюцца табе красамоўцамі?

КАЛЬЛІКЛЕС: Трапна кажаш.

САКРАТАС: Бачыш, цяперака выкрылі мы, нейкую хворму красамоўства для народу, які складаецца зь дзяцей, жанчын і мужчын, зь нявольнікаў і свабодных. Ня вельмі красамоўства пакрываецца з нашым смакам, бо і самыя мы выяўляем яго, як маючае падлыжніцкі характар.

КАЛЬЛІКЛЕС: Зусім трапна.

САКРАТАС: Добра. Што ты думаеш адносна іншага

красамоўства, прадназначанага для народу ў Атэнах і іншых местах, якія складаюцца із свабодных мужчын. Ці думаеш ты, што аратары заўсёды маюць на ўвазе тое, што ёсьць найлепшым, і імкнуцца дарогаю сваіх прамоваў падняць вартасьць грамадзян? А мо' і яны імкнуцца толькі прыпадабацца суродзічам, маючы на ўвазе ўласную выгаду, пагарджаючы агульнае дабро, абыходзячыся зь людзьмі як зь дзіцянятамі абы адно ім дагадзіць, зусім ня думаючы пра тое, станууца яны з гэтае прычыны лепшымі ці горшымі? 503

КАЛЬЛІКЛЕС: Я мушу тутака зьвярнуць увагу на розьніцу. Існуюць некаторыя, якія, калі гавораць, праяўляюць запраўдную рупнасьць адносна народу, і ёсьць гэтакія, якіх ты маеш на ўвазе.

САКРАТАС: Я здаволены з дапушчэньнем факту, што красамоўства крые ў сабе двaістасьць. Адна частка - гэта адно падлыжніцтва і бясслаўная дэклямацыя; іншая, якая зьяўляецца шляхэтнаю і мае на ўвазе ўзгадаваньне і палепшаньне душаў грамадзян, імкнецца сказаць тое, што ёсьць найлепшае і ўсяроўна, падабаецца гэта ці не падабаецца слухачом. Але ты гэтакага красамоўства ніколі ня бачыў. І наадварот, калі ты з пасярод прамоўцаў ведаеш некага чалавека, калі ласка, назаві ягонае імя як найхутчэй, каб і мне выпала на долю пазнаць яго.

КАЛЬЛІКЛЕС: На Зэуса, я ня ведаю нікога, каго-б я мог назваць, прынамся сярод сучасных прамоўцаў.

САКРАТАС: Ну, што-ж, тады ты можаш успомніць каго-небудзь з папярэдніх пакаленьняў, пра каго можна было-б сказаць, што ён палепшыў атэнцаў, які знайшоў іх горшымі і ўчыніў лепшымі, пачынаючы ад таго дня, калі ён пачаў выступаць са сваімі прамовамі? Прынамся я асабіста ня ведаю гэтакага чалавека.

КАЛЬЛІКЛЕС: Як гэта? Ніколі ты ня чуў пра Тэмістоклеса, якім добрым мужам быў ён, або пра Кімона і пра Мільціядэса, або нават пра Пэрыклеса, каторы нядаўна памер і якога ты сам чуў?

САКРАТАС: Так, Кальліклес, яны былі добрымі людзьмі, але толькі тады, калі, як ты перш казаў, што праўдзівая цнота заключаецца адно ў здаволеньні сваіх уласных і чужых жаданьняў. Але калі не, калі - як мы змушанымі былі пазьней згадзіцца - на спатканьне трэба ісьці толькі тым жаданьням, каторыя, стаўшыся рэчаіснасьцю, чыняць чалавека лепшым; а калі чыняць яго горшым - тым ня трэба ісьці на сустрэчу, і гэта зьяўляецца свайго роду мастацтвам; ці можаш ты дзелягэтага сказаць, што хоць-бы

адзін з успомненых чатырох дзяржаўных мужоў адказвае нашым вымаганьням?

КАЛЬЛІКЛЕС: Калі пашукаеш добра, дык знойдзеш.

САКРАТАС: Давай, тады, спакойна разгледзім, ці адказваў хто-небудзь із іх гэтым прадумовінам. Ці ня гэтак рэч маецца, што добры чалавек, калі кажа тое, што́ ён кажа, маючы на ўвазе найвышэйшае дабро, ніколі ня будзе гаварыць, не прадумаўшы, але заўсёды будзе мець у сваім уяўленьні нейкі добры вобраз? Гэтаксама як і ўсе іншыя майстры, хочучы выканаць свой уяўлены твор, дабіраюць тое, што́ ім патрэбна, не абы-як, але ў гэтакі спосаб, каб твор, над якім яны працуюць, прыняў выразную хворму. Паўзірайся, напрыклад, на мастакоў маляроў, на будаўляных майстроў, на вадаплаўных майстроў і на ўсіх іншых, на якіх ты толькі хочаш; кажны зь іх укладвае ў прадбачаным парадку ўсе часткі, акуратна датарноўваючы адну да другое да тае пары́, пакуль ня
504 ўзьнікне суцэльны твор, упарадкаваны і прыгожа выкананы. І на ўзор гэтых майстроў, гэтаксама і тыя, пра якіх нядаўна ў нас была гутарка – тыя, што маюць дачыненьне з людзкім целам: лекары і вучыцялі гімнастыкі – прыводзяць у парадак і складнасьць цела. Ці прызнацімем, што рэч гэтак маецца і ня інакш?

КАЛЬЛІКЛЕС: Добра, няхай будзе гэтак.

САКРАТАС: Тады дом, у якім пануе складнасьць і парадак, ёсьць добрым домам, а той у якім пануе бязладзьдзе – дрэнным?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: Гэтаксама астаецца гэта правільным і для вадаплаву?

КАЛЬЛІКЛЕС: Але́.

САКРАТАС: І гэтаксама можам сказаць пра нашае цела?

КАЛЬЛІКЛЕС: Напэўна.

САКРАТАС: А пра душу? Будзе тая добраю душою, у якой панавацíме бязладзьдзе, або тая, у якой пераважацíме гармонія і парадак?

КАЛЬЛІКЛЕС: З папярэдняе нашае сузгоднасьці ўзьнікае неабходнасьць згадзіцца на парадак і гармонію.

САКРАТАС: І як называюцца тыя свомасьці ў целе, якія ўзалежніваюцца ад гармоніі і парадку?

КАЛЬЛІКЛЕС: Я здагадваюся, што ты маеш на ўвазе здароўе і сілу.

САКРАТАС: Так, гэта я маю на ўвазе. І што ў душы ўзьнікае ў рэзультаце гармоніі і парадку? Папрабуй і тут знайсьці гэтаму назоў і выразіць яго.

КАЛЬЛІКЛЕС: І чаму-б табе самому не пада́ць гэты назоў, Сакратас?

САКРАТАС: Калі табе гэтак болей падабаецца, дык я гатоў гаварыць. Зноў-жа, калі ты ўважацімеш, што я кажу правільна, выкажаш сваю сузгоднасьць; калі не - адкажаш мне пярэчаньнем, і аставайся непахісным. Я думаю, што парадак для цела называецца здароўем, зь якога родзяцца ў целе і дужасьць,і з цнотаю ўсе іншыя лепшыя свомасьці. Так гэта ці не?

КАЛЬЛІКЛЕС: Правільна.

САКРАТАС: Парадак і складнасьць душы зьяўляюцца правам і правамоцнасьцю, дзякуючы якім, людзі стаюцца чэснымі і паважаючымі права, што́ і ёсьць справядлівасьць і паўстрыманасьць. Кажы, так ці не?

КАЛЬЛІКЛЕС: Думаю, што так.

САКРАТАС: І ці ня будзе праўдзівы і чэсны красамоўца, які разумее сваё мастацтва, кіраваць свой узрок у напрамку тых людзей, да душаў каторых ён прамаўляе, зьвяртаючы асаблівую ўвагу на сваё дзеяньне, на тое, што́ ён дае і што́ ён хоча атрымаць? Ці ня будзе ягонаю мэтаю ўкараняць ў душах сваіх суродзічаў справядлівасьць і выганяць адтуль несправядлівасьць, укараняць паўстрыманасьць і выкараньваць распушчанасьць, прышчапляць кажную цноту і выганяць усякія заганы? Ці не згаджаешся ты з гэтым?

КАЛЬЛІКЛЕС: Згаджаюся.

САКРАТАС: І якую-ж карысьць, Кальліклес, меціме хворы чалавек і зь няпрыдатным целам зь вялікае колькасьці смачнае ежы і піцьця, і іншых падобных рэчаў, калі ён не займее з гэтага ніякае паправы,а баржджэй, справядліва кажучы, яшчэ болей занядужае? Ці ня так гэта ёсьць?

КАЛЬЛІКЛЕС: Магчыма, гэтак. 505

САКРАТАС: Бо я ня думаю, каб чалавеку з годным жалю і няпрыдатным целам варта было-б яшчэ працягваць жыцьцё, ён бо ўжо і бяз гэтага змушаны весьці мізэрнае жыцьцё. Ці-ж ня гэтак?

КАЛЬЛІКЛЕС: Зусім гэтак.

САКРАТАС: Калі чалавек здаровы, лекары тады дазваляюць яму есьці, калі ён галодны; і піць, калі чуе смагу, і наагул заспакойваць свае жаданьні, як яму падабаецца; а вось хворы спатыкаецца адно з заборонамі. Я думаю, што і тут ты згодзішся са мною?

КАЛЬЛІКЛЕС: Згаджаюся.

САКРАТАС: Ці-ж ня гэтак, мой добры чалавеча,рэч маецца і з душою? Як доўга яна астаецца дрэннаю і бязмыснаю, непаўстрыманаю і несправядліваю, трэба

паўстрымліваць яе ад жаданьняў і не дазваляць нічога, апрача таго, што́ можа ўчыніць яе лепшай. Так гэта ці не?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: Бо, паступаючы так, будзе ляпей для самое душы?

КАЛЬЛІКЛЕС: Напэўна.

САКРАТАС: А паўстрымліваць яе ад таго, што́ яна жадае, ці ня будзе гэта значыць уціхамірваць яе і кара́ць?

КАЛЬЛІКЛЕС: Але́.

САКРАТАС: Адсюль, уціхамірваньне ляпей для душы, чымся непаўстрыманасьць, наўсуперак таму, што́ ты нядаўна ўтрымліваў?

КАЛЬЛІКЛЕС: Я не разумею цябе, Сакратас. Запытай каго-небудзь іншага.

САКРАТАС: Вось чалавек, які ня можа зьнесьці папраўы або падпарадкаваць самога сябе ўціхамірваньню, пра якое гутарка ў нас ідзе!

КАЛЬЛІКЛЕС: Я не шманаю пра тое, што́ ты гаворыш; я адказваў табе толькі з увагі на Ґорґіяса.

САКРАТАС: Добра. Але што маем рабіць? маем-жа мы спыніць нашую гутарку на поўдарозе?

КАЛЬЛІКЛЕС: Ты сам павінен ведаць.

САКРАТАС: Нават ка́зак, кажуць, і тых ня можна спыняць у сярэдзіне апавяданьня, але абавязкава трэба ім пасадзіць галаву на плечы, каб не хадзілі бяз голаваў. Затым адказвай далей, каб нашая гутарка займела галаву.

КАЛЬЛІКЛЕС: Які дакучлівы ты, Сакратас! Паслухай мяне ляпей - пакінем гэтую гутарку або спрачайся з кім-небудзь іншым.

САКРАТАС: Але хто мае быць гэтым іншым, каб нам ня супыніць нашае гутаркі незакончанай?

КАЛЬЛІКЛЕС: Ці ня можаш ты кончыць яе без мае помачы, хоць-бы гэткім спосабам, што, або сам будзеш без перапынку гаварыць, або стаў сабе пытаньні і сам адказвай на іх.

САКРАТАС: Так. Мусіць, каб у мяне ня выйшла як у таго Эпіхармоса: "Двое людзей гаварылі раней, а цяперака і аднаго хопіць"? І здаецца нямашака іншага выхаду, як мне аднаму весьці досьлед. Аднак перадусім я хацеў-бы адцеміць, што ня толькі я адзін, але ўсе з нас павінны мець гордасьць пазнаць, што́ ў нашых разважаньнях зьяўляецца праўдаю, а што́ астаецца хвальшам; бо выяўленьне гэтага станецца
506 для ўсіх нас дабром. А цяперака я буду працягваць нашае гэтае разважаньне паводля майго паг-

ляду. І, калі хто-небудзь з вас падумае, што я дайшоў да высnаву, нязгоднага з праўдаю, няхай перапыніць мяне і тут-жа запярэчыць. Бо ў грунце рэчы, я і сам яшчэ ня ведаю таго, пра штó гавару, я толькі шукаю разам з вамі. І, калі хто-небудзь у дыскусыі са мною знойдзе правільны высnаў, дык я першы зь ім згаджуся. Пры гэтым я буду гаварыць з тым меркаваньнем, што вы ўважаеце за патрэбнае давесьці нашае разважаньне да канца. Але, калі вы ня хочаце, тады пакінем яго і разыдземся.

ҐОРҐІЯС: Я думаю, Сакратас, што мы не павінны разыходзіцца да тае пары́, пакуль ты не закончыш свайго разважаньня. І мне здаецца, што ўсе тут прысутныя гэтае самае думкі. Я і сам вельмі хацеў-бы паслухаць, як ты кончыш тое, штó сам пачаў.

САКРАТАС: Я гэтаксама, Ґорґіяс, хацеў-бы далей праводзіць нашае разважаньне з Кальліклесам да тае пары́, пакуль ня ўклаў-бы ў ягоныя вусны словаў Амфіёна замест прамоваў Зэтоса.[+] Але, Кальліклес, калі ты ўжо не зьяўляешся схільным разам са мною давесьці нашыя разважаньні да канца, я спадзяюся, што ты будзеш уважна слухаць і запярэчыш мне ў тым выпадку, калі ўважацімеш, што я гавару няправільна. І, калі ты давядзеш супроцьлежнае, я ня буду злавацца на цябе, гэтаксама, як ты на мяне, і ня толькі гэта – на скрыжалях душы мае я ўпішу імя тваё, як найбольшага свайго дабрачынцы.

КАЛЬЛІКЛЕС: Не, мой добры прыяцелю, сам гавары і сам канчай.

САКРАТАС: Слухай, тады, мяне, я паўтару з пачатку. Ці прыемнасьць і дабро – гэта адно і тое самае? – Не, не адно і тое самае, у чым мы згадзіліся з Кальліклесам. – Ці трэба імкнуцца да прыемнасьці дзеля дабра, ці да дабра дзеля прыемнасьці? – Да прыемнасьці дзеля дабра. – Прыемнасьць – гэта тое, штó, калі праяўляецца ў нас, дае нам радасьць, а дабро – гэта тое, штó сваею прысутнасьцю ў нас чыніць нас добрымі? – Напэўна. – І мы стаімося добрымі, і ўсе рэчы стаюцца добрымі, калі нейкая цнота выяўляецца прысутнасьцю ў нас. – Гэта, Кальліклес, выдаецца мне няўхільнасьцю. – Але цнота кажнае рэчы, будзе гэта цела ці душа, прылада ці жывое існаваньне, узьнікае ўва ўсей сваей прыгожасьці не прыпадкава, але як вынік парадку, правільных суадносінаў і мастацтва, якое кажнаму свомым ёсьць. Ці ня так гэта? – Я думаю, што так. – Праз парадак і ўла-

---

[+] Гл. 485, 489.

джанасьць, затым, цнота кажнае рэчы ўстанаўляецца і прыводзіцца да быцьця? – Я сказаў-бы, што так. – Згэтуль, нейкі сваеасаблівы парадак і апрычоны, які хвармуецца ў кажнай рэчы, чыніць кажную рэч добраю? – Гэтак выдаецца мне. – Затым, гэтаксама і душа, у якой існуе сваеасаблівы парадак і звычай, зьяўляецца лепшаю ад неўпарадкаванае? –Абавязкава. – А душа, у якой існуе парадак, зьяўляецца маральнаю душою? – І як можа быць інакш? – А маральная – гэта тая, што кіруецца паўстрыманасьцю? – Абавязка-
507 ва. – Дык што-ж, паўстрыманая душа зьяўляецца добраю. Нічога іншага я не магу тут дабавіць, дарагі Кальліклес. Калі ты ведаеш нешта іншае, навучы мяне.

КАЛЬЛІКЛЕС: Гавары далей, мой добры прыяцелю.

САКРАТАС: Далей, я магу дадаць, што, калі ўстрыманая душа зьяўляецца добраю душою, дык душа, якая абдорана супроцьлеглымі свомасьцямі, зьяўляецца дрэннаю душою, гэта значыць, неразумнаю і непаўстрыманаю. – Напэўна.

Ці ня будзе чалавек памяркоўна чыніць тое, што ёсьць адпаведным у суадносінах да багоў як і да людзей, бо, паступаючы інакш, ён будзе ўжо непаўстрыманым? – Выступае гэта як неабходнасьць. – У ягоных суадносінах да людзей ён будзе паступаць справядліва; і ў ягоных суадносінах да багоў ён будзе выяўляць пабожнасьць. Хто паступае справядліва і пабожна, той няўхільна зьяўляецца справядлівым і пабожным? – Так. – І няўхільна гэтаксама мужным. Паўстрыманы чалавек ня будзе імкнуцца да таго, да чаго ён імкнуцца не павінен, ані ўхіляцца ад таго, ад чаго ён не павінен ухіляцца; наадварот, маючы нешта на ўвазе і, ухіляючыся ад нечага, ён выканае свой абавязак адносна людзей ці рэчаў, прыемнасьцяў ці няпрыемнасьцяў, і калі абавязак будзе наказваць цярпець, будзе мужна цярпець. Затым, няўхільнасьцю стаецца, Кальлiклес, што паўстрыманы чалавек, як мы ўжо і сказалі, зьяўляецца гэтаксама справядлівым, мужным і пабожным, і ня можа быць іншым як толькі дасканалым і добрым чалавекам, а добры чалавек паступае заўсёды добра і годна, а паступаючы гэтак, ён добраслаўлены і шчасьлівы, у тым часе, як дрэнны, паступаючы дрэнна, астаецца нешчасьлівым. Гэты вось і творыць супроцьлежнасьць паўстрыманаму – гэты самы разнузданы, якога ты гэтак выхваляў.

Гэтакаю ёсьць мая пастава, і я ўтрымліваю, што яна праўдзіваю ёсьць. І калі праўдзіваю, тады я да-

лей утрымліваю, што кажны, хто жадае быць шчасьлі-
вым, павінен імкнуцца і практыкаваць паўстрыманасьць
і ўцякаць ад непаўстрыманасьці далёка і гэтак хут-
ка, як толькі ягоныя ногі могуць яго несьці; і пе-
рад усім трэба імкнуцца, каб наагул не ствараць
няўхільнасьці цярпець пакараньне, а калі ўсё-ж і
станецца патрэбным – нам самым ці каму-небудзь із
нашых блізкіх, ці будзе гэта прыватная асоба ці цэ-
лае места – тады трэба прыняць помсту і кару, бо і-
накш вінаваты ніколі ня будзе шчасьлівым.

Гэтакаю выяўляецца мне мэта, якую чалавек паві-
нен мець перад сабою на працягу ўсенькага жыцьця
і ў напрамку якое павінен кіраваць усю энэргію, гэ-
так сваю як і места, маючы на ўвазе асягненьне
паўстрыманасьці і справядлівасьці; і запраўды, гэ-
так трэба паступаць і не даваць волі абязнузданым
жаданьням, не сьпяшаючыся здавольваць іх, бо інакш
– гэта бясконцае зло, гэта роўназначна жыцьцю раз-
бойніка. Гэтакі чалавек не зьяўляецца прыяцелям ані
Бога, ані людзей, бо ён ня ёсьць здольным да су-
польнасьці, а калі няма супольнасьці, дык няма сяб-
роўства. Мудрацы вучаць, Кальлiклес, што супольнасьць
і сяброўства, упарадкаванасьць і паўстрыманасьць, спра- 508
вядлівасьць і аб'еднаньне злучаюць неба і зямлю,
багоў і людзей, і дзелягэтага наш сусьвет называ-
ецца, дружа мой, Космасам, або парадкам, а не а-
космасам, гэта значыць бязладзьдзем або бязьдзей-
насьцю. А ты, як мне здаецца, ня гледзячы на ўсю
сваю мудрасьць, не спасьцерагаеш, якую вялікую моц
мае ґэомэтрычная роўнасьць гэтак сярод багоў як і
сярод людзей; ты думаеш, што ты павінен падтрымлі-
ваць няроўнасьць або большмаемасьць, і не зьяртаеш
зусім увагі на ґэомэтрыю.

Затым, або трэба адкінуць прынцып, што шчасьлі-
выя шчасьлівымі стаюцца праз справядлівасьць і паў-
стрыманасьць, а нешчасьлівыя нешчасьлівымі праз на-
яўнасьць у іх дрэннасьці, або, калі ён астаецца
праўдзівым, тады трэба разгледзець, якія наступст-
вы згэтуль выцякаюць. Згэтуль выцякаюць, Кальлік-
лес, усе папярэднія наступствы, адносна якіх ты пы-
таўся мяне, ці не жартаваў я, калі я казаў, што ча-
лавек павінен абвінаваціць самога сябе і ўласнага
сына, і свайго прыяцеля, калі ён учыніў што-небудзь
дрэннае, і што ў гэтым выпадку карыснаю рэчаю зьяў-
ляецца зьвярнуцца да красамоўства. Праўдаю гэтакса-
ма ёсьць, паводля тваё думкі, што Полёс згадзіўся
са мною з прычыны неапраўданае сарамяжнасьці, – што
чыніць несправядлівасьць ёсьць горшаю рэчаю, чымся

цярпець яе, і наколькі горшаю рэчаю, нагэтулькі-ж і абрыдлаю; і, што той, хто хоча быць праўдзівым красамоўцам, павінен быць чалавекам справядлівым і сьведамым у справах, якія адносяцца да справядлівасьці, і, як Полёс уважае, з гэтым згадзіўся са мною Ґорґіяс, гэтаксама з прычыны неапраўданага сораму.

А цяперака, калі рэчы маюцца гэтак, як мы сказалі, тады паглядзімо, чым ты мяне ўпікаеш – правільна ці не, быццам я не зьяўляюся ў стане памагчы ані самому сабе, ані каму-небудзь з сяброў ці блізкіх, або выратаваць каго-небудзь у выпадку сваеасаблівае небясьпекі, але, быццам пазбаўлены права, аддадзены на ласку і няласку кажнаму стрэчнаму, які, ужываючы тваё моцнае выражэньне, можа выбіць мяне па твару,+/ або забраць маю маемасьць, або выгнаць зь места, або, нарэшце, нават і забіць. І нічога, як ты кажаш, няма болей ганебнага ад гэткага палажэньня. Мой адказ на твае папрокі чулі ўжо ня раз, але я паўтару яго яшчэ раз:

Я не згаджаюся, Кальліклес, што быць выбітым па твару несправядліва, зьяўляецца найболей ганебнаю рэчаю на сьвеце; гэтаксама не зьяўляецца гэтакаю рэчаю папасьці ў рукі ліхадзеяў або быць абакрадзеным з маемасьці ці нават панесьці шкоду на целе, не, але біць і рэзаць несправядліва мяне і маіх блізкіх, зьяўляецца болей ганебнаю рэчаю і горшаю. Грабіць, прадаваць у няволю, уломлівацца ў мой дом і наагул чыніць якую-небудзь несправядлівасьць адносна мяне ці маіх блізкіх – вось што зьяўляецца найболей ганебным і горшым для таго, хто гэта чыніць, чымся для мяне, каторы церпіць з гэтае прычыны.

Гэтыя праўды, якія, як я цьверджу, выясьніліся ў бегу нашае гутаркі і замацаваныя – хоць гэта можа гучэць празьмерна груба – жалезнымі і непахіс-
509 нымі абаснаваньнямі. І пакуль ты ці хто-небудзь іншы ня зьбіў іх, няма ніякае магчымасьці запярэчаньня таго, што я кажу. Бо мой пагляд заўсёды быў, што я сам ня ведаю, як гэтыя рэчы ўсуадношваюцца, але, як да гэтае пары, вось як і цяперака, я не спаткаў нікога, хто мог-бы сказаць нешта іншае, не асьмешыўшы самога сябе.

Дзелягэтага я зноў паўтараю: гэтакай ёсьць мая пастава, і, калі тое, што я гавару, зьяўляецца правільным, і несправядлівасьць ёсьць найбольшым злом

---

+/ Гл. 486.

для таго, хто чы́ніць несправядлівасьць, і, калі, магчыма, існуе яшчэ большае зло – астацца чалавеку, які ўчыніў несправядлівасьць, непакараным – у чым, тады, заключаецца тая помач, якую павінен чалавек аказаць самому сабе, каб запраўды не асьмешыць самога сябе? Ці ня ў тым, каб адхіліць ад нас самую страшную бяду? І ці-ж не зьяўляецца гэта найболей бясслаўнаю рэчаю, калі чалавек астаецца абяздужаным у аказаньні помачы самому сабе або сваей сям'і ці прыяцелям? – А пасьля за гэтым наступае бездапаможнасьць супроць другога, паводля свае вялічыні зла, а за гэтым – супроць трэйцяга паводля свае вялічыні, і гэтак з кажным іншым злом. Якой ёсьць вялікасьць зла – гэтак стаецца вялікім гонар быць здольным адхіліць кажнае зло, і наадварот, гэтакай стаецца няслава, калі ня можаш адхіліць яго. Ці-ж ня гэтак рэч маецца, Кальлiклес?

КАЛЬЛІКЛЕС: Ня інакш.

САКРАТАС: Паміж гэтымі двума ліхамі, чыні́ць несправядлівасьць і цярпець несправядлівасьць – і мы сьцьвярджаем, што чыні́ць несправядлівасьць ёсьць большае зло і цярпець несправядлівасьць ёсьць меншае – пытаемся: пры помачы чаго чалавек можа асягнуць дзьве асаблівыя выгады: першая – ня чыні́ць несправядлівасьці, і другая – не цярпець несправядлівасьці? Ці павінен ён мець сілу ці толькі добрую волю, каб асягнуць іх? Я хачу запытаць: ці чалавек можа ўхіліцца ад несправядлівасьці, калі ён мае толькі волю ўхіліцца, або мусіць ён абясьпечыцца сілаю, каб ухіліцца ад несправядлівасьці?

КАЛЬЛІКЛЕС: Ведама, што яму патрэбна сіла.

САКРАТАС: І што ты думаеш адносна чыненьня несправядлівасьці? Ці наяўнасьць волі ў чалавека паўстрымае яго ад чыненьня несправядлівасьці, а мо' мусіць ён яшчэ абясьпечыцца сілаю і мастацтвам, бо, калі чалавек гэтага не пазна́е і ня будзе практыкаваць, ці будзе ён усё яшчэ чыні́ць несправядлівасьць? І чаму-б табе не адказаць, Кальліклес: ці ня думаеш ты, што мы, Полёс і я, мелі рацыю, прыходзячы да выснаву, што ніхто ня чы́ніць несправядлівасьці добраахвотна, але кажны, хто паступае несправядліва, чы́ніць несправядлівасьць наўсуперак уласнае волі?

КАЛЬЛІКЛЕС: Няхай будзе гэтак, Сакратас, адно 510
толькі, каб ты давёў да канца сваё разважаньне.

САКРАТАС: Тады, як выходзіць, што, каб паўстрымацца ад чыненьня несправядлівасьці, патрэбнымі сіла і мастацтва?

КАЛЬЛІКЛЕС: Напэўна.

САКРАТАС: І што гэта за мастацтва мае быць, каб пры помачы яго чалавек не дазнаваў несправядлівасьці, калі ня зусім, дык хоць-бы, у няўхільным выпадку, у як найменшай ступені? Мяне цікавіць, ці твая думка пакрываецца з маею. А мая думка вось якая: трэба або самому панаваць у месьце ці нават стацца тыранам, або быць прыхільнікам існуючае ўлады.

КАЛЬЛІКЛЕС: Бачыш, Сакратас, як гатовым я зьяўляюся пахваліць твае словы, калі ты кажаш да рэчы? Мне здаецца, што тое, што ты сказаў, зусім трапным ёсьць.

САКРАТАС: Падумай і скажы мне, ці гэта будзе добра выражана тое, што я хачу далей сказаць. Мне здаецца, што кажны чалавек склонным ёсьць стацца прыяцелям таго, да каго ён найболей падобным ёсьць - гэтак, як і пераказ старавечны кажа - падобнае да падобнага [імкнецца]. Ці ня згодзішся ты з гэтым?

КАЛЬЛІКЛЕС: Згаджуся.

САКРАТАС: Прымем, што люты і беспрасьветны чалавек непадзельна пануе; ці ня будзе гэтакі тыран з падозраньнем глядзець і баяцца кажнага ў месьце, хто зьяўляецца лепшым за яго і ніколі ня станецца шчырым прыяцелям ягоным?

КАЛЬЛІКЛЕС: Гэтак і ёсьць.

САКРАТАС: Гэтаксама ён ня станецца прыяцелям кажнага іншага чалавека, каторы ёсьць горшым за яго. Да гэтакага чалавека тыран будзе адносіцца з пагардаю, і ніколі паважна ня будзе ўважаць яго за прыяцеля.

КАЛЬЛІКЛЕС: І гэта праўда.

САКРАТАС: Тады астаецца толькі адзін прыяцель, якога шанавацiме тыран - гэта будзе нехта, хто мае такі самы характар, хто мае тыя самыя ўпадабаньні і тыя самыя неўпадабаньні і адначасна схільным будзе падпарадкавацца свайму пану; гэта будзе чалавек, які мецiме ўладу ў месьце, і ніхто не пасьмее бяскарна пакрыўдзіць яго. Ці-ж ня гэтак рэч маецца?

КАЛЬЛІКЛЕС: Якраз гэтак.

САКРАТАС: І, калі-б хто-небудзь з маладых людзей у гэтым месьце падумаў, "Як мне стацца вялікім і здабыць сілу, каб мяне ніхто ня крыўдзіў?" - дык яму, мусіць, трэба было-б узыйсьці на гэты самы шлях: з маладых гадоў прывучаць самога сябе, як дзяліцца ўсімі радасьцямі і турботамі свайго пана, каб у меру магчымасьці як найболей прыпадабацца яму. Ці-ж ня гэтак?

КАЛЬЛІКЛЕС: Зусім гэтак.

САКРАТАС: Гэткім спосабам ён, як гэта ў вас ка-

жацца, асягне сваю мэту і станецца ў месьце вялікім і сільным чалавекам, і ня будзе нікім пакрыўджаны.

КАЛЬЛІКЛЕС: Бязумоўна.

САКРАТАС: Але ці ён сам будзе ўхіляцца ад несправядлівых паступкаў? А можа якраз станецца наадварот, калі ён мае быць падобны да тырана ў ягонай несправядлівасьці і адначасна з надзеленаю вялікаю ўладаю? Цяперака ўсе ягоныя стараньні, як я думаю, будуць накіраваныя на тое, каб стацца здольным спрычыніць як найболей несправядлівасьці для людзей і ўсё-ж ухіліцца ад кáры. Ці-ж ня гэтак?

КАЛЬЛІКЛЕС: Вельмі магчыма.

САКРАТАС: Бяручы прыклад са свайго пана і атрымаўшы ўладу, ці-ж ня станецца душа ягоная дрэннаю і звыраднелаю, і ці ня станецца гэта найбольшым злом для яго? 511

КАЛЬЛІКЛЕС: Я ня ведаю, Сакратас, як ты патрапіш у сваіх мовах усё перакруціць дагары нагамі. Ці-ж ня ведаеш ты, што чалавек, які насьлядýе тырана, калі ён хоча, ён можа забіць або забраць маемасьць таго, хто не насьлядýе?

САКРАТАС: Я ведаю, дарагі мой Кальліклес, бо-ж я не зьяўляюся глухім, і чуў я гэта не аднойчы ад цябе і ад Полёса і бадай-што ад кажнага чалавека ў месьце, але я хацеў-бы, каб ты і мяне паслухаў. Пэўна, што ён можа забіць яго, калі ён захоча - учыніць ён гэта як дрэнны чалавек, які забівае добрага і годнага.

КАЛЬЛІКЛЕС: І ці-ж гэта ня выклікае нашага абурэньня?

САКРАТАС: Не, прынамся ў чалавека з розумам, як паказвае нашае разважаньне. А мо' ты ўважаеш, што чалавек павінен перадусім рупіцца пра тое, як пражыць найдаўжэй і дасканаліцца ў тых мастацтвах, якія заўсёды выратуюць нас зь небясьпекі, напрыклад, як ты мне раіш - у красамоўстве, якое выратуе чалавека ў судох?

КАЛЬЛІКЛЕС: І, запраўды, на Зэуса, добра раіў я табе.

САКРАТАС: А вось, скажы, мой дружа: ці думаеш ты, што плаваньне гэтаксама зьяўляецца вялікім мастацтвам?

КАЛЬЛІКЛЕС: На Зэуса, я ня думаю гэтак.

САКРАТАС: Але-ж і яно ратуе людзей ад сьмерці, калі яны апынуцца ў абставінах, у якіх неабходным зьяўляецца гэтае мастацтва. Але, калі яно табе выдаецца малазначным, я магу прывесьці табе, як пры-

клад, іншае мастацтва, мастацтва стырнічага, якое ня толькі ў вабліччу пагражаючае небясьпекі, гэтаксама як і красамоўства, ратуе душы людзей, але таксама іхныя целы і маемасьць. І, ня гледзячы на гэта, яно беспрэтэнсыянальнае і скромнае, не надзімаецца, быццам творыць нешта сваеасаблівае, але, аказаўшы нам падобную службу як і судовае красамоўства, напрыклад, калі пастарчыць нас цэлымі і непашкоджанымі з Айґіны сюды, жадае, калі я не памыляюся, толькі два аболі, а калі зь Ягіпту ці Понтосу - за гэтае вялікае дабрадзеяньне, захаваўшы ў цэласьці, як я ўжо сказаў, і падарожнага, і ягоных дзяцей, і жонку, і дабро, бярэ што найболей дзьве драхмы, калі вадаплаў прыберазіцца ў порце; і стырнічы, які авалодаў гэтым мастацтвам і які выканаў свой абавязак, звычайна, зыходзіць на сушу і скромна спацыруе на беразе побач свайго вадаплаву. Я думаю, што стырнічы зьяўляецца здольным разважыць і сьведамым таго, што ён можа сказаць, каму з падарожных, каторым ён аказаў дабрадзейства, не дапусьціўшы, каб яны загінулі ў морскіх хвалях, прынёс карысьць, а каму шкоду. Але ён ведае, што ён высадзіў іх на бераг зусім гэтакімі самымі, якімі
512 прыняў на борт, нікрышку ня лепшымі ані целам, ані душою. І пры гэтам ён разважае: калі хто-небудзь, церпячы з прычыны цяжкіх і невялячальных фізычных хваробаў, не ўтапіўся, дык гэта ягонае няшчасьце, што ён не памер, і я ня прынёс яму ніякае карысьці; аднак-жа, калі хто-небудзь крые ў сабе безьліч недамаганьняў ня ў целе, але ў душы, каторая зьяўляецца болей важнаю часткаю яго, дык ці-ж варта яму жыць, ці-ж выйдзе яму на карысьць тое, што я ўратаваў яго ад морскага бяздоньня, ад суду ці зь якое-небудзь іншае небясьпекі; ён ведае, што для гэтакага нэндзнага чалавека ляпей зусім ня жыць, бо жыцьцё ягонае будзе і дрэннае, і няшчаснае.

І тут ляжыць прычына, чаму стырнік, хоць ён і зьяўляецца нашым выратавальнікам, ня вывышаецца і не выхваляецца. Гэтаксама і будаўнічы ваеннага прыладзьдзя, мой паважаны, які нясе адказнасьць за ўмацаваньні, ані крышку ня ўступіць стырнічаму ані ваяводзе ці каму-небудзь іншаму, астаецца скромным як і стырнічы: ён ратуе цэлыя месты ад загубы ў некаторых выпадках. Ці думаеш ты, што мог-бы ты паставіць яго на адным узроўні з судовым красамоўцам? І запраўды, Кальлiклес, калі-б ён захацеў гаварыць у вашым напышаным стылю адносна свайго майстэрства, дык ён засыпаў-бы вас гурбою словаў і перасьцяро-

гамі, каб і вы сталіся будаўнічымі машынаў, цьвер-
дзячы, што кажны іншы занятак нічога ня варты. І ён
меў-бы што сказаць. І ня гледзячы на гэта, ты ад-
носішся да яго з пагардаю гэтаксама як і да ягона-
га мастацтва, і з вышыні свае гордасьці называеш
яго "машына-будаўнічым", і ты не дазваляеш, каб твая
дачка выйшла замуж за ягонага сына і сам ня возь-
меш ягонае дачкі.

На падставе чаго выхваляеш ты сваю дзейнасьць і
паводля якога права адносішся ты з пагардаю да бу-
даўнічага машынаў і іншых, пра якіх я ўспамінаў?
Я ведаю, што ты скажаш, што ты лепшы за іх і пахо-
дзіш ад лепшых бацькоў. Аднак, калі "лепшае" не
зьяўляецца тым, што я разумею пад гэтым словам, а
цнота - у тым, каб ратаваць самога сябе, сваіх блiз-
кіх і сваю маемасьць, бяз розьніцы кім ты зьяўляеш-
ся, тады недарэчнасьцю ёсьць адносіцца з пагардаю
да будаўнічага машынаў, лекара і ўсіх іншых мас-
тацтваў, пакліканых дзеля ратаваньня.

О добраслаўлены! Паўзірайся ўважна, магчым, што
шляхэтнасьць і дабро розьняцца ад таго, што мы на-
зываем ратаваць і быць выратаваным. Магчыма, праў-
дзівы чалавек ня будзе рупіцца пра тое, каб пра-
жыць як найдаўжэй, але ён ведае, як жанчыны кажуць,
што ніякі чалавек ня можа ўхіліцца ад свае долі і
дзелягэтага ён ня будзе хапацца за жыцьцё, але,па-
кідаючы ўсё Богу, будзе шукаць шляхоў, каб пра-
весьці час свайго жыцьця ў як найболей годны спо-
саб, і як яму прысьвяціць сваю ўвагу справам пра-
вільнага ўсуадношваньня грамадзяніня да места, і 513
калі ягоны адказ будзе пазытыўны, тады ты [Каль-
ліклес], павінен стацца як найболей падобным да
атэнскага народу, калі ты імкнешся здабыць ягоную
прыхільнасьць і займець большую сілу ў месьце. Тым-
часам я хачу затрымацца і паглядзець, ці выйдзе гэ-
та нам абодвым на карысьць, бо я не хацеў-бы рызы-
каваць тым найдаражэйшым, паймена, займеньнем гэ-
тае сілы ў месьце, і, каб пры гэтым не здарылася з
намі тое, што здараецца з тэссалійскімі ведзьмамі,
каторыя, як гэта кажацца, сьцягваючы месяц зь неба,
бяруць на сябе рызыку свае ўласнае загубы.

Але, калі ты думаеш, што існуе гэтакі чалавек,
які выявіць табе мастацтва, якое прывядзе цябе да
большае ўлады ў месьце, аднак-жа без магчымасьцяў
падпарадкваньня праўным суадносінам места, усяроў-
на - на добрае ці дрэннае - дык я магу сказаць толь-
кі адно: ты памыляешся, Кальліклес. Так, бо той,
хто вартым зьяўляецца быць праўдзівым прыяцелям а-

тэнскага дэмосу як і Пірылямпосавага ўлюбенца, імя якога выводзіцца зь яго, мусіць з натуры ўпадабняцца атэнцам, а не з насьлядаўніцтва толькі. Той, хто ўчыніць цябе найболей падобным да іх, той учыніць цябе дзяржаўным мужам і аратарам. Бо кажны чалавек астаецца здаволеным, калі чуе прамовы блізкія яму да спадобы, і рэагуе незадаволеньнем, калі чуе іншыя. А мо' ты, мой дружа, думаеш інакш? І што ты скажаш, Кальліклес?

КАЛЬЛІКЛЕС: Я ня ведаю як гэта, але часамі словы твае, Сакратас, заўсёды выдаюцца мне добрымі словамі. І зноў-жа, як рэшта людзей на сьвеце - я ня зусім перакананы імі.

САКРАТАС: Прычына, Кальліклес, гэтага ёсьць тая, што ў тваю душу засела любоў да дэмоса і ўлюбенца, якая змагаецца са мною, але я гатоў сказаць, што, калі разважым тое самае яшчэ некалькі разоў, дый да гэтага яшчэ болей уніклівa, тады ты зможаш ува ўсім гэтым пераканацца. Калі ласка, не забывай, што існуюць два спосабы разважаньня прадметаў, якія ўключаюць у сябе гэтак цела як і душу: у вадным, як мы ўжо сказалі, мы выказваем пад кутом гледжаньня прыемнасьці, у другім пад кутом гледжаньня - найвышэйшага дабра, якое ў ніякім выпадку не ўступае, але наадварот - з усенькаю ўпорыстасьцю адваёўвае сваё. Ці ня гэткую розьніцу мы ўвыпуклілі?

КАЛЬЛІКЛЕС: Але́, гэтакую.

САКРАТАС: І тыя, што маюць прыемнасьць на ўвазе, узіраюцца толькі на падлыжніцтва. Ці ня так гэта?

КАЛЬЛІКЛЕС: Няхай будзе гэтак, калі ты хочаш.

САКРАТАС: А іншыя, якія маюць на ўвазе палепшаньне самых сябе, засяроджваюцца ў напрамку душы або цела?

КАЛЬЛІКЛЕС: Зусім правільна.

САКРАТАС: Ці-ж не павінны мы мець на ўвазе гэтую самую мэту адносна нашага места і грамадзян? Ці не павінны мы імкнуцца да таго, каб учыніць нашых суродзічаў гэтак добрымі, як гэта толькі магчымым ёсьць? Бо бяз гэтага, як мы ўжо сьцьвердзілі раней, ніякая іншая паслуга ня мецiме карысьці, калі спосаб думаньня тых, што маюць дайсьці да вялікае ма-
514 емасьці або да панаваньня над іншымі, ці наагул да якое-небудзь сілы, ня будзе чэсным і добрым. Ці ня гэтак рэч маецца?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так, калі табе гэта падабаецца.

САКРАТАС: Прымем, Кальліклес, што мы пастанавілі прыняць удзел у грамадзкай дзейнасьці і раім а-

дзін аднаму прадпрыняць пабудову, напрыклад, абаронных сьценаў, вадаплаўных докаў або сьвятыняў і ўсё ў вялікім засягу, ці не павінны мы перш дасьледзіць самых сябе ў тым сэнсе, ведаем мы ці ня ведаем будаўлянае мастацтва, і калі так, дык ад каго мы пазналі яго? Павінны мы ці не павінны?

КАЛЬЛІКЛЕС: Ведама, што павінны.

САКРАТАС: Па-другое, мы павінны ўзяць пад увагу, ці мелі мы нагоду будаваць прыватны дом для сябе самых ці нашых прыяцеляў і ці ўдалася нам гэтая пабудова ці не ўдалася. І, калі пасьля гэткага разважаньня мы знойдзем, што мы вучыліся ў добрых і ведамых майстроў і займелі добры посьпех у пабудове прыгожых будынкаў, і ня толькі пад іхным кіраўніцтвам, але і самастойна, кіруючыся нашаю ўласнаю здольнасьцю - тады было-б разумным і апраўданым прыступіць да грамадзкае дзейнасьці. Але, калі-б мы не маглі выказацца ніякімі будаўлянымі вучыцялямі, ані паказаць таго, што мы пабудавалі або паказалі-б будынкі, якія ня маюць ніякае вартасьці, тады, запраўды, сьмешным было-б з нашае стараны займацца грамадзкімі справамі і заахвочваць адзін аднаго да гэткага прадпрыняцьця. Скажы, маю я рацыю ці не?

КАЛЬЛІКЛЕС: Зусім трапна сказана.

САКРАТАС: Ці-ж ня маецца рэч гэтаксама ўва ўсіх іншых выпадках? Калі-б мы захацелі пайсьці на службу нашай супольнасьці і зьвярнуліся-б з заклікам адзін да аднаго стацца лекарамі ў перакананьні, што мы зьяўляемся кампэтэнтнымі лекарамі для публічнае практыкі, дык, напэўна, дасьледзілі-б мы адзін аднаго як лекары: я - цябе, а ты - мяне. "На нябёсы! - запытаў-бы ты, - ці знаходзіцца Сакратас у добрым стане здароўя? І ці меў ён нагоду лячыць каго-небудзь і вылячыць, нявольніка ці свабоднага чалавека?" І, магчыма, у гэткі самы спосаб я дасьледзіў-бы цябе. І, калі-б мы пры гэтым прыйшлі да выснаву, што ніхто - грамадзянін ці чужынец, мужчына ці жанчына - ані крышку не палепшыў свайго здароўя пры помачы лекарскае здольнасьці каго-небудзь з нас, тады, на Зэуса, Кальліклес, падумаць толькі, што за глупота, што мы або якія-небудзь іншыя людзі павінны быць нагэтулькі бязглуздымі, каб уздымацца на становішча практыкуючых лекараў, радзячы іншым, паступаць падобна, як мы самыя сабе, без якоеколечы прыватнае практыкі і без ніякага дасьведчаньня ў мастацтве?! І выходзіць гэтак, як выслоўе кажа: "Вывучваць ганчарскае мастацтва, па-

чынаючы зь вялікага гляка." Ці ня выдаецца табе гэта бязмысным?

КАЛЬЛІКЛЕС: Запраўды, гэтак выдаецца.

515 САКРАТАС: А цяперака, добры чалавеча, калі ты сам нядаўна распачаў дзейнасьць грамадзкага характару і, калі ты ўпікаеш мяне, што я да гэтае дзейнасьці адношуся абыякасна і ня сьледую за табою, тады зусім на месцы будзе, калі мы паставім пытаньні адзін аднаму. Скажы мне, затым, Кальліклес, што ты думаеш адносна ўчыненьня грамадзяніна лепшым? Ці існуе гэтакі чалавек, які быў калісьці распусны або несправядлівы, непаўстрыманы ці дурны, і пры дапамозе Кальліклеса стаўся добрым і шляхэтным? Ці быў гэтакі чалавек, хай сабе грамадзянін ці чужынец, нявольнік ці свабодны? Скажы мне, Кальліклес, калі-б хто-небудзь зь людзей паставіў табе гэтакія пытаньні, які быў-бы твой адказ? Якога чалавека ты назваў-бы, каторы, дзякуючы супольнасьці і гутаркі з табою, стаўся лепшым? І чаму ты маўчыш? Магчыма ты займеў ужо добрыя асягненьні гэтакага роду, перад тым, як ты прысьвяціў самога сябе грамадзкай дзейнасьці?

КАЛЬЛІКЛЕС: Ты вельмі заўзяты, Сакратас.

САКРАТАС: Не, я ня пытаюся цябе зусім з прычыны заўзятасьці, а затым, што, запраўды, я хачу пазнаць твой пагляд, я́к павінна ўпраўляцца нашае места. Ці з пачатку твае грамадзкае дзейнасьці меў ты якуюнебудзь іншую мэту, ці толькі тую, што клапаціўся пра тое, каб мы, грамадзяне, ставаліся што-раз лепшымі? Ці-ж не згадзіліся мы ўжо неаднойчы ў тым, што гэткай ёсьць мэта кажнага грамадзкага дзеяча? Згадзіліся ці не згадзіліся? Адказвай! Калі ты ня хочаш адказваць, тады я сам адкажу за цябе: але́, згадзіліся. Але, калі гэта ёсьць тое, што́ ма́е быць аснаўною думкаю для добрага чалавека і добраслаўленьнем для места, тады дазволь мне прыпомніць табе імёны тых людзей, якіх ты прыгадаў крыху раней, паймення, Пэрыклеса і Кімона, Мільціядэса і Тэмістоклеса, і запытаць цябе, ці ты ўсё яшчэ лічыш іх добрымі грамадзянамі?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так, лічу.

САКРАТАС: Але, калі яны былі добрымі, тады ясным ёсьць, што кажны зь іх мусіў чыніць грамадзян лепшымі, чымся былі яны раней? Так гэта ці не?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: З гэтага: калі Пэрыклес першы раз пачаў гаварыць да народу, атэнцы ня былі гэтак добрымі, як тады, калі ён прамаўляў да іх апошні раз?

КАЛЬЛІКЛЕС: Магчыма.

САКРАТАС: Не, мой дружа, "магчыма" не зьяўляецца тут адпаведным словам; бо, калі ён быў добрым грамадзянінам, тады выснаў павінен быць – "напэўна".

КАЛЬЛІКЛЕС: І што далей?

САКРАТАС: Нічога; толькі тое, што я і далей хачу ведаць, ці сталіся атэнцы лепшымі, дзякуючы Пэрыклесу, ці, наадварот, яшчэ болей горшымі зь ягонае прычыны? Бо да гэтага чую я часта, што Пэрыклес дарогаю ўвядзеньня ў пяршыню платы ўрадоўцам, абярнуў атэнцаў у гультаёў, баязьліўцаў і заахвоціў іх да пустых гутарак і любові да грошай.

КАЛЬЛІКЛЕС: Ты чуў мусіць ад драбаў з зьнявечанымі вушамі, Сакратас?

САКРАТАС: Тое, што я хачу табе цяперака сказаць,
не зьяўляецца толькі чуткаю, але добра ведамым і
табе і мне: спачатку Пэрыклес цешыўся добраю славаю
і ягоны характар ня быў дакораны ніякаю праўнаю ак-
цыяю са стараны атэнцаў, як доўга апошнія аста- 516
валіся ня вельмі добрымі; але, калі пад уплывам
дзейнасьці Пэрыклеса сталіся добрымі і шляхэтнымі,
– на прыканцы ягонага жыцьця, – яны абвінавацілі я-
го за крадзеж і мала не хапала, каб засудзілі яго
на сьмерць, мусіць, як небясьпечнага чалавека.

КАЛЬЛІКЛЕС: І жто-ж? Быў з гэтае прычыны Пэрыклес ня добрым?

САКРАТАС: Што найменей даглядчык над асламі, коньмі і рагатаю скацінаю ўважаўся-б людзьмі за дрэннага даглядчыка, калі-б ён прыняў быдла рахманым, якое ня брыкала яго, не барола і ня грызла, а пасьля, пад ягоным даглядам, раптам адзічэла. Ці-ж ня быў-бы гэта дрэнны даглядчык над кажнаю жывёлаю, які атрымаў яе рахманаю, а пасьля ўчыніў адзічэлаю? І што ты скажаш на гэта?

КАЛЬЛІКЛЕС: Добра, я скажу "так", каб толькі выйшла па-твойму.

САКРАТАС: Тады ўчыні мне яшчэ адну ласку і скажы: Ці чалавек гэтаксама належыць да жывых існаваньняў?

КАЛЬЛІКЛЕС: Належыць.

САКРАТАС: А Пэрыклес, ці не даглядаў ён людзей?

КАЛЬЛІКЛЕС: Даглядаў.

САКРАТАС: Як гэта? Ці-ж не павінны яны былі, паводля нашага выснаву, стацца пад ягоным даглядам болей справядлівымі, калі ён запраўды быў добрым і здольным дзяржаўным мужам?

КАЛЬЛІКЛЕС: Абавязкава.

САКРАТАС: Але, як Гомэр кажа, справядлівыя рах-

маныя. А як ты скажаш? Ці ня гэтак?

КАЛЬЛІКЛЕС: Гэтак.

САКРАТАС: А вось у Пэрыклеса яны адзічэлі яшчэ болей ды напасьледак напалі на яго самога, чаго ён што найменей спадзяваўся.

КАЛЬЛІКЛЕС: Ці ты хочаш, каб я згадзіўся з табою?

САКРАТАС: Так, калі ты думаеш, што я праўду кажу.

КАЛЬЛІКЛЕС: Добра, няхай будзе гэтак.

САКРАТАС: Калі яны сталіся болей зьдзічэлымі, тады, мусіць, болей несправядлівымі і горшымі?

КАЛЬЛІКЛЕС: Добра, хай і гэтак будзе.

САКРАТАС: Тады, паводля таго, з чым мы згадзіліся, Пэрыклес ня быў добрым дзяржаўным мужам?

КАЛЬЛІКЛЕС: Гэта паводля твайго пункту гледжаньня.

САКРАТАС: Не, на Зэуса, гэта і твой пункт гледжаньня, калі ты не адмаўляешся ад таго, адносна чаго мы ўжо згадзіліся. Вазьмем, для прыкладу, выпадак з Кімонам: Ці-ж тыя людзі, якіх ён узгадоўваў, не затасавалі адносна яго остракізму з тою мэтаю, каб ня чуць ягонага голасу на працягу дзесяці гадоў? І гэтае самае яны ўчынілі з Тэмістоклесам, выдаўшы прысуд выгнаньня яго з краю. Гэтаксама дарогаю галасаваньня яны паступілі і зь Мільціядэсам, героем пры Маратоне: скінуць у бяздоньне на пэўную сьмерць, і гэта яны ўчынілі-б, калі-б не заступіўся за яго адзін з прытанаў. Калі-б яны былі запраўды добрымі людзьмі, як ты ўтрымліваеш, ніколі-б не здарылася зь імі нешта падобнае. Бо добрымі калёсьнікамі не зьяўляюцца тыя, што перш утрымліваюцца на сваіх мясцох, а пасьля, калі выгадуюць сваіх коней і самі стануцца лепшымі калёсьнікамі, тады апынаюцца выкінутымі з калёсьніцы - падобнае не здараецца ані ў калёсьніцтве, ані ў якой-небудзь іншай прафэсыі. І што ты думаеш аб гэтым?

КАЛЬЛІКЛЕС: Я думаю, што не здараецца.

САКРАТАС: Запраўды, гэтак і было, як раней мы згадзіліся, што мы ня ведаем ані воднага чалавека ў
517 нашым месьце, які выявіўся-б як добры дзяржаўны муж. Ты згаджаешся з гэтым, але толькі ў аднясеньні да сучасных дзеячоў, але не да іхных папярэднікаў, і затым для прыкладу выбраў ты гэтых успомнутых. А тымчасам, выйшла, што яны ня былі лепшымі ад сучасных, і, калі яны былі аратарамі, дык гэта значыць, што яны ня былі добрымі красамоўцамі, бо інакш ня выпалі-б з ласкі [народу], - ані нават падлыжніцтва.

КАЛЬЛІКЛЕС: I, ня гледзячы на гэта, Сакратас, сучасным далёка да тамтых: ніхто із сучасных не зьяўляецца здольным на гэтакія чыны, якія асягнуў хоць-бы адзін з гэтых папярэдніх.

САКРАТАС: О, мой дарагі чалавеча, я зусім не га́ню іх, як людзей на службе места, наадварот, яны былі аддадзенымі агульнай справе болей, чымся сучасныя, і ўмелі ляпей выконваць жаданьні нашага места. Але што датычыцца ператварэньня гэтых жаданьняў і не дазволіць ісьці іхнымі ўласнымі шляхамі і, ужываючы магчымасьці, якія яны мелі, – ці гэта перакананьне, ці сілу, – з мэтаю палепшаньня сваіх суродзічаў, што́ зьяўляецца найгалаўнейшаю мэтаю праўдзіва добрага грамадзяніна, я ня бачу, каб з гэтага пункту гледжаньня, яны хоць-бы крышку ўздымаліся над сучаснымі дзяржаўнымі мужамі, аднак-жа, з другой стараны, я прызнаю, што яны былі болей кемнымі, будуючы вадаплавы і докі, уздымаючы абаронныя сьцены і шмат іншага ў гэтым родзе.

На працягу ўсенькае нашае гутаркі выходзіць сьмешнае непаразумленьне: ідучы да мэты, мы ўсё топчамся ды топчамся на адным і тым самым месцы, не разумеючы адзін аднаго. Калі я не памыляюся, ты ўжо прызнаў і некалькі разоў згадзіўся, што стараньні адносна душы як і цела зьяўляюцца падвойнымі: адно зь іх праяўляецца ў хворме службы, гэта значыць, што, калі нашае цела галоднае, нехта абясьпечвае яго ежаю; калі яно смагне, падае́ яму піцьцё, або, калі адчувае холад, абясьпечвае яго вопраткаю, накрыцьцем, абуткам, і ўсім іншым, у залежнасьці ад патрэбаў цела. I тут я знарок ужываю тыя самыя вобразныя выражэньні, каб ты мог ляпей зразумець мяне. Пастарчальнік можа абясьпечыць рэчамі, будучы крамнікам або чалавекам гандлю, або як стваральнік іх – пекар, кухар, ткач, або шавец ці гарба́р; паступаючы гэтак і, астаючыся тым, чым ён зьяўляецца, ён уважае самога сябе разам зь іншымі,што ён астаецца на службе для цела. Гэтак думае кажны зь іх, не здагадваючыся, што існуюць іншыя мастацтвы, пайменна, мастацтва гімнастыкі і мэдычнае мастацтва, каторыя толькі і зьяўляюцца запраўднымі даглядчыкамі цела, і да якіх належыць апошняе слова адносна тых заняткаў і права вызнача́ць ужываньне іхных прадуктаў, бо яны толькі адны ведаюць што́ з харчаваньня і піцьця ідзе на карысьць целу, а што́ на шкоду, а іншыя нічога ня ведаюць. Затым кажны іншы занятак,які 518
мае дачыненьне зь целам, зьяўляецца паслугуючым,нявольніцкім і нешляхэтным; але гімнастычнае мастацт-

ва як і лекарскае зьяўляюцца, як гэта і павінна быць, іхнымі валадарамі.

Цяпер-жа, калі я кажу, што ўсе гэтыя рэчы аднолькава адносяцца і да душы, ты, як мне выдаецца, разумееш мяне і згаджаешся са мною, а пасьля, крыху пачакаўшы, ты зноў паўтараеш, - ці-ж ня было сярод нас добрых і чэсных людзей? і, калі я пытаюся, - хто яны? - ты зусім проста і паважна падаеш імёны вельмі сьведамых, паводля твайго пераканаяньня, людзей у мастацтве кіраваньня дзяржаваю, і гэта, як мне здаецца, гучыць, быццам ты адказваеш на маё пытаньне, якое адносіцца да мастацтва гімнастыкі і людзей, што рупяцца пра цела, і затым ты адказваеш, Тэарыён - пекар, і Мітаікос - той, што напісаў кніжку пра сыцылійскую кухню, і Сарамбос - карчмар; усе яны з асаблівае стараннасьцю клапаціліся пра цела: першы выпякаў цудоўны хлеб, другі - прыгатаўляў своеасаблівыя стравы, а трэйці частаваў віном.

Ты, мусіць, разгневаўся-б на мяне, калі-б я табе на гэта адказаў: "Мой добры чалавеча, ты-ж зусім нясьведамы ў гімнастыцы, калі ты прыводзіш на ўспамін мне паслугоўваючых людзей, якія зусім ня кіруюцца добрымі ці шляхэтнымі пачуцьцямі ў сваей службе, а толькі здавальняюць нашыя жаданьні і якія, вельмі магчыма, пры кажнай нагодзе могуць напоўніць людзкія целы, адкарміць людзей да ажырэласьці, здабываючы для сябе ўзнаньне са стараны свайго асяродзьдзя, але ў апошнім падсумаваньні яны могуць давесьці іх да ахудзеласьці так, што яны згубяць і тое на сабе мяса, якое было ў іх на пачатку. І гэтыя апошнія са свае стараны - з прычыны свае нясьведамасьці - будуць уважаць вінаватымі за сваё анядужаньне і млявасьць ня тых, што ім служылі, але, калі на працягу даўжэйшага часу гэтыя нездаровыя і перанасычаныя захочуць знайсьці вінаватага за свае хваробы, тады абвінавацяць яны тых, хто прыпадкава знойдзецца побач іх і падасьць сваю раду; вось на каго яны будуць наракаць і каго абвінавачваць, і, калі яны займеюць магчымасьць, яны могуць спрычыніць яму крыўду, а тых іншых, запраўдных спрычыніцеляў іхных няшчасьцяў, яны будуць уздымаць у сваіх пахвалах".

І гэта, Кальлікклес, якраз і зьяўляецца тое, што ты цяперака чыніш. Ты выхваляеш людзей, каторыя кармілі грамадзян і здавольвалі іхныя жаданьні, і людзі кажуць, што ранейшыя дзяржаўныя мужы ўзьнялі места да ягонае велічы, не спасьцерагаючы, што

яны толькі разьдзьмухалі яго і прывялі да ўнутранага надлому; яны напоўнілі места портамі, докамі і сьценамі, падаткамі і ўсім падобным, не пакідаючы 519
месца для справядлівасьці і паўстрыманасьці. І калі, нарэшце, пара́ пераломy наступіць, тады атэнцы будуць наракаць на дараднікаў дадзенае хвіліны, якія толькі трапяцца ім пад руку, а Тэмістоклеса, Кімона і Пэрыклеса, якія зьяўляюцца запраўднымі спрычыніцелямі іхнага няшчасьця, будуць выхваляць. І, калі ты не праявіш дастаткова асьцярожнасьці, яны могуць напасьці і на цябе і на майго прыяцеля Алькібіядэса, асабліва тады, калі яны пачнуць губіць ня толькі новыя здабыткі, але і тое, што́ яны мелі раней, хоць вы можаце і ня быць запраўднымі спрычыніцелямі іхнага непаводжаньня, але адно другарадным чыньнікам.

Нават і цяперака, як я бачу і чую, усё яшчэ даконваецца вялікая праца, падобна, як і раней мела гэта месца сярод ранейшых дзеячоў. Калі места зьвяртае ўвагу не каго-небудзь зь дзяржаўных мужоў як на праступніка, тады я чую з усіх старон нездаволеньні і абурэньні, быццам нешта дрэннае чыніцца ім. "Пасьля ўсіх іхных і шматлікіх паслугаў для места, цяперака маюць яны загінуць несправядліва" - чуем мы іхныя галасы. Але ўся гэтая гутарка наскрозь хвальшываю ёсьць. Бо ніякі дзяржаўны муж ня можа быць несправядліва засуджаны на сьмерць местам, галавою якога ён сам быў. Выпадак з гэтымі здаданымі дзяржаўнымі мужамі вельмі, як я думаю, прыпамінае нам долю, якая спатыкае і сафістых. Бо сафістыя, хоць і зьяўляюцца мудрымі людзьмі, тым ня меней у вадным выпадку паступаюць недарэчна: яны называюць сябе вучыцелямі цноты, але часта абвінавачваюць сваіх вучняў, што апошнія крыўдзяць іх і адмаўляюць ім узнагароду за навуку і не праяўляюць удзячнасьці за аказаную ім зычлівасьць. І што можа быць яшчэ болей абсурдным як тое, што тыя людзі, каторыя сталіся добрымі і справядлівымі, і каторыя пры помачы вучыцеля пазбыліся несправядлівасьці і, здабыўшы справядлівасьць, і ўсё-ж ня глядзячы на гэта, твораць несправядлівыя чыны, пры помачы тае несправядлівасьці, якое ў іх болей нямашака? Ці-ж можа быць што-небудзь яшчэ ў большай супярэчнасьці з розумам, чымся гэта? Бачыш, Кальліклес, ты змусіў мяне сказаць цэлую прамову, бо сам ты адмовіўся адказваць.

КАЛЬЛІКЛЕС: Ці-ж ня можаш ты гаварыць і тады, калі ніхто табе не адказвае?

САКРАТАС: Я думаю, што я магу. Вось, хоць-бы цяперака, у кажным выпадку, выказваньні мае́, якія я працягваю, зьяўляюцца даволі доўгімі, бо ты адмовіўся адказваць мне. Але ў імя бога сяброўства, кажы мне, мой добры чалавеча, ці ня выдаецца табе вялікаю нясузгоднасьцю – утрымліваць, што нехта ўчыніў іншага чалавека добрым, які, дзякуючы гэтаму ўплыву, стаўся і добрым і астаецца добрым, і адначасна з гэтым папракае яго, што ён дрэнным ёсьць?

КАЛЬЛІКЛЕС: І запраўды, выдаецца мне гэтак.

САКРАТАС: І ці ня чуеш ты падобную гутарку нават з вуснаў тых людзей, якія ўтрымліваюць, што ўзгадоўваюць людзкасьць у цноце?

520 КАЛЬЛІКЛЕС: Але́, чую. Дый чаму мы маем гаварыць пра людзей, якія ня маюць ніякага значэньня?

САКРАТАС: І што ты можаш сказаць адносна тых людзей, каторыя цьвердзяць, быццам яны займаюць чаловыя становішчы ў месьце і імкнуцца ўчыніць яго як найлепшымі, а пасьля, калі абставіны зьменьваюцца, папракаюць яго і вытыкаюць яму ўсе ягоныя недахопы? Ці думаеш ты, што існуе нейкая розьніца паміж імі і сафістымі? Не, мой даражэнькі, паміж аратарам і сафістым няма ніякае розьніцы, а калі і існуе, дык, як казаў я ўжо Полёсу, вельмі нязначная. Але ты, з прычыны свае нясьведамасьці, уяўляеш сабе, быццам рэторыка зьяўляецца першараднаю рэчаю, а сафістыку можна мець у пагардзе. А тымчасам праўдаю ёсьць, што сафістыка нагэтулькі зьяўляецца лепшаю за красамоўства, наколькі мастацтва правадаўства прыгажэйшым ёсьць за выкананьне права, а гімнастыка – за лячэньне. Адны толькі аратары і сафістыя, – як я і схіляюся да думкі, – ня могуць наракаць на сваіх гадунцоў, абвінавачваючы іх у няўдзячнасьці, не абвінавачваючы адначасна самых сябе ў тым, што яны ня прынесьлі ніякае карысьці тым, каму яны прыракалі яе. Ці ня гэтак рэч маецца?

КАЛЬЛІКЛЕС: Запраўды гэтак ёсьць.

САКРАТАС: Калі яны маюць рацыю, цьвердзячы, што яны чыняць людзей лепшымі, тады яны зьяўляюцца адзінымі, каторыя могуць сабе дазволіць, пакінуць справу ўзнагароды тым, каторыя займелі ад іх карысьць. У тым часе, калі чалавек займее нейкую іншую карысьць, напрыклад, дарогаю практыкаваньня навучаецца вучыцелям хутка бегаць і вучыцель не забавязвае яго ніякімі прырачэньнямі і ня вяжа яго ніякімі ўмовамі адносна ўзнагароды, не бяручы на ўступе ніякіх грошай, тады можа здарыцца, што зараз-жа пры спрыючай для вучня вучыцелявае ацэны што да хут-

кага і лёгкага беганьня, ён можа адмовіцца ад выражэньня вучыцелю свае ўдзячнасьці: бо, наколькі я разумею, стацца гэта можа не спрычыны нястачы здольнасьці беганьня, але з прычыны наяўнасьці несправядлівасьці. Так гэта ці не?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: З другой стараны, калі вучыцель ухіляе гэтую прычыну, гэта значыць, несправядлівасьць, тады яму няма чаго турбавацца, што вучань са свае стараны можа паступіць зь ім несправядліва. Вучыцель можа бястурботна пакінуць справу ганарару свайму вучню, калі ён запраўды зьяўляецца здольным учыніць свайго вучня лепшым. Ці-ж ня гэтак?

КАЛЬЛІКЛЕС: Зусім гэтак.

САКРАТАС: Тады мы выкрылі прычыну, як здаецца, што браць грошы чалавеку за выражаную ра́ду, напрыклад, у справе будаўніцтва або ў якім-небудзь іншым мастацтве, зусім не зьяўляецца сорамам?

КАЛЬЛІКЛЕС: І запраўды, выкрылі мы прычыну.

САКРАТАС: Але, калі гутарка ідзе пра тое, як сам чалавек мае стацца лепшым і як найляпей весьці свой дом або кіраваць сваім местам – будзе гэта агульна ўважацца сорамным, калі нехта адмовіцца ра́іць, калі яму ня будуць адлічаныя грошы за гэта?

КАЛЬЛІКЛЕС: Так.

САКРАТАС: І як відаць, прычына гэтага тая ёсьць, што карысьці выклíкаюць жаданьне адплаціцца ім, і тут крыецца довад, што карысьць узнагароджваецца, калі той, хто атрымлівае карысьць, памнажае яе, а калі не – тады рэч маецца наадварот. Ці-ж ня гэтак?

КАЛЬЛІКЛЕС: Гэтак ёсьць. 521

САКРАТАС: Тады, да якое годнасьці ў месьце ты запрашаеш мяне – падумай і зрабі вызначэньне. Ці маю я быць у месьце лекарам, які будзе імкнуцца і змагацца, каб учыніць атэнцаў як найболей лепшымі і здаравейшымі; а мо' слугою і падлыжнікам дзяржавы? Скажы адкрыта, Кальліклес, што ты думаеш. Скажы свабодна і шчыра, гэтак, як ты чыніў на пачатку і павінен працягваць далей, праўдзіва і шляхэтна.

КАЛЬЛІКЛЕС: Тады я скажу, што ты павінен быць слугою места.

САКРАТАС: Выходзіць, тады, мой шляхэтны дружа, што ты заклікаеш мяне стацца падлыжнікам?

КАЛЬЛІКЛЕС: Місійцам, Сакратас, або, як ты хочаш. Бо, калі ты адмовішся, наступствы гэтага могуць быць –

САКРАТАС: Не кажы таго, што́ ты ўжо не аднойчы казаў – што той, каму гэта толькі спадабаецца, можа

забіць мяне і забраць маю маемасьць; бо тады я бу-
ду змушаным паўтараць ужо старое, што гэта будзе
дрэнны чалавек, які заб'е добрага, і што гэтак зда-
бытая маемасьць ня меціме ніякае карысьці для яго,
бо ён дрэнна здабыў яе, а калі дрэнна, тады нега-
нарова, а калі неганарова, тады са шкодаю для яго.

КАЛЬЛІКЛЕС: Як выдаецца мне, Сакратас, ты вель-
мі пэўны, што з табою нічога такога здарыцца ня мо-
жа! Ты думеш, што ты жывеш у іншай каріне, і ніко-
лі ня можаш быць першым лепшым мізэрным і дрэнным
чалавекам пастаўленым перад судом.

САКРАТАС: Тады мусіў-бы я быць вельмі безразваж-
ным, Кальлікле с, калі-б я ня ведаў, што ў нашым
месьце кажнаму чалавеку можа здарыцца ўсё, што хо-
чаш. Але аднае рэчы я зьяўляюся пэўным, пайменна,
што, калі я калі-небудзь буду прыведзеным на суд і
апынуся пад адной з успомненых табою пагрозаў, ма-
ім абвінаваўцам будзе падлюга, бо ніякі чэсны ча-
лавек ня будзе абвінавачваць нявіннага. І я ня бу-
ду зьдзіўленым, калі буду засуджаны на сьмерць. Ці
хочаш ты даведацца, чаму?

КАЛЬЛІКЛЕС: Калі ласка!

САКРАТАС: Мне здаецца, што я зьяўляюся адзіным,
або бадай-што адзінным з жывых сягоньня атэнцаў,
каторы займаецца праўдзівым мастацтвам дзяржаўнага
кіраўніцтва і, адзіным сярод сучасных грамадзян,я-
кі тасуе гэтае мастацтва ў штодзенным жыцьці. Ця-
пер-жа, бачучы, што словы маіх гутарак не разьлі-
чаны на тое, каб займець чыю-небудзь ласку, і дзе-
лятаго, што я ма́ю на ўвазе тое, што́ зьяўляецца доб-
рым, а ня тое, што́ можа многім падабацца, і,ня ма-
ючы замеру рабіць якую-небудзь карысьць з гэтага
мастацтва і ласкаў, якія ты прапануеш, затым мне
немагчымым будзе бараніцца ў судзе. Ты, ведама,мо-
жаш аспрэчваць мяне, як я аспрэчваў Полёса: - су-
дзіць мяне будуць гэтак, як дзеці судзілі-б лека-
ра, якога кухар абвінаваціў перад імі. Лёгка сабе
ўявіць, як можа бараніцца гэтакі чалавек перад па-
добным судом, калі-б абвінаваўца пачаў гаварыць гэ-
такімі словамі: "Дзеці, гэты чалавек спрычыніў вам
многа злыбяды і псуе самых малодшых з вас, ужыва-
ючы нож і распаленае да бела жалеза, замучваючы іх,
522 і душыць. Ён дае вам піць найболей горкія лекі, мо-
рыць голадам і смагаю. Зусім ня гэтак, як я, като-
ры кармлю вас багатаю ежаю і рознымі салодкімі ла-
сункамі!" І як ты думаеш, што́ мог-бы адказаць ле-
кар, засьпеты гэтакім горам? І, калі-б ён сказаў
ім праўду, што: "Усе гэтыя рэчы, мае дзеці, я ра-

біў дзеля вашага здароўя" - дык ты сабе ўяўляеш, якія крыкі мусілі-б узьняцца сярод гэтакіх судзьдзяў? Дый якія яшчэ крыкі!

КАЛЬЛІКЛЕС: Лёгка сабе ўявіць.

САКРАТАС: Ці ня думаеш ты, што ён, апынуўшыся ў гэткім цяжкім палажэньні, ня мог-бы засяродзіцца ў сваіх думках і адказваць?

КАЛЬЛІКЛЕС: Ведама.

САКРАТАС: Гэтаксама, і ведаю я добра, выпала-б і мне на долю, калі-б я папаў пад суд. Я ня быў-бы здольным выклікаць у іх ніякае прыемнасьці, а тымчасам у гэтым, паводля іхнага смаку, заключаюцца заслугі і добрыя чыны, і гэта тады, калі я не пахваляю тых, хто іх аказвае, гэтаксама як і не зайздрошчу тым, хто іх прыймае. І, калі хто-небудзь скажа, што я псую маладых людзей і, што ўводжу іх у сумліў, або дрэнна выражаюся пра старых людзей і ўжываю зласьлівасьці супроць іх у прыватных гутарках ці на зграмаджэньнях, дык бескарысным астаецца для мяне адказваць ім, хоць я і адказаў-бы: "Усё гэта я чыню дзеля справядлівасьці, маючы на ўвазе вашае дабро, мае судзьдзі, і нічога іншага". Затым цяжка сказаць, якая доля сталася-б маім удзелам.

КАЛЬЛІКЛЕС: І ты ўсё яшчэ, Сакратас, думаеш,што чалавек гэтак безабаронны, які ня можа памагчы сабе, знаходзіцца ў добрым палажэньні?

САКРАТАС: Так, Кальліклес, калі ён мае гэтую абарону, што да якое мы не аднойчы згадзіліся, што ён павінен яе мець: - калі ён зьяўляецца абаронаю для самога сябе ў тым, што ён ніколі і ні ў чым ня быў несправядлівы: ані перад багамі, ані перад людзьмі, ані ў словах, ані ў сваіх паступках. І мы з табою не аднойчы згадзіліся, што гэткага роду абарона зьяўляецца найлепшаю абаронаю, якую чалавек можа аказаць самому сабе. І, калі-б хто-небудзь мог абвінаваціць мяне, што я не зьяўляюся здольным аказаць гэткае помачы самому сабе, ані каму-небудзь іншаму, я мусіў-бы гарэць ад сораму, усяроўна дзе-б мяне ні абвінавацілі - у вялікім зграмаджэньні ці малым або чалавекам проста мне ў вочы: і, калі-б я меў памерці з прычыны гэткае бясьсільнасьці, спрычыніла-б гэта мне асаблівую прыкрасьць. Аднак-жа, калі-б прычынаю мае сьмерці аказалася адсутнасьць у мяне спакусы ў падлыжніцкім красамоўстве, дык ты пабачыў-бы, і ў гэтым я пэўны, як лёгка і спакойна я зьнёс-бы сваю сьмерць. Бо сама сьмерць, як гэткая, нікога не палохае, хіба-што чалавека зусім

бязглуздага і нямужнага, які баіцца з прычыны сваіх дрэнных паступкаў. Бо ўваходзіць у Дом Гадэсу з душою перапоўненаю несправядлівасьцю зьяўляецца апошнім і найбольшым з усіх няшчасьцяў. І на падмацаваньне таго, штó я кажу, калі ты жадаеш, я магу пераказаць табе апавяданьня.

КАЛЬЛІКЛЕС: Калі ласка, калі ты ўжо з усім скончыў, тады пачынай.

523 САКРАТАС: Паслухай, тады, як гэта кажацца, уважна пераказ, які ты, праўдападобна, уважацімеш за казку, на каторы я, аднак-жа, гляджу, як на праўдзівае апавяданьне і пераказваць я буду гэтак, як апавядаюць пра запраўдныя здарэньні.

Гомэр пераказвае нам, як Зэус, Посэйдон і Плютон падзялілі ўладу, якую яны атрымалі ў спадку ад бацькі. Зноў-жа, у днях Кроноса заўсёды існавала права адносна долі людзей, і сягоньня існуе яшчэ паміж багамі, якое зьмяшчалася ў тым, што той, хто ўсё сваё жыцьцё жыў справядліва і ў сьвятасьці, пераходзіў на Абтокі Добраслаўленых і існаваў там у паўніні шчасьця і здалёк ад усіх злыбедаў і няшчасьцяў; але той, хто жыў несправядліва і бязбожна, адыходзіў у дом помсты і пакараньня, які называюць Тартарам. У часе Кроноса і пазьней у часе панаваньня Зэуса, суд адбываўся ў дню, калі чалавек паміраў; судзьдзямі былі жывыя людзі, і чалавек, над якім адбываўся суд, гэтаксама жыў яшчэ; у выніку гэтага, вырашэньні суду ня былі здавальняючымі. Тады Плютон і адказныя людзі на Абтоках Добраслаўленых прыйшлі да Зэуса і сказалі, што людзі накіроўваюцца ня туды, куды яны павінны быць скіраванымі. І Зэус сказаў: "Я спыню гэта назаўсёды. Цяперака прысуды выконваюцца дрэнна, бо людзі, якіх судзяць, зьяўляюцца апранутымі, бо яны яшчэ жывыя. З гэтае прычыны шматлікія дрэнныя душы, - казаў ён далей, - апранутыя ў прыгожыя целы, у шляхэцкае паходжаньне, у багацьце, і, калі адбываецца суд, зьяўляюцца лічныя сьведкі, каб сьведчыць, што яны жылі ў сузгоднасьці з справядлівасьцю. І гэта, да пэўнае ступені, уплывае на судзьдзяў; дый апрача гэтага, самыя судзьдзі апранутыя: - іхныя душы заслоненыя вачыма, вушамі і наагул іхныя целы становяцца як заслона перад іхнымі ўласнымі душамі. І ўсё гэта зьяўляецца перашкодаю для іх - і ўласная іхная вопратка, і вопратка тых, каго яны судзяць. Перадусім, - казаў ён, - усё гэта мае быць спынена, каб людзі ня ведалі наперад пра дзень свае сьмерці; бо цяперака яны ведаюць гэта наперад. Промэтэусу ўжо

загада́на, каб ён адабраў ад іх дар прадбачаньня. Далей, яны павінны быць зусім голымі перад тым як стануць на суд; затым і судзіць іх будуць пасьля таго, як яны памруць. Гэтаксама і судзьдзя павінен быць голым і памершым, каб ён мог толькі адною душою ўзірацца на душу толькі-што памершага, які ўсё адразу пакінуў на зямлі – і сваякоў, і ўсю зіхацістую вопратку, бо толькі ў гэткіх абставінах суд будзе справядлівы. Я ведаў раней за вас аб гэтым, і вызначыў маіх сыноў на становішчы судзьдзяў: двух ад Азыі – Міноса і Радамантыса, і аднаго ад Эўропы – Айакоса. Калі яны памруць, дык будуць судзіць на 524
сенажаці, на скрыжаваньні, зь якога разгаліняюцца два шляхі: адзін вядзе на Абтокі Добраслаўленых, а другі – у Тартар. Радамантыс будзе судзіць тых, што прыйшлі з Азыі, а тых, што з Эўропы – Айакос, а Міноса я надзялю ганаровым правам апэляцыі, у выпадку, калі вырашэньні аднаго з двух папярэдніх будуць выклікаць сумліў: гэткім спосабам вырашэньне адносна апошняга падарожжа людзей будзе як найболей справядлівым".

Пераказ гэты, які я чуў, Кальлікле́с, я прыймаю за праўдзівы і ўважаю, што зь яго выцякае наступны высноў: – Сьмерць, як мне выдаецца, у першую чаргу зьяўляецца разьдзяленьнем дзьвюх рэчаў – душы і цела. І пасьля таго, як яны разьдзелюцца, кажная зь іх затрымлівае пры сабе сваю ўласную натуру, гэтак, як у часе жыцьця чалавека: цела затрымлівае свае натуральныя свомасьці і ўсё тое, з чым яно зжылося ці што магло здарыцца зь ім, зусім выразна. Напрыклад, той, хто, дзякуючы натуральным свомасьцям ці дарогаю фізычных практыкаваньняў або з прычыны аднаго і другога, быў высокім у жыцьці, ягонае цела астанецца гэтакім і пасьля сьмерці; тлусты чалавек астанецца тлустым і гэтак далей; калі хто меў доўгія валасы, яны гэтакімі самымі будуць і на нябожчыку. Зноў-жа, калі ён меў на целе знакі пабіцьцяў або на ягоным целе былі спасьцярожныя раны з часу жыцьця, тады гэтыя самыя знакі пасьля сьмерці будуць спасьцярожнымі на ягоным целе. Калі чалавек у часе жыцьця зламаў ці вывіхнуў сабе руку ці нагу, гэтае смае будзе спасьцярожным і ня нябожчыку. Коратка кажучы, якіяколечы свомасьці цела займела ў часе жыцьця, астануцца спасьцярожнымі і пасьля сьмерці на працягу такога ці іншага часу. І, як мне здаецца, гэтае самае ў аднолькавай ступені распасьціраецца і на душу, Кальлікле́с. Калі душа вызваліцца зь цела і распранецца зь яго, тады спасьцярож-

ымі стаюцца ўсе яе натуральныя свомасьці і ўсе сьляды набытых навыкаў чалавекам у залежнасьці ад імкненьня і спосабу вядзеньня самога жыцьця.

І, калі яны падыходзяць да судзьдзі, як напрыклад, тыя, што з Азьі да Радамантыса, Радамантыс дапушчае блізка душу да сябе, дасьледуе яе зусім бесстаронна, ня ведаючы, чыя гэта душа ёсьць: вельмі магчыма, што ён ускладае руку на душу Вялікага караля, або на якога іншага караля ці магутнага потэнтата і бачыць, што на душы няма здаровага месца, што ўся яна пасечана бізуном і пакрыта рубцамі з
525 прычыны крывадушных прысяганьняў і несправядлівасьці, якія кажны раз пакідалі па сабе знак нягодгодных паступкаў, і нічога няма на ёй простага, бо яна ня ведала праўды. Радамантыс бачыць звырадненьне і зьіначаньне, спрычыненае сваволею і роскашшу, гордасьцю і непаўстрыманасьцю і адсылае яе зьняслаўлена ў вязьніцу, дзе яе чакае ка́ра, на якую яна заслугоўвае.

Цяперака, спосаб вымерваньня ка́ры носіць дваякі характар: таму, хто нясе ка́ру, калі ён засуджаны правільна, выпадае на долю або стацца лепшым і гэтым самым займець карысьць для сябе, або стацца прыкладам для іншых, каб яны, бачучы ягоныя цярпеньні, напоўніліся жахам і сталіся лепшымі. Тыя, каторыя палепшыліся пасьля пакараньня іх багамі і людзьмі - гэта тыя, грахі якіх зьяўляюцца даравальнымі; і яны палепшыліся, гэтак у гэтым сьвеце як і ў Доме гадэсу; бо нямашака іншага шляху, на якім яны могуць быць збаўленыя ад свайго зла. Але тыя, якія сталіся вінаватымі найбольшых злачынстваў і зьяўляюцца недаравальнымі з гэтае прычыны, служаць прыкладам і перасьцярогаю: бо астаючыся невылячальнымі, мінуў для іх час карысьці. Згэтуль, яны ня маюць для сябе ніякага дабра, але іншыя чэрпаюць для сябе дабро і выгаду, бачучы іх вечна церпячымі ў найболей жахлівых мучэньнях і найболей страшных цярпеньнях як ка́ру за свае праступкі - тут у вязьніцы падземнага валадарства, яны выстаўленыя як прыклад і перасьцярога для ўсіх тых, несправядлівых людзей, якія ўсё зноў і зноў наплываюць.

І спасярод іх, як я і перакананы ў гэтым, знойдзецца гэтаксама і Архэляос, як і кажны іншы падобны тыран, калі Полёс праўду кажа пра яго. Гэтыя страшныя прыклады пераважна, як я думаю, выводзяцца з групы тыранаў, каралёў, князёў і розных іншых узурпатараў улады, якія займаліся грамадзкімі справамі, бо гэта яны зьяўляюцца вялікімі спрычыніце-

лямі найбольшых і найболей бязбожніцкіх праступкаў, бо яны знаходзіліся пры ўладзе. І Гомэр сьцьвярджае гэтую самую праўду; бо гэта яны – каралі і ўладары, каторых ён нам выяўляе як вечна церпячымі пакараньне ў Доме гадэсу: гэтакімі былі і Танталёс, і Сызыфос, і Тытыос. Але ніхто з пэтаў ніколі не ўспамінаў пра Тэрзітэса – і пра іншых мала ведамых людзэй, якія гэтаксама былі дрэннымі – каб ён быў паддадзены заўсёды трываючым цярпеньням, і астаўся непакараным. Бо, каб даканаць найбольшае праступства, як мне здаецца, ён ня меў улады, і ён быў болей шчасьлівым, чымся тыя, што мелі ўладу. Не, Ка- 526
льліклес, найгоршыя людзі выводзяцца зь ліку тых, што знаходзіліся пры ўладзе. З другой стараны, сярод іх гэтаксама могуць быць добрыя людзі і годныя нашага падзіву, і гэта асабліва тады, калі вялікая ўлада дае нагоду рабіць дрэнна, а яны імкнуліся жыць добрым жыцьцём і памерці справядліва, і гэта трудным ёсьць, Кальліклес, – затым яны славяцца намі, але ня шмат іх было, каторыя асягнулі гэта. Такія праўдзівыя людзі ўсё-ж былі і будуць зноў у Атэнах і ў іншых местах, каторыя праявілі цноту тым, што справядліва выпаўнілі ўскладзеную на іх спадзею. І адзін зь іх стаўся нават слаўным на ўсю Гэльляду – і гэта Арыстэідэс, сын Лісімахоса. Але, наагул, паважаны мой дружа, большасьць тых, што астаюцца пры ўладзе, зьяўляюцца дрэннымі і заганнымі.

Як я ўжо сказаў, калі Радамантыс угледзіць перад сабою гэтакага памершага, ён нічога ня ведае пра яго, ані хто ён такі, ані хто былі ягоныя бацькі; ён ведае толькі, што ён дрэнным ёсьць; і, адцеміўшы на ім, вылячальным ён ёсьць ці безнадзейным паводля ягонае думкі, накіроўвае яго ў Тартар, дзе ён церпіць тое, на што заслужыў. Іншым разам ён спасьцерагае з прыхільнасьцю душу справядлівага, якая жыла ў пабожнасьці і праўдзе; гэта магла быць душа простага чалавека ці каго-небудзь іншага; але барджджэй, я склонным зьяўляюся да думкі, Кальліклес, што гэта найболей праўдападобна, была душа філёзафа, які ўсё сваё жыцьцё выконваў свае абавязкі і ня турбаваў самога сябе тым, чым займаюцца іншыя. Аддаючы яму належную пашану, Радамантыс пасылае яго на Абтокі Добраслаўленых. Гэтаксама паступае і Айакос; і абодва ў руцэ трымаюць па́ліцу, і судзяць. Але Мінос, назіраючы за імі, толькі адзін трымае залатую па́ліцу, гэтак, як і Одыссэуш у Гомэра кажа, што ён бачыў яго:

З па́ліцай з золата – права дзяліў між памершых.

Што да мяне, Кальлiклес, дык я павiнен сказаць, што пераказ гэты пераконвае мяне, i мае стараньнi скiраваныя на тое, каб душа мая зьявiлася перад судзьдзёю як найболей цэлаю i здаровай ў гэны дзень. Астаючыся абыякасным да ўсiх гонараў, якiя сьвет мае ў пашане, я iмкнуся пазнаць толькi праўду, i жыць гэтак добра, як толькi я магу, i, калi прыйдзе хвiлiна сьмерцi, памерцi гэтаксама прыгожа. I наколькi ў мяне хапае сiлы, я заклiкаю i цябе, Кальлiклес, прыняць удзел у найбольшым змаганьнi, якое зьяўляецца змаганьнем за жыцьцё, i якое зьяўляецца найбольшым за ўсе iншыя змаганьнi, якiя калiколечы мелi месца на зямлi. I я дакараю цябе за твой падход да мяне, i кажу, што ты ня мецiмеш магчымасьцi памагчы самому сабе, калi надыйдзе дзень суду i ад-
527 платы, аб чым я толькi-што гаварыў; ты зьявiшся перад судзьдзёю, сынам Айґiны, i, пачуўшы на сабе ягоны дотык, застынеш ты з адкрытым ротам, i закружыцца галава твая, гэтаксама як мая на судох тут на зямлi, i, магчыма будзеш бiты з сорамам па твару, дазнаючы розныя панiжэньнi.

Магчыма выдасца табе гэта адною з тых казак, якiя апавядаюць старыя жанчыны i ты слухаеш з пачуцьцём абрыдласьцi. У гэтым ня было-б нiчога дзiўнага, калi-б нашыя разважаньнi прывялi да iншых, лепшых i болей праўдзiвых высноваў. Але цяпера ка ты сам бачыш, што ты, Полёс i Ґорґiяс - тры найболей мудрыя сярод гэльленаў у нашых днях, не знайшлiся на ўзвышшу пераканаць, што трэба жыць нейкiм iншым жыцьцём, чымся тое, якое, трэба спадзявацца, будзе карысным для нас у iншым сьвеце гэтаксама як i ў гэтым. I з усяго, што было сказаным, непахiснутым астаецца цьверджаньне, што чынiць несправядлiвасьць зьяўляецца болей дрэннаю рэчаю, чымся цярпець несправядлiвасьць, i, што рэчаiснасьць, а ня тое, што́ можа нам выдавацца за цноту, зьяўляецца тым нечым, што́ трэба перасьцерагаць найболей за ўсе рэчы, гэтак у грамадзкiм, як i ў прыватным жыцьцi; i, што той, хто быў дрэнным у чым-небудзь, павiнен адцярпець ка́ру, i, што другою найлепшаю рэчаю для чалавека справядлiвага ёсьць тое, што ён павiнен ставацца справядлiвым, адкупляючы вiну ка́раю. гэтаксама ён павiнен ухiляцца ад усякага падлыжнiцтва i падхлебваньня для самога сябе, як i перад iншымi людзьмi - усяроўна, перад некалькiмi цi перад шматлiкiмi; красамоўствам i iншым мастацтвам, як i кажным заняткам, павiнен ён гэтак карыстацца, каб усё служыла справе справядлiвасьцi.

Затым, павер мне і сьледуй за мною да мэты, якую, як гутарка нашая выказала, ты будзеш шчасьлівым гэтак у часе жыцьця як і пасьля сьмерці. I няхай іншыя пагарджаюць табою, няхай уважаюць цябе за нямудрага, няхай крыўдзяць, калі яны хочуць, няхай нават б'юць цябе, на нябёсы, - усё цярпі спакойна - і сорам, і біцьцё, памятаючы, што з табою нічога ня здарыцца дрэннага, калі ты, запраўды, годны чалавек і аддадзены цноце.

I калі мы разам будзем практыкавацца ў цноце, і, калі ўважацімем за неабходнае, можам удзяліць увагу грамадзкім справам або служыць ра́даю ў іншых справах, якія могуць выдасца нам важнымі, бо тады мы будзем ляпей узважваць і ацэньваць, чымся цяперака. У нашых сучасных абставінах мы не павінны куражыцца, бо нават у самых важных справах мы ўсё яшчэ зьменьваем наш пагляд. Вось да якое ступені нясьведамасьці дайшлі мы.

Тады выбярэм сабе за вучыцеля той пагляд, які выкрылі мы сяго́ньня ў нашых разважаньнях і, які выразна паказвае, што гэты шлях у жыцьці - гэта найлепшы шлях: будзем, тады, жыць і паміраць, умацоўваючыся ў справядлівасьці і ў кажнай іншай цноце. Хадзем на заклік гэтага вучыцеля і клічма іншых, і ня будзем успрыймаць той пагляд, да якога ты схіліўся і мяне хочаш пераканаць: ён нічога ня варты, Кальліклес.

Ґэйнсвільл, Флёрыда
2I студзеня I972 г.

СПАСЫЛКІ ДА ТЭКСТУ падаюцца пры помачы пагінацыі ці болей падрабязнага распадзелу дадзенае бачыны, які выражаецца арабскімі цыфрамі і сіґлямі, выражанымі малымі лацінскімі літарамі: a b c d e, вынесенымі на марґінэз тэксту. З прычынаў тэхнічных сіґлі ў паданым тэксьце не падаюцца.

Спасылкі да тэксту ў гэткай хворме выводзяцца ад Гэнрыка Эст'енна ці Эт'енна /Estienne, Etienne/ - у злацінізаванай хворме - Стэфануса, з I578 г.

Эст'енн або Стэфанус - гэта род парыскіх і ґэнэўскіх друкароў I6. і I7. стагодзьдзяў, які на працягу пяці пакаленьняў аддаў нязьмерна вялікія ўслугі справе культуры, духовага поступу і друкарскаму мастацтву.

Першым зь лініі быў Гэнрі Эст'енн, каторы памер тры гады пасьля таго, як Марцін Лютар у I5I7 годзе агаласіў ведамыя дзевяноста пяць тэзаў, якія сталіся пачаткам узьняцьця вялікае хвалі рэлігійна-культурнага ўздыму, зьменьваючы дашчэнту сярэднявечны спосаб думаньня ў заходняў Эўропе, і тры гады пасьля таго, як Др Францішак Скарына ў Празе чэскай выдаў першы свой друк - Псалтыр, гэтаксама ў I5I7 г.

Гэнрі Эст'енн зарганізаваў сваю друкарню ў Парыжы ў I502 г. Да часу ягонае сьмерці болей як сто кнігаў выйшла з-пад ягонага прэсу, якія адлюстроўвалі вялікае друкарскае мастацтва. Сімон дэ Колін, першы супрацоўнік Эст'енна, пераняў друкарню і жаніўся на аўдавелай Эст'енн. Каля I526 г. сын Эст'енна, Робэрт Эст'енн /I458?-I559/ пераняў друкарню. Робэрт, здольны навуковец, прысьвяціў свой талент выключна навуковым публікацыям. Робэрт цешыўся ласкаю караля Франціса I і стаўся каралеўскім друкаром у лацінскай, гэбрайскай і грэцкай мовах.

Робэрт, будучы сам гуманістым, падтрымліваў рэфармацыю, што выклікала доўгатрываючыя атакі супроць яго са стараны факультэту Парыскага ўнівэрсытэту як і палітычных ворагаў караля. З гэтае прычыны ў I550 г. ён пераяжджае ў Ґэнэву, у якой для ягонае дзейнасьці заіснавала болей спрыяючая атмасфэра. Тут ён нанова разгортвае друкарскую справу і працуе друкаром аж да сьмерці. Робэрт меў брата, Франсуа Эст'енн, які пераважна займаўся справаю пашырэньня прадукцыі друкарні. Іншы брат Робэрта - Шарль Эст'енн /прыблізна I504-I564/ ў I55I г. пераняў кіраўніцтва Робэртавае друкарні ў Парыжы. Другі Гэнрі Эст'енн або Стэфанус /I53I?-I598/ найбольшы філялёг і клясык у родзе, быў адным з сыноў

Робэрта. Ён атрымаў бацькавы прэс у спадку пад умо-ваю, што друкарня будзе працаваць у Ґэнэве. Гэта быў ён, каторы з-паміж чысьленых працаў, ім даклад-на прыгатаваных, выдаў друкам Плятона, уводзячы па-ґінацыю, спрычыняючыся гэтым да большае дакладнась-ці тэксту ў выданьнях спадчыны вялікага грэцкага фі-лёзафа.

///

ЗАЦЕМКІ ПАД РАДКАМІ


/1/ B. Bury, A History of Greece, New York, бач. 5.

/2/ C. Harold King, A History of Civilization, New York, 1956, бач. 130.

/3/ Arnold J. Toynbee, Greek Civilization and Character, 1953, бач. I.

/4/ Платон - Сочинения в трех томах, Москва, 1968, том I, бб. 5, 6.

/5/ Плятон - Выбраныя дыялёгі: Сымпозыён, Іён, у перакладзе Яна Пятроўскага, накладам Беларускае Друкарні ў ЗША, 1970, [201].

/6/ The Collected Dialogues of Plato..., Edited by Edith Hamilton and Huntington Cairnes, 1966, бач. XXV.

/7/ Raphael Demos, The Dialogues of Plato, by B. Jowett, New York, 1937, бач. X.

/8/ Тээтэтос, [149]

/9/ Паводля М. І. Прашковіча, "Францыск Скарына - Прадмовы і пасьляслоўі", выдавецтва "Навука і Тэхніка", Менск, 1969, бач. 178.

/10/ Reply, Seventh and Last Joint Debate with Douglas, Alton, Illinois, October 15, 1858.

Бач. 26 ...Калі-б Ґорґіяс меў мастацтва свайго брата Гэродікоса... Ґорґіяс меў брата, пра якога ведаем, што быў лекарам.

...І, калі-б ён меў мастацтва Арыстофона, сына Аґляофона, або ягонага брата... Брат Арыстофона быў Паліґнотос. Абодва былі мастакамі малярамі. Асабліва ведамым быў апошні.

Бач. 27 ...як гэта кажацца ў Гомэра: я увалюся... У Гомэра /"Одыссэя", І, І78/ ужыта выражэньне: "Я Мэнтэс, сын..." Гэта можна імпрэтаваць -"Я увалюся, што я Мэнтэс". У тэксьце выступаюць два словы: καλέω - называць, і εὔχομαι - уваліцца.

Бач. 30 ...як урадоўцы ў Народным зграмаджэньні кажуць: "усё іншае як раней",... Урадовец у Народным зграмаджэньні, перачытваючы фармальна ўрадавыя акты або, для прыкладу, праект таго ці іншага права, часта, каб не паўтарацца, ужывае зварот:"усё іншае як раней", што можна параўнаць да аналягічнага нашага: "і гэтак далей", або - "як вышэй ужо гаварылася"...

Бач. ЗІ ...чуць песьню падпітых на зборышчах людзей... або сколіён /σκόλιον/. Аўтарства гэтае песьні бяз большага абаснаваньня прыпісваецца Сымонідэсу /Σιμωνίδης/ з Кеёсу, народжанаму ў 556 г. п.н.э. Песьня мае і чацьвертае апошняе пажаданьне /магчыма дададзенае ў пазьнейшым часе/ - "Жыць шчасьліва з сябрамі", якога Плятон не падае.

Бач. 33 ...апрача Зэўксіса... Зэўксіс - грэцкі артыста маляр. Паходзіў з Гэраклеі ў Люканіі /Маґна Ґрэцыя ў Італіі/. Жыў прыблізна ў гадох 424 - 380 п.н.э. Аселым быў нейкі час у Македоніі пры двары Архэляоса. Талент свой прысьвячаў пераважна тэме міталягічнага сьвету. Ён адначасна з мастаком Апольлёдоросам разьвіў у малярстве г. зв. хіяроскуро - тую галіну ў мастацкім малярстве, якая адносіцца да распадзелу сьвятла і ценю ў вобразе, асягваючы неспатыканы дагэтуль рэалізм у выражэньні і пэрспэктыве. - Засяг, які Зэўксіс і іншыя грэцкія мастакі асягвалі ў рэалізьме, можа быць ілюстраваны легендарным апавяданьнем пра спаборніцтва паміж грэцкім мастаком маляром Парразіёсам і Зэўксісам. Паводля пераказу, Зэўксіс намаляваў Вінаградныя ґронкі з гэтакаю пэрфэкцыяю, што птушкі прабавалі есьці іх. Аднак Парразіёс здабыў першую

ўзнагароду сваім малюнкам Заслоны гэтак рэалістычна выкананай, што Зэўксіс прабаваў адхіліць яе на старану, каб пабачыць вобраз укрыты за ёю.

Бач. 36 ...Тэмістоклеса... Тэмістоклес – атэнскі дзяржаўны муж і камандзер морскіх сілаў. Жыў прыблізна ў 525 – 460 гг. п.н.э. Прадбачваючы, што пабітыя пад Маратонам /490 г. п.н.э./ пэрсы, рушаць яшчэ раз супроць Грэцыі, Тэмістоклес пераканаў атэнцаў на дзяржаўны кошт выбудуваць сільную морскую флятылю; умацаваў места і разбудаваў порт. У 480 г. п.н.э. разьбіў пэрсаў пад Салямісам. /Невялікая мясцовасьць над Эгінскаю затокаю гэтага самага назову на захад ад Атэнаў/.

...а Пэрыклеса... Пэрыклес /год нараджэньня падаецца розна: і 500, і 495, і 469 п.н.э., але год сьмерці пераважна 429 п.н.э./ найбольшы атэнскі дзяржаўны муж, стратэг, адзін з найболей адукаваных філёзафаў і прамоўцаў, які асьвету сваю атрымаў ад найболей ведамых у тым часе аўтарытэтаў у галіне навукі, як Зэно і Анаксаґорас. Пэрыклес спрычыніўся да культурнага і эстэтычнага ўздыму Атэнаў. Адзін з этапаў вялікага пэрыяду Атэнаў, што прыпадае на пятае стагодзьдзе п.н.э. і які ведамы як Залаты век названы ягоным імем: "Век Пэрыклеса", Пэрыклес і залаты век Атэнаў", "Сьвет Пэрыклеса".... Узнаньне для прыгожасьці ў яе найлепшым выражэньні, дзякуючы Пэрыклесу, знайшло сваё адлюстраваньне ў грандыёзнай архітэктуры места, творачы Атэны назаўсёды найболей слаўным местам. Апякуючыся мастацтвам, ён заахвочваў да творчасьці ў галіне музыкі і драмы. Пад ягоным кіраўніцтвам Іктынос і Кальлікратэс, Фідіяс і іншыя на адпаведным культурным узроўню людзі ўзьнесьлі будаўніцтва і архітэктуру, што акрылі Атэны назаўсёды славаю. На працягу 32 гадоў, займаючы чаловае становішча аднаго з дзесяці стратэгаў Атэнаў, Пэрыклес ніколі не ўжываў вайсковае сілы супроць тых, хто зь ім не згаджаўся, ані тасаваў ён палітычны ўплыў, які знаходзіўся да ягонае дыспазыцыі. Усе свае замеры і плянаваньні Пэрыклес праводзіў толькі на дарозе пераконваньня людзей. У ягонай урачыстай прамове, прысьвечанай памяці і хвале паўшым у першым годзе Пэлёпоннэскае вайны, /аб чым пераказвае нам грэцкі гісторык Тусідідэс/, Пэрыклес, адклікваючыся да гордасьці і патрыятызму грамадзян, сярод іншага казаў: "З усіх ведамых нам местаў, толькі Атэны прыходзяць да часу свайго выпрабаваньня ў веліччы, якая перавышае ўсё, што было ведамым пра гэтае места. Прышлыя вякі будуць за-

хопліваецца намі, гэтак як сучаснае стагодзьдзе ня можа дастаткова надзівіцца".

Бач.37 ...спаборніцтва... Гутарка тут ідзе пра змаганьне ў старажытных грэкаў, званае панкрацыён /παγκράτιον/, у якім аднachасна тасаваліся спосабы свомыя для змаганьня барцоў і боксу.

...наведваць палестру... Палестра - месца, дзе адбываліся практыкаваньні ў змаганьні барцоў.

Бач. 43 ...Атэны, дзе пануе найбольшая ў Гэльлядзе свабода слова... Старажытныя грэкі былі гордымі гэтаксама як і сьведамымі факту, што яны практыкуюць у сваей супольнасці свабоду слова. Пакрываецца гэта з выказваньнямі аўтара кнігі ў Новым Запавеце "Дзеяньні апосталаў" /17:19 і далей/.

Бач. 45 ...а наш Полёс парывісты паводля свайго імя як і паводля свае натуры... Тут Плятон тасуе ігру словаў. Грэцкае слова полёс /πῶλος/ значыць жараб'ё. Аўтар гэтым кажа, што Полёс, як тое жараб'ё, і парывісты і ігрывы.

Бач. 47 ...паводля Анаксаґораса...Адносна Анаксаґораса гл. Уводзіны /"У духу сакратычным", бач. 18 як і заўвагу да бач. 47 да Выбраных дыялёгаў Плятона: "Абарона Сакратаса", "Крытон" і "Файдон" у перакладзе на беларускую мову Яна Пятроўскага, выдадзеных Беларускаю друкарняю ў Злучаных Штатах Паўночнае Амэрыкі, 1967 г.

Бач. 54 ...гэты Архэляос... Архэляос, кароль Македоніі /413-399 п.н.э./, няпраўны сын Пэрдіккаса II. Трон здабыў дарогаю замардаваньня свайго аднакроўнага брата. Стаўся ведамым з прычыны свайго дэспатызму. Стварыў навакол сябе пышны двор і акружыўся ведамымі ў тую пару паэтамі, музыкамі і іншымі мастакамі. Ягоны палац быў упрыгожаны працамі мастака маляра Зэўксіса. Эўрыпідэс, Аґатон і іншыя прадстаўнікі тагачаснае палестры былі сярод гасьцей караля. На двор Архэляоса быў гэтаксама запрошаны і Сакратас, каторы аднак-жа запросін ня прыняў.

...і пра Вялікага караля... Вялікі кароль або кароль Пэрсыі. Вялікі кароль - гэта звычайна тагачасны тытул пэрскіх каралёў, раскошнае жыцьцё, абсалютная ўлада і багацьці якіх уважаліся тады за азнаку найвышэйшага шчасьця чалавека. Пасьля неспатыканага дагэтуль паходу маладога, бо 20-ці летняга грэка і разьбіцьця пэрскае імпэрыі, у гісторыі і легэндах тытул перайшоў на юнака, які з гэтае пары будзе называцца Аляксандрам Вялікі. Пэрсы, аднак, тытулу гэтага ня ўступілі і Аляксандру Вялікага на-

зывалі Аляксандрам Македонскім. Расейцы гэтаксама Аляксандру Вялікага называюць Аляксандрам Македонскім.

Бач. 56 ...зусім нявінны чалавек... Тут вычуваецца выразная алюзыя да лёсу, які спаткаў Сакратаса.

...як сьведку Нікíяса, сына Нікерáтоса... Нікіяс, сын Нікератоса ведамы атэнскі дзяржаўны муж і стратэг. Сьмерць дазнаў у Сыракузах у 413 г. п.н. э. з рук пераможных сыракузан. Быў чалавекам вялікага багацьця і лідарам арыстакратычнае партыі ў часе Пэлёпоннэскае вайны. Дзякуючы ягонаму ўплыву, у 421 г. п.н.э. быў падпісаны мір са Спартаю, названы ягоным імем.

...рад трыподаў... Трыпод /τρίπους, -ποδος/- кажная рэч, якая апіраецца на трох нагах: трыножны зэдлік, крэселка, столік, стол; трыподам гэтаксама называецца трыножная падстава да фатаграфічнага апарату. Характэрныя трыножкі яшчэ і сягоньня ўжываюцца на Беларусі як адумыснае ўладжаньне для варкі стравы. - У старажытнай Грэцыі трыподы ў рознай хворме былі агульна ўжыванымі як свайго роду мэблі ў хатнім абыходзе. У сівой мінуўшчыне трыподы ўжываліся як аўтары́. Вялікаю пашанаю цешыўся трыпод /аўта́р, крэсла, трон/ у Дэльфах, на якім у часе апавяшчаньня аракулу займала месца Пытыя. На ўзор гэтага трыподу выраблялася вялікая колькасьць трыподаў ува ўсёй Грэцыі, а малыя мадэлі гэтага трыподу раздаваліся пераможнікам на Пытыйскіх спаборніцтвах, прысьвечаных Пытыйскаму Апольлёну. З часам трыпод, як узнагарода на спаборніцтвах, стаўся звычаем, які, здаецца, перайшоў у нашыя часы і сягоньня выражаецца ў відзе чашы, кубка... Першапачаткавы трыпод, аднак, выражаўся ўглыбленьнем у хворме катла /чашы/, пераважна выкананага зь медзі і мастацка аздобленага дарагою арнамэнтацыяю, умешчанага так, што тры ногі, на версе якіх ён супачываў, крыжаваліся між сабою пад катлом на сярэдзіне свае высокасьці і апіраліся ніжняю сваею паловаю на падлогу. Ногі часта выконваліся з трох па́раў вужа́каў, кажная між сабою пераплеценая. - Нікіяс быў заможным і ўплывовым чалавекам у Атэнах і,як гэтакі, насіў годнасьць хорэ́госа і быў у стане выставіць у сьвятыні Дыянізоса рад трыподаў.

Бач. 57 ...і расьцягнуць на лаве катаваньня... У дыскусыі над тым, што ёсьць горшым, чыніць ці цярпець несправядлівасьць і якое ёсьць узьдзеяньне на чалавека з прычыны прыняцьця ім або непрыняцьця ка́ры, Плятон уводзіць нас у тыя аддаленыя часы, калі

чалавек адносна чалавека тасаваў, сказалі-б мы, гэтакія ня людзкія і вышуканыя ў мучэньнях зьдзекі. Чытаючы падобныя апісаньні пра суадносіны чалавека да чалавека, мы судрыгаемся. Ад тае сівое пары чалавек, бязсумліву, учыніў значны поступ, асабліва ў галіне навукі, тэхналёгіі і сваей агульнай агладзе. З гэтае прычыны мы маем абаснаваньне судрыгацца і спагадаць няшчасным учарашняга дня і цешыцца, што выпала нам на долю жыць сягоньня і карыстацца тымі правамі і прывілеямі, якія сталіся спадчынаю духа людзкага. У гэтым мы пэўныя. – Але вельмі праўдападобна, што людзі, якія будуць жыць дзьве тысячы і пяцьсот гадоў пасьля нас, будуць гэтаксама судрыгацца на думку і дзівіцца, што, ня гледзячы на наш дваццатага стагодзьдзя поступ цывілізацыйны, лавы катаваньня сталіся нявіннаю забаўкаю ў вабліччу нашых эканамічных уладжаньняў, пабудаваных працаю сучасных нявольнікаў, нашых войнаў, неспатыканых дагэтуль ў гісторыі чалавека сваім засягам і зьверствам, газавых камэраў масавага нішчэньня дзяцей, старых, жанчын і мужчын, спальваньне зажыва людзей у напоўненых імі будынках, нашага вынахаду паняцьця сьценкаў і засьценкаў, неапісальнага жаху ў вачох і цяжкога намі ўяўленьня перажываньняў у перадсьмяротнай хвіліне масавага страляньня ў патыліцу безабароннага чалавека, вынішчаньня дзесяткамі міліёнаў людзей з мэтаю матэрыяльнае нажывы ці анэксыі тэрыторыяў ці нават цэлых кантынэнтаў толькі затым, каб пашырыць засяг свайго панаваньня, гэтак вялікае колькасьці г. зв. меншых нацыяў, паняволеных г. зв. большымі народамі; і, пасьля ўсяго, наяўнасьць апошняга асягненьня людзкага генія, пастаўленьня людзкае ра́сы ў вабліччу пагрозы зьнішчэньня яе і спаралiжаваньня самога жыцьця на нашай плянэце.

Боч. 58 ...Да дзяржаўных мужоў... я не належу... Тут яшчэ раз Сакратас гаворыць пра свае суадносіны да дзяржаўнае службы. Гл. гэтаксама заўвагу да бач. 55 да "Абароны Сакратаса" у перакладзе Яна Пятроўскага, ЗША, I967.

...нашая філе́... Антыёхіс.

Бач. 59 ...чыніць несправядлівасьць ёсьць большае зло, чымся цярпець несправядлівасьць... Думцы гэтай прысьвечаны дыялёг "Ґорґіяс".

...прыгожае... Ідэі прыгожасьці прысьвечаны дыялёг "Гіппіяс большы".

Бач. 63 ...I гэта называеш ты несправядлівасьцю і беспрасьветнасьцю, і безадважнасьцю... Гэтыя тры:

несправядлівасьць, беспрасьветнасьць і безадважнасьць супроцьстаўяцца Сакратасам тром цнотам, пайменна: справядлівасьці, мудрасьці і харобрасьці. У вывадах Сакратаса дзьве рэчы, якія супроцьстаўяцца сабе, прадстаўляюцца як адно цэлае. Адно ня можа быць зразуметым без супроцьлежнасьці свае. Як чалавек можа ведаць што ёсьць прыгожае, калі ён ня ведае, чым зьяўляецца брыдкае.

Бач. 70 ...мы абодва... і г.д. Сакратас часта ў дыскусыях або прамовах /"Абарона Сакратаса", для прыкладу/ ужывае гіронію. У дадзеным выпадку ён тасуе гіранічную гру словаў. Кальлiклес "закаханы" ў народ /δῆμος/ і прыгожага Дэмоса, сына багатага Пірылямпоса.

...і ў філязофію... Калі Сакратас кажа, што ён "закаханы" ў філязофію, тут ёсьць нешта большае, чымся гіронія. Паміж Сакратасаваю эпохаю і нашаю ляжыць адносна доўгае прамежжа часу, і многія паняцьці згубілі сваё першабытнае значэньне. Для прыкладу - паняцьці паэта і паэзыя /"Сымпозыён",205/. Сягоньня слова філязофія ўжываецца ў найрознароднейшым значэньні; нават звычайны валацуга і той мае сваю "філязофію". Але той зьмест, які бачыў у філязофіі Сакратас, а разам зь ім і Плятон - гэта нешта глыбокае, што, фактычна, тварыла найлепшы зьмест іхнага жыцьця і што вылучыла іх і іншых з-пасярод тагачаснае пляды ведамых са свае мудрасьці людзей, як наўзор для прышлых пакаленьняў.

Бач. 71 ...паводля звычаю... або паводля права, паводля справядлівасьці. Пошукі вытокаў права супольнасьці вядуць да звычаю, які выцякае з натуральнага вычуцьця справядлівасьці, запісанага на скрыжалях сэрца чалавека зь няпамятных часоў. Гэтаму звычаёваму праву сафістыя супроцьставілі права натуры - права сілы ў рознародных праявах.

Бач. 72 ...І Піндарос выказвае... Піндарос - выдатны грэцкі лірычны паэта. Радзіўся ў вёсцы Кінаскефалія недалёка Тэбаў /Бэотыя/ і жыў у гадох прыблізна 522-443 да н.э. Ягоная паэзыя, твораная ў Дорыйскім дыялекце, носіць арыстакратычны характар, свомы ягонаму паходжаньню і пісаная ў духу пангэльленістычным. Свой талент прысьвячаў пераважна пісаньню энкоміяў і эпінікіёнаў - той часткі паэтычнай песеннай творчасьці, якая займалася ўрачыстым выслаўляньнем пераможнікаў у бітвах ці на агульнагрэцкіх олімпіядах. Ягоная адзіная паэма, якая дайшла да нас у цэласьці, носіць тытул Эпінікія, і якая была прысьвечана ўрачыстасьцям, зьвязаным з пе-

рамогамі на агульнагрэцкіх гульнях і дзялілася на чатыры кнігі. Дзякуючы знойдзеньню некаторых папірусаў /1900 г./, сталіся даступнымі сьвету фрагмэнты некаторых іншых ягоных твораў. Быў плодным і выдатным паэтам. Ад ягонага таленту, эстэтычнага смаку і прыгожасьці ў выражэньнях, выводзяцца гэтакія паняцьці, як: стыль Піндароса, Піндаросаўская манера, імітацыі одаў Піндароса... Пра ягонае жыцьцё ня шмат дайшло да нас вестак. Гаворыцца, што студыяваў ён у Бэотыі разам з паэтэсаю Корыннаю і быў пераможаны ёю на паэтыцкіх спаборніцтвах, пасьля чаго паэтэса раіла яму "сеяць рукою, а не цэлым мяшком" - алюзыя да ягонае міталёгіі, якою ён упрыгожваў сваю творчасьць. Памер на 80-ым годзе свайго жыцьця.

Бач. 84 ...<u>даліваць свае судзіны</u>... Апавяданьне Сакратаса пра даліваньне судзінаў вельмі нагадвае сабою думку, выражаную ў эв. пав. Мацьвея, 25:1-12.

Бач. 85 ...<u>пражэрлівае птушкі баклана</u>...Баклан - веслаīногая пражэрлівая птушка, якая жыве пераважна на марскіх скалістых узьбярэжжах і корміцца рыбаю. /Савецкая Беларуская Энцыкляпэдыя, т.II, 1970/.

Бач. 95 ...<u>Кінэзіяс, сын Мэлеса</u>... Пра яго ведаем, што жыў у чацьвертым стагодзьдзі п.н.э.; быў атэнскім аўтарам дытырамбаў і вельмі худым і, што адно і другое часта было высьмейвана са сцэны.

Бач. 97 ...<u>пра Мільціядэса</u>... Пра Мільціядэса дайшлі да нас вельмі скупыя весткі, а з таго, што ведаем, гэтаксама ня ўсё зьяўляецца поўным. Плютарх апавядае, што Мільціядэс быў бацькам Кімона, найбольшага палітычнага апанэнта Пэрыклеса. Многія дасьледчыкі нават не падаюць году нараджэньня Мільціядэса, а год сьмерці вызначаюць на 490 п.н.э. Быў ведамым атэнскім стратэгам. Якісьці час быў тыранам /губэрнатарам/ грэцкае калёніі ў Хэрсонэсос у Трацыі /Ґальліпольская поўабтока - сучасная гр. Кальліполіс/ у паўночна-ўсходняй Малой Азыі. У часе паходу разам з Дарыюшам, вялікім каралём Пэрсыі супроць сцытаў /513 г.п.н.э./ Мільціядэс быў ужо дасьведчаным гэнэралам. У гэтай ваеннай выправе аднойчы пэрская армія перайшла Дунай. Мільціядэс разам зь іншымі грэкамі быў вызначаны з адказным заданьнем утрыманьня ў спраўнасьці мосту.Аднак-жа, калі пасьля вызначанага часу Дарыюш не вярнуўся, Мільціядэс загадаў зьнішчыць мост, пакідаючы пэрскага караля на ласку і няласку ўласнага лёсу. Каля 493 г. п.н.э. Мільціядэс вярнуўся у Атэны. Хутка пасьля гэтага, калі пэрская армія,у ліку каля 20.000 пяхоты і ка-

валерыі, распачала інвазыю Аттыкі. Мільціядэс быў выбраны атэнцамі як адзін зь дзесяці гэнэралаў. У прадмеце стратэґіі вядзеньня вайны супроць пэрсаў галасы гэнэралаў разьдзяліліся на дзьве роўныя часткі. Мільціядэс, аднак, пераканаў полемархоса Кальлімахоса аддаць свой голас на карысьць прапановы выдаць бітву пэрскай арміі. Мільціядэс чакаў на адпаведны мамэнт тактычны і падцягнуў сваю армію, у ліку 10.000, пераважна атэнскіх грамадзян, на раўніну пад Маратонам. Тут затасаваў ён адумысную тактыку. "Мільціядэс ведаў", кажа Гэродотос, вялікі гісторык пэрскіх войнаў, "што пэрсы былі мацнейшымі ў цэнтры сваіх войскаў, дзе яны масаю ставілі сваіх лучнікаў, і слабейшымі на крылах. Затым ён паставіў свае слабейшыя аддзелы ў цэнтры, а сільнейшыя даў на флянкі. Як бачыце, думкаю ягонаю было стварыць мяшок, дарогаю зламаньня пэрскіх крылаў. Тады ён мог праз адкрытыя флянкі ўрэзацца ў пэрскі цэнтар". Гэтак і сталася. Грэкі хутка агарнулі поле бітвы, пераймаючы агорнутага страхам ворага і, уводзячы ў зьбянтэжанасьць лучнікаў, своммых да павольнага браньня мэты. Пэрсы пачалі ратавацца ўцёкамі. "Яны былі першымі грэкамі...", кажа далей Гэродотос, "каторыя атакавалі сваіх ворагаў у бегу ..." "і, насядаючы на ўцякаючых пэрсаў, секлі іх на месцы, аж пакуль яны не асягнулі мора". На ўзьбярэжжы вывязалася змаганьне ў ручную – чалавек супроць чалавека, зь якога пэрсы ратаваліся на свае вадаплавы, зь якіх сем здабылі грэкі. Гэта была найбольшая тагачасная бітва, якая мела месца ў 490 г. п. н.э., а перамога ў ёй грэкаў акрыла славаю вялікага гэнэрала Мільціядэса. Мільціядэс безадкладна выслаў у Атэны пасланца з весткаю, што пэрская армія разьбіта пад Маратонам. "Радуйцеся, мы перамаглі!" вышаптаў пасланец, прыносячы вестку ў Атэны, але фізычна вычарпаны бегам на адлегласьць 42-х кілямэтраў, жаўнер тут-жа ўпаў мертвым. З гэтае пары Маратон стаўся сымбалем перамогі свабоды над дэспатызмам, а бег пасланца аж да нашых дзён стаўся ў спорце бегам маратонскім – найдаўжэйшы бег у лёгкай атлетыцы – 42.195 мэтраў – названы гэтак дзеля адданьня пашаны грэцкаму жаўнеру, які прабег адлегласьць з Маратону ў Атэны. – У міжчасе, пэрская армія, сьведамая таго, што ўсе атэнскія сілы сузграмаджаныя на полю пад Маратонам, скіравала сваю флятылю проста на Атэны. Мільціядэс, аднак, не супачыў на ляўрах. У фарсоўным маршы ён прыбыў са сваім войскам у Атэны на адзін дзень раней ад пэр-

саў. Сам спазор атэнскага войска ўздоўж узьбярэжжа ў старым атэнскім порце Фалероне і гатовага да бою, змусіў завярнуць пэрскую флятылю. - Пасьля перамогі над пэрсамі Мільціядэс пераканаў атэнцаў даручыць яму камандаваньне над збройнымі морскімі сіламі Атэнаў у ліку сямідзесяці вадаплаваў, каторыя ён выкарыстаў у выправе супроць пэрсаў на востраве Парос, маючы на ўвазе свае прыватныя парахункі з ворагам. Выправа кончылася непаводжаньнем для Мільціядэса, які быў цяжка ранены ў нагу. Пасьля павароту ў Атэны, гэнэрал быў аддадзены пад суд за ўвядзеньне насельніцтва ў блуд і быў засуджаны на ка́ру сьмерці. Бяручы, аднак, пад увагу ягоныя заслугі перад дзяржаваю, ка́ра сьмерці была заменена на штраф грашыма ў суме пяцідзесяці талентаў. Ня будучы ў стане заплаціць вялікае сумы, Мільціядэс быў пасаджаны ў вастрог, дзе ён хутка пасьля гэтага, з прычыны дазнанае раны на назе, памер.

Бач. I08 ...ці Понтосу... Гр. Πόντος Εὔξεινος, Чорнае мора.

Бач. III .."вывучваць ганчарскае мастацтва,пачынаючы зь вялікага гляка".. /пітос/. Выслоўе, якое гіранізавала ня правільны падход да дадзенага мастацтва. Пітос у рознай вялічыні і хворме выраблўся з гліны і служыў як зьмяшчальнік для пераховўваньня і транспарту цякоміны і збожжа.

Бач. II3 ...і любові да грошай... Выказваньні Сакратаса адсланяюць тут перад намі заслону здарэньняў мінуўшчыны івяжуца з нашаю сучаснасьцю. Сяганьня кажны чалавек працы: у хвабрыцы, на ўрадавым становішчы, у гэтак званай вольнай прафэсыі ці сьвятар - усе атрымліваюць сваю заплату, узнагароду, ганарар... Плютарх у вадным із найболей ведамых сваіх трох твораў "Біяграфічныя параўнаньні", у частцы, якая займаецца біяграфіяю Пэрыклеса і азагалоўленая "Пэрыклес", расказвае нам як апошні пачаў уводзіць інавацыі ў дзяржаўным жыцьці ў хворме г. зв. кляруxіяў/αἱ κληρουχαί/ г. зн. раздаваньня заслужаным людзям зямельных надзелаў, платы грашыма ўрадоўцам; стаўся марнатраўным і самавольным. Тамжа чытаем гэтаксама, што супроць Пэрыклеса былі высунутыя неабаснаваныя абвінавачаньні, інспіраваныя палітычнымі ворагамі Пэрыклеса. У 444 г. п.н.э.была першая спроба звольніць яго з займанага становішча. У 43I г. п.н.э. выбухла Пэлёпоннэская вайна, якая падмінавала многае з асягненьняў Пэрыклеса і зьнішчыла Атэны. Калі вайна прыняла напрамак супроць Атэнаў, ворагі Пэрыклеса заатакавалі яго,уз-

дымаючы паважныя абвінавачаньні супроць ягоных прыяцеляў – Анаксаґораса, Фідіяса і Аспазыі. Неўзабаве ў месьце выбухла зараза. Нездаволеньне супроць Пэрыклеса ўзрастала, у выніку чаго Пэрыклес быў зьняты з займанага ім становішча, суджаны і абложаны грашовою ка́раю. Аднак атэнцы пакаяліся і "народ прасіў даравацъ яму ягоную несправядлівасьць". Пасьля гэтага Пэрыклес зноў быў пакліканы на становішча стратэга і дзяржаўнага мужа, якое займаў да сьмерці. /Гл. Плютарх – "Біяграфічныя параўнаньні" і Тусідідэс/.

Бач. II4 ...з Кімонам... Кімон, сын Мільціядэса, стратэг і дзяржаўны муж у Атэнах. Пры помачы г.зв. астракізму быў выдалены зь места на дзесяць гадоў.

...астракізму... або выгнаньне, якое практыкавалася ў старажытных Атэнах. Астракізм практыкаваўся пры помачы суду і галасаваньня з ужыцьцем г.зв. остраконаў. Астракізм пераважна ўжываўся ў двух асноўных выпадках: I. У выпадку надужыцьця на дзяр-



Остракон





Дыск у хворме круцёлкі



жаўным становішчы, і 2. У выпадку даўжэйшага часу займаньня дадзенага становішча і гэтым самым здабыцьця празьмернага ўплыву ў месьце, пагражаючага атэнскай дэмакрацыі і свабодзе. – Остракон, які ўжываўся пры галасаваньні – гэта выпалены з гліны чарапок з выпісаным імем супроць каго падаваўся голас. Выпалены з гліны дыск у хворме круцёлкі ўжываўся судзьдзямі ў часе галасаваньня: адналіты /бяз дзіркі ў сярэдзіне/ азначаў "невінаваты", зь дзіркаю – "вінаваты".

...з Тэмістоклесам... Тэмістоклес гэтаксама быў паддадзены астракізму з мэтаю зьнішчэньня ягонага аўтарытэту і высокага становішча ў месьце.

...зъ Мільціядэсам... Гл. заўвагу да бач.89.

Бач. II6 ...Тэарыён - пекар... Імя гэтага пекара ўспамінаецца ў фрагмэнтах не дайшоўшых да нас Арыстофанэсавых творах.

...Мітаікос... з Сыракузаў зьяўляецца аўтарам кнігі пра кулінарнае мастацтва ягонага места.

...Сарамбос... Пра гэтага гандляра віном прыгадваецца ў фрагмэнтах грэцкага паэты новае камэдыі - Посідіппоса, творы якога не дайшлі да нас у цэласьці.

Бач. II9 ...Місійцам,... Місіец - прадстаўнік племя ў Малой Азыі - місійцаў. Тут Кальліклес выказвае выслоўе, сутнасьць якога зводзіцца да таго, што кажную рэч трэба называць яе ўласным імем, або, інакш кажучы, трэба заўсёды гаварыць праўду. Нявольнікі з-пасярод місійцаў уважаліся найгоршымі.

Бач. I20 ...І я ня буду зьдзіўленым, калі буду засуджаным на сьмерць... Візыя, у якой Сакратас рысуе сваю будучыню - пайменна, сваю сьмерць і прычыны яе, дае нам ня толькі першараднага пісьменьніцкага таленту Плятона, але ягонае вычуцьцё перакананьня слухача ў прадмеце адваёўваньня праўды, якая творыць сутнасьць ягонага жыцьця як і прыкладу для пакаленьняў, што будуць сьледаваць пасьля. Плятон, запраўды, выступае тут вялікім думаньнікам.

...Мне здаецца, што я зьяўляюся адзіным, або бадай-што адзіным з жывых сягоньня атэнцаў, каторы займаецца праўдзівым мастацтвам дзяржаўнага кіраўніцтва... Пра суадносіны філёзафа да дзяржавы і пра суадносіны грамадзяніна места да філёзафа многа гаворыцца ў Плятона. І тое, на што Плятон кладзе асаблівы націск - гэта ўменьне займацца вялікаю грамадою, імя якой места-дзяржава. Займацца гэтым, паводля Плятона, можа толькі чалавек паважны, чэсны, вучоны, разумны, інакш кажучы, філёзаф. Мы ведаем, што, каб гадаваць авечак, коней ці якую-небудзь іншую жывёлу, рэкамэндуюцца адумысныя школы, курсы, падручнікі. Калі гэтулькі ўдзяляецца ўвагі дзеля асягненьня добрых рэзультатаў у галіне жывёлагадоўлі, дык колькі-ж, запраўды, павінна ўдзяляцца ўвагі ўзгадаваньню самога чалавека як гэткага, і як лідара ў апрычонасьці. - У сьвятле нашае рэчаіснасьці, якая характэрызуецца блізказыркасьцю, тыранствам, усякага роду ашуканствам, захопніцтвам чужое ўласнасьці і практыкаю нявольніцтва... слова Плятона, запраўды, уздымаецца на гарызонце, як пуцьцяводная зорка для тых, каторыя яшчэ ня згубілі здольнасьці адрозьніць добрага ад дрэннага.

Бач. I22 ...Зэус... кароль і бацька багоў і людзей, сын Кроноса і Рэі, а згэтуль часамі завецца Кронідэс.

...Посэйдон... сын Кроноса і Рэі - брат Зэуса, бог і валадар мораў.

...Плютон... сын Кроноса і Рэі, брат Зэуса і Посэйдона; валадар падзямельля - Гадэсу; быў уважаны за даўцу ўсякага матэрыяльнага дабра: зярно, хлеб і наагул багацьце чалавека, якое выводзілася зь нетраў зямлі ці Гадэсу; затым Плютона часта называлі Гадэсам.

...Кронос... У грэцкай міталёгіі сын Ґэі /багіні зямлі/, і Ураноса /бога нябёсаў/, муж Рэі, бацька Зэуса, Гадэса /Плютона/, Посэйдона, Дэмэтры, Гэры і Гэстыі. Гэта быў ён - наймалодшы з тытанаў /асілкаў/ - каторы павёў бунт супроць Ураноса і кіраваў сьветам аж да часу пакуль ня быў скінутым багамі на Олімпе пад кіраўніцтвам Зэуса ў бітве,званай Тітаномахі. Пасьля гэтае бітвы ён быў валадаром Абтокаў Добраслаўленых. Ягонае панаваньне на зямлі было Залатым векам. Утоесамліваўся рымлянамі зь іхным богам Сатурнусам. Сталася гэта праўдападобна з тае прычыны, што паходжаньне сваё выводзіў ён зь вераваньняў як бог земляробства перад-гэльленістычных людзей.

...Абтокі Добраслаўленых... або шчасьлівых - легэндарныя абтокі ў заходняй частцы Акіяну.

...Тартар... У "Іліядзе" Гомэр прадстаўляе Тартар як месца, паложанае пад зямлёю і прадназначанае для бунтарных асілкаў. Тартар знаходзіцца гэтак унізе пад Гадэсам, як нябёсы высака над зямлёю,і запертыя жалезнымі варотамі. Пазьней паэты ўжывалі гэтае выражэньне, як сынанім для Гадэсу.

...Промэтэус... або Прадбачлівасьць - у міталёгіі грэцкай сын тытана /надчалавека/ Іапэтоса, брат Эпімэтэуса /або: думкі, што наведвае чалавека спозьнена/, вынаходнік многіх мастацтваў, асабліва вырабаў з жалеза і гліны. Пра яго кажацца /Айсхілёс/, што ён украў агонь зь неба і навучыў людзей як карыстацца ім; за гэта Зэус прыкаваў яго да скалы ў горах Каўказу, дзе коршык што-дзень выдзіраў яму кавалкамі вантробу, якая праз ноч адрастала. Гэраклес вызваліў яго з гэтага цярпеньня.

Бач. I23 ...Айакос... У грэцкай міталёгіі сын Зэуса і німфы Айгіны, дачкі багіні ракі Азопос. Быў каралём Мірмідонцаў - мурашак, якіх Зэус перайначыў у людзей. Стаўся ведамым з прычыны свае справядлівасьці, а пасьля сьмерці быў ведамым як адзін з трох

дзяў у Гадэсе.

Бач. 125 ...Танталёс... Паводля грэцкае міталёгіі сын Зэуса і німфы. Пра яго дайшло да нас многа традыцыйных пераказаў зь вялікаю недакладнасьцю. Ягоную жонку адны называлі Эўрыанасса, іншыя – Тайґэта або Дыёна, а яшчэ іншыя – Кліція або Эўпрыто. Іншая вэрсыя пра яго гаворыць, што быў ён каралём, паводля адных, места Лідыі, паводля іншых – сільнага і ўплывовага Арґосу або Корынту. У старадаўных і няпамятных днях абыходжана памятка Танталёса з прычыны накладзенае на яго кáры пасьля ягонае сьмерці. Іншы пераказ кажа, што Танталёс апавясьціў тайніцы, якія даверыў яму Зэус і за гэта быў паддадзены страшэнным мучэньням у сьвеце падзямельля. Гомэр [Одысэя, 582] кажа, што "Я бачыў гэтаксама страшэнны лёс Танталёса, каторы стаяў у возеры, вада якога даходзіла яму да падбародка; ён паміраў ад мучэньняў смагі, і адначасна ніколі ня мог напіцца вады, бо кажны раз, калі небарак нахіляўся, каб напіцца, возера тут-жа высыхала і шчазала да гэтакае ступені, што нічога не аставалася апрача сухога дна, спражанага сьпякотаю нябёсаў. Стаялі тамака высокія разлажыстыя дрэвы, пакрытыя пладамі над ягонаю галавою – ігрушы, ґранаты, яблыкі, салодкія хвіґі і сачыстыя алівы, але кажны раз, калі гэтае беднае тварэньне працягвала сваю руку, каб сарваць плод, уздымаўся вецер і адхіляў галіны высака аж пад воблакі". Іншая традыцыя кажа, што, хочучы выпрабаваць багоў, ён пакроіў на кавалкі ўласнага сына Пэлёпса. А яшчэ іншая сьцьвярджае, што ён украў са стала багоў нэктар і амброзыю. Паводля іншага пераказу Танталёс сьцягнуў на сябе кáру, атрымліваючы залатога сабаку, якога Рэя вызначыла дзеля пільнаваньня Зэуса і ягонае даглядчыцы, і якога Пандарэос украў. Цярпеньні, выплываючыя з кáры Танталёса сталіся пагаворкаю, зь якое многія мовы прысвоілі сабе гэткія выражэньні, як: Танталёсавыя мучэньні, пакуты Танталёса, танталізаваць: паддаваць Танталёсавым мучэньням: трыманьня некага бяз ежы або без вады, у холадзе або ў празьмернай гарачыні; тасаваньне паніжэньня ў хворме маральнага або псыхалягічнага ўзьдзейваньня; танталізацыя – стан танталізаваньня; танталізаваньне /паддаваньне танталізацыі/; танталізм /караньне дарогаю танталізацыі або стан, дазнаваны з прычыны тасаваньня танталізацыі/.

...Сызыфос... сын Айолёса, згэтуль званы Айолідэсам. Праз жонку Мэропу, дачку Атляса, стаўся бацькам Ґляўкоса, які быў бацькам Бэльлерофона, Ор-

ныцiёна або Порфiрыёна, Тэнсандэра i Гальмоса /Сэр Вiльлiям Смiт/. Пра яго кажацца, што ён збудаваў места Эфыра, якое пазьней стаецца ведамым як Корынт. Будучы каралём Корынту, кладзе падвалiны для навiґацыi i гандлю, але ён быў змыльны, скупы i прагавiты /гл. Гомэр, "Iлiяда", УI, I44 i далей/. З прычыны сваiх маральных недахопаў Сызыфос быў паддадзены ка́ры ў сьвеце падзямельля, аб чым Гомэр ["Одыссэя", XI, 593] гаворыць: "Я бачыў Сызыфоса пры ягонай бясконцай працы, уздымаючага абедзьвюма рукамi аграмаднае вялiчынi камень. Пры помачы рук i ног ён стараўся ўскацiць на шчыт гары гэты камень, але заўсёды, калi ён быў ужо бадай-што на ўзьверсе гары, цяжар каменя ставаўся за вялiкiм для яго, i гэты бязьлiтасны камень з грымотам звальваўся зноў на падножжа гары. Тады iзноў ён стараўся гэты камень ускацiць на верх, ацякаючы потам пры ўздыме па́ры за iм". Згэтуль выслоўе: Сызыфовая праца.

...Тытыос... сын Ґаiя /або Зэуса i Эляры, дачкi Орхомэноса, быў асiлкам на абтоцы Эўбэйя. "I я бачыў, - кажа Гомэр /"Одыссэя", XI, 576/ - Тытыоса, сына Ґаiя, расьцягнутага на раўнiне, якая займала сабою плошчу каля чатырох гэктараў. Два арлы сьцярвятнiкi на кажным баку яго выдзiралi сваiмi дзюбамi ягоную пячонку, i ён прабаваў рукамi адагнаць iх, але нiчога ня мог зрабiць; бо ён ужыў сiлу адносна ... Ле́то [мацi Апольлёна i Дыяны], калi яна праходзiла праз Панопэус, кiруючыся ў Пiто́ !або ў Дэльфы!".

...Тэрзiтэс... найболей брыдкi з грэкаў, у сэнсе фiзычным як i маральным, бяссорамны i абражаючы годнасьць людзей словам пад Трояю. /Гл. Гомэр,"Iлiяда", II, 2I2 i наст./. Паводля ўспамiнаў пазьнейшых паэтаў быў забiты Ахiльлесам.

...Арыстiдэс, сын Лiсiмахоса... грамадзянiн места Атэнаў зь мянюшкаю "Справядлiвы", паходзiў са старога шляхэцкага роду. Ён быў адным зь дзесяцi атэнскiх стратэгаў, якi браў чынны ўдзел у бiтве пад Маратонам /480 г. п.н.э./. У наступным годзе -479 п.н.э. заняў пазыцыю галоўнага архонта ў месьце. Будучы галоўным палiтычным опанэнтам Тэмiстоклеса,быў паддадзены астракiзму. Было гэта ў 483 цi 482 г. п. н.э., будучы ў зґзылю, зарганiзаваў на ўласны кошт вайсковы аддзел, прыняў з добрым вынiкам удзел у бiтве пад Салямiсам. У наступным годзе адклiканы з выгнаньня, заняў ранґу стратэга ў вайне супроць пэрсаў. Пазьней аказаў выдатную службу дзяржаве ў галiне праўнае сыстэмы як i ўпарадкаваньнi фiнансаў

Дэлійскае Лігі. Памер праўдападобна ў 468 г. п.н.э., пакідаючы па сабе памяць годнага дзяржаўнага дзеяча і выдатнага стратэга грэцка-пэрскіх войнаў, ушанаваны беззацікаўленасьцю ўласнага дабрабыту, скромнасьцю і справядлівасьцю.

...З па́ліцай з золата – права дзяліў між памершых... Гл. Гомэр, "Одыссэя", XI, 568.

# І Н Д Э К С

=

| бач. | радок | | павінна быць | ёсьць |
| --- | --- | --- | --- | --- |
| | зьверху | зьнізу | | |
| I5 | | 3 | самога | самогы |
| I7 | | I | I865 | I864 |
| I7 | | 9 | - казалі | казалі |
| I9 | I7 | | прыгожасьці | пругожысьці |
| 28 | | 20 | толь- | тол |
| 29 | I3 | | Ґорґіяс, | Ґорґіяс |
| 77 | I5 | | на прышласьць | напрышласьць |
| 86 | | II | нядаўна | надаўна |
| I08 | | 23 | навылячальных | невялячальных |
| II7 | 20 | | на | не |
| I24 | I3 | | ня- | нягод- |
| I34 | 24 | | "пэ- | пэ- |
| I42 | I5 | | выгнаньня | выгнаньне |
| I43 | I | | 97 | 89 |
| I45 | I | | судзьдзяў | дзяў |
| I40 | I | | Аттыкі, | Аттыкі. |
| I46 | | 2I | [або ў Дэльфы]". | !або ў Дэльфы! |